# ПРАЦЯГ СПРАДВЕЧНЫХ ТРАДЫЦЫЙ

Шэраг слаўных юбілеяў, якія адзначала Беларусь цягам трох апошніх гадоў, пакінуў яркі адбітак у творчасці дзеячаў навукі, культуры і мастацтва. 500-годдзе беларускага кнігадрукавання і беларускай Бібліі, паглыбленне ведаў пра дзейнасць асветніка, гуманіста і першадрукара Францыска Скарыны выклікалі вялікі ўздым у духоўным і інтэлектуальным жыцці нашага грамадства, падштурхнулі да новых даследаванняў у кнігазнаўстве, біблеістыцы, паспрыялі развіццю дыскусійных пляцовак, пашырэнню цікавасці да беларускай культуры і мовы.

200-годдзе з дня народзінаў слыннага беларускага і польскага кампазітара Станіслава Манюшкі абудзіла крэатыўнасць творчай інтэлігенцыі і спарадзіла вялікі ланцуг маштабных імпрэз (канцэртаў, стварэння віртуальных праектаў, выставак з удзелам самых бліскучых талентаў краіны: лепшых артыстаў, музыкантаў, мастакоў). 150-годдзе з дня нараджэння знакамітага жывапісца Фердынанда Рушчыца натхніла на вандроўкі па мясцінах яго жыцця і дзейнасці з лекцыямі і канцэртамі музыказнаўцаў, мастацтвазнаўцаў і аматараў падарожжаў.

На фоне гэтых і іншых падзей выдатна праявіліся рысы лепшых талентаў Беларусі, яе адданых сыноў і дачок, у сэрцах якіх жывуць высокія ідэалы духоўнага Адраджэння Бацькаўшчыны.

У апошняе дзесяцігоддзе на Беларусі актыўна развіваецца дзейнасць хрысціянскіх канфесій. Адбываецца працэс узаемаўзбагачэння паміж гуманітарнай навукай і канфесійнай практыкай, пашыраюцца тэалагічныя і культуралагічныя даследаванні, праводзяцца навуковыя канферэнцыі, развіваецца мастацтва пропаведзі, пашыраецца дзейнасць канфесійных СМІ, дзейнічаюць літаратурныя клубы, вядзецца вывучэнне і папулярызацыя царкоўнай музыкі, закладзена традыцыя фестываляў хрысціянскай культуры. Героі кнігі — актыўныя ўдзельнікі гэтых працэсаў.

Узнікла патрэба зафіксаваць гутаркі з дзеячамі культуры сярэдняга пакалення, а таксама з прадстаўнікамі грамадскіх арганізацый і рэлігійных аб'яднанняў, каб у плыні часу не зніклі лепшыя памкненні іх душаў і сэрцаў, іх велічная праца, старанні і руплівасць.



Шчырыя аповеды пра іх зацікаўленасці і захапленні, пра шляхі да сталення ў прафесійным пакліканні, пра плённыя творчыя кантакты з сябрамі па духу на Беларусі і ў замежжы будуць цікавыя іх аднадумцам.

Большасць герояў гэтай кнігі — хрысціяне, якіх Дух Святы натхняе на творчасць, на шляхі да святыняў, на пошукі кніжных скарбаў, вытанчаных мелодый, яркіх фарбаў і вобразаў.

Героі кнігі — асобы неардынарныя, запаленыя ідэяй, верныя свайму пакліканню. Яны шчыра дзеляцца сваёй творчасцю з усім грамадствам, прадстаўляюць беларускую культуру на высокім еўрапейскім і сусветным узроўні.

Натхненнем Святога Духа Ты азараеш думкі геніяў навукі, мастакоў, паэтаў. Сілаю звышсвядомасці яны па-прарочы спасцігаюць законы Твае, раскрываючы нам бездань творчай мудрасці Тваёй. Іх справы мімаволі кажуць пра Цябе: о, які Ты вялікі ў Сваіх стварэннях, які Ты вялікі ў чалавеку! Слава Табе за жыватворную сілу працы, слава Табе за геніяльнасць чалавечага розуму! Слава Табе за вогненныя языкі натхнення!

*Мітрапаліт Трыфан (Барыс Туркестанаў)*

# ВОДГУКІ 500-ГОДДЗЯ БЕЛАРУСКАЙ БІБЛІІ — У СЛОВЕ І Ў МУЗЫЦЫ



## НАВУКОВЕЦ-КУЛЬТУРОЛАГ ЗБЕРАГАЕ КНІЖНУЮ СПАДЧЫНУ



• *Алесь Суша*

*Алесь Суша — бліскучы хрысціянскі сучасны мысляр, глыбокі даследчык і захавальнік кніжных скарбаў Беларусі, кандыдат культуралогіі, старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, адзін з ініцыятараў факсімільнага ўзнаўлення кніжнай спадчыны Францыска Скарыны, аўтар больш чым 10 выданняў, прысвечаных Францыску Скарыне, аўтар 450 навуковых прац, знаўца шасці замежных моваў.*

*Ён даследаваў кніжную культуру Беларусі са старажытных часоў, удзельнічаў у вывучэнні і факсімільным узнаўленні Полацкага і Тураўскага Евангелляў, даследаваў Жыровіцкае Евангелле. Прымаў удзел у перавыданні шэрагу літаратурных прац Максіма Багдановіча і Янкі Купалы, у факсімільным узнаўленні «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі» Вацлава Ластоўскага. Ён вярнуў з забыцця літаратурную і гістарычную спадчыну дзеячаў уніяцкай царквы: Якуба Сушы, Антонія Сялявы, Ігната Кульчынскага, Міхала Баброўскага іншых. Захоўваючы ў душы святыню беларускасці і хрысціянскасці, з трапяткім і беражлівым стаўленнем ён падыходзіць да артэфактаў старажытнасці і надае ім новае жыццё.*

*Алесь Суша нарадзіўся ў 1982 годзе ў Мінску. У 2005 годзе ён закончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў па спецыяльнасці «Культуралогія», у 2007 годзе — Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы, у 2008 годзе — аспірантуру БДУКіМ, у 2009 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю. Ён займаецца вывучэннем гісто-*

*рыі кніжнай культуры Беларусі, працэсаў фарміравання і выкарыстання культурнай спадчыны, пытанняў міжкультурнага ўзаемадзеяння.*

*Навуковец адшукаў у Лонданскай бібліятэцы «Мідл-Тэмпл» знакавы артэфакт — першы беларускі «Буквар», даследаваў яго і надаў яму новае жыццё ў кантэксце сучаснасці. Разам з амерыканскай арганізацыяй «Manuskript group research» ён працаваў над арганізацыяй і правядзеннем знакавай для нашай краіны маштабнай міжнароднай выставы «Беларусь і Біблія».*

*Натхняльнік і рэалізатар шматлікіх выставачных кніжных праектаў, кіраўнік штогадовых Міжнародных кнігазнаўчых чытанняў, ён запрашае да ўдзелу у канферэнцыях сотні літаратуразнаўцаў, бібліёграфаў і філолагаў і разам з імі паглыбляецца ў інтэлектуальную дыскусію, у філасофскія абагульненні, атрымліваючы асалоду ад выражэння прыгожых ідэй.*

*З выдатным мастацкім словам ён вядзе дэманстраванне кніжных скарбаў Беларусі на высокім міжнародным і дыпламатычным узроўні. Ён развівае культуралагічныя даследаванні, арганізуе навуковыя круглыя сталы і дыскусіі, ладзіць сацыякультурныя акцыі, запальвае агеньчык цікавасці да кніжак у дзетак. Знайшоўшы поле, засеянае дыяментамі, даследчык руплівa апрацоўвае яго.*

*Плённа творыць сучасны мысляр, які прасвятляе сваімі думкамі і ідэямі сферу кніжных даследаванняў. Святы Дух, які сыходзіць ад старажытных кірылічных славянскіх кніг, выданняў Францыска Скарыны, Пятра Мсціслаўца, Лявонція Карповіча, Мялеція Сматрыцкага, пранізвае наскрозь сучаснага навукоўца. Яго словы і тэксты выпраменьваюць іскры святла, ажыўляюць слухачоў, натхняюць на творчасць. Ён паўтарыў подзвіг першадрукара Францішка Скарыны — спрычыніўся да факсімільнага ўзнаўлення ўсёй Біблii беларускага асветніка і адважыўся рэалізаваць ідэю Мікалая Радзівіла Чорнага — перавыдаць і даследаваць найкаштоўнейшую Берасцейскую Біблію. Навукоўцам рухае гарачае імкненне данесці да чытачоў і замацаваць у грамадскай свядомасці звесткі пра выбітных асветнікаў, рэдактараў і выдаўцоў, майстроў кнігавыдавецкай справы эпохі Рэнесансу і Рэфармацыі. Ласка Божая кранае чытача, хвалюе грамадзянская пасіянарнасць.*



## Скарыніч даследуе Біблію

6 жніўня 2017 года на культурна-асветніцкім свяце ў гонар 500-годдзя беларускага кнігадрукавання ля Чырвонага касцёла намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі па навуковай і выдавецкай дзейнасці А. А. Суша распавёў пра дзейнасць бібліятэкі па вывучэнні кніжнай спадчыны Францыска Скарыны. Пасля ўрачыстасцяў навуковец адказаў на пытанні, звязаныя з яго даследаваннямі і з тым, як Францыск Скарына паўплываў на яго лёс.




• *У Чырвоным касцёле на свяце 500-годдзя беларускага кнігадрукавання*

— Францыск Скарына — знакавы чалавек для нашай культуры, — адзначыў навуковец. — Яго спадчына падаецца мне найбольш актуальнай. Яшчэ сто год таму беларусы зусім мала ведалі пра Скарыну, нягледзячы на яго заслугі. У некаторы перыяд памяць пра яго адышла ад той зямлі, якой ён прысвячаў свае кнігі. Апошнія сто год былі часам вяртання. Яго спадчына двухаб’ёмная.

Першая частка — гэта ўласна кніжная спадчына, якая з’яўляецца матэрыяльным увасабленнем генію і таленту Францыска Скарыны — пражскія і віленскія выданні. Падчас ажыццяўлення навуковай праграмы Нацыянальнай бібліятэкай упершыню быў зроблены глыбокі і поўны ўлік усіх захаваных у свеце экзэмпляраў кніг Францыска Скарыны і рукапісных копій яго арыгінальных выданняў.

Сёння мы ведаем дакладную колькасць гэтых асобнікаў. Па максімальна дэталізаванай методыцы падліку (калі лічыць усе пражскія выданні, 23 выпускі), у свеце захоўваюцца 521 асобнік такіх кніг. У большасці гэта фрагменты кніг: палова альбо частка кнігі. Тым не менш усе яны для нас важныя, каштоўныя і цікавыя. Паралельна з гэтым мы вядзём улік скарынаўскай спадчыны па ўсім свеце, апісваем кожную адзінку, аналізуем рукапісныя знакі на кнігах, пячаткі бібліятэк, кнігазбораў папярэдніх уладальнікаў. Праца будзе працягвацца.



• *Біблія Францыска Скарыны*



Акрамя таго, ствараюцца лічбавыя копіі выданняў Францыска Скарыны, лепш сказаць, паўнацэнная электронная бібліятэка яго выданняў з усяго свету. У Беларусі было толькі 10 кніг, якія захоўваюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы. І вось нядаўна адзін асобнік «Малой падарожнай кніжкі» з 18 частак быў набыты «Белгазпрамбанкам». Сёння мы спрабуем рабіць некаторыя захады па вяртанні кніг Скарыны на радзіму. Магчымае часовае экспанаванне гэтых кніг.

Другая частка, якая асабіста мне вельмі цікавая, — гэта вобраз асветніка, створаны ў нашай ментальнасці. Верагодна, ён не задумваўся пра вялікую славу, але сёння Скарына выконвае важную ролю для беларускага грамадства, не меншую, чым пры сваім жыцці. Ён не з'яўляецца дзеячам мінулай эпохі, а існуе сёння паміж нас. Яго імя носяць праспекты, плошчы, набярэжныя, ён прысутнічае ў нашай ментальнасці як сімвалічная персона. Ён лучыць нас з многімі гарадамі і краінамі — з Прагай, Падуяй, Венецыяй. Ён з'яўляецца адным з сімвалаў, якім беларусы ганарацца незалежна ад канфесійнай, палітычнай і этнічнай прыналежнасці. Ён не канфліктны і не выклікае супярэчання розных субкультур, ён нас яднае. Беларусы мітраполіі і дыяспары, школьнікі, студэнты, прафесура, беларускамоўныя ці польскамоўныя людзі, — усе ведаюць, хто такі Францыск Скарына.

На пытанне, як адбылося, што асветнік, гуманіст і першадрукар стаў асабліва важнай асобай у лёсе даследчыка, Алесь Суша распавёў:



— Як любы беларус, я меў магчымасць часта чуць імя Францыска Скарыны. У маім дзяцінстве адбываўся юбілей 1990 года, які шырока святкаваўся, — 500-годдзе з мяркуемага дня народзінаў Францыска Скарыны. Я нарадзіўся ў Мінску ў 1982 годзе, жыў на праспекце імя Францыска Скарыны, у мяне ў пашпарце і ў медычнай картцы быў пазначаны такі адрас. Гэта імя для мяне шмат значыла. Калі я вучыўся ў 2-м класе 190-й мінскай школы ва Уруччы, звычайна школьнікі далучаліся да арганізацыі акцябрат. Але ў краіне адбываліся грамадскія зрухі і паўставала пытанне аб мэтазгоднасці далучэння да такой арганізацыі. У нашай школе (а можа, і ва ўсім Мінску) адзін наш клас вырашыў не быць акцябратамі. У выніку мы стварылі сваю грамадскую арганізацыю, назваліся скарынічамі, за сімволіку ўзялі сонца з паўмесяцам. У нас была свая цырымонія прыёму, і ўсе нам зайздросцілі.

Калі я прыйшоў у Нацыянальную бібліятэку яшчэ падчас навучання ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры, я пачынаў працаваць у аддзеле рукапісаў і старадрукаваных выданняў (рэдкай кнігі), які захоўваў выданні Францыска Скарыны.



• *У Музеі кнігі Нацыянальнай бібліятэкі*

У момант пераезду бібліятэкі ў новы будынак на маіх вачах узводзіўся помнік Скарыне па праекце Аляксандра Дранца. Памятаю ўсе абставіны яго стварэння. Я займаўся ў той час важнай і адказнай справай — арганізацыяй транспарціроўкі старадрукаваных выданняў.

Мы працягнулі нашу гутарку з навукоўцам у адным з памяшканняў бібліятэкі.

**— Спадар Алесь, вы зберагаеце ў бібліятэцы самыя каштоўныя старадрукі, у тым ліку выданні Францыска Скарыны, якім шмат стагоддзяў. А якія традыцыі веры і любові да кнігі склаліся ў вашай сям'і?**

— У школьныя і студэнцкія гады адной з любімых завядзёнак у мяне было наведваць кнігарні, хадзіць на прэзентацыі. Дома ў нас была найбагацейшая бібліятэка: ва ўсіх трох пакоях стаялі шафы з кнігамі — вялікія, на усю сцяну, застаўленыя, бывала, у два шэрагі. З дзяцінства я чытаў і мастацкія творы, і пазнавальную літаратуру, наведваў школьныя

і дзіцячыя бібліятэкі. Добра працаваць з крыніцамі навучылі выкладчыкі Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Коласа.

Мая маці Галіна Аркадзьеўна была журналістам, працавала ў Белтэлерадыёкампаніі, у Інстытуце культуры Беларусі, адзін час была экскурсаводам. З ёй як гідам мы часта адпраўляліся ў аўтобусныя вандроўкі па краіне. Бацька, Аляксандр Васільевіч, нягледзячы на тэхнічную адукацыю і працу на заводзе колавых цягачоў, быў адданым прыхільнікам беларускай мінуўшчыны, з задавальненнем і радасцю выпісваў мастацкія і краязнаўчыя выданні, мы з сястрой Дашай з захапленнем чыталі. Для нашай сям'і гэта быў перыяд знаёмства з Беларуссю.

Бацькі былі шчырымі праваслаўнымі вернікамі, яны заўсёды хадзілі ў царкву. Неаднойчы з мамай мы ездзілі ў Жыровічы, святую для Беларусі мясціну.

І зараз для нашай сям'і традыцыі слова, традыцыі кнігі вельмі важныя. Мая жонка Ксенія — таксама бібліятэкар, мы з ёй працуем разам. Яна была каардынатарам цэлага шэрагу кніжных праектаў, звязаных з гістарычнымі кнігазборамі, з бібліятэкай Сапегаў, складальнік фундаментальнага зборніка «Здабыткі». Ксенія паходзіць з інтэлігенцкага асяроддзя, яе бацька — выкладчык, маці — рэдактар, традыцыі слова для яе з дзяцінства былі блізкімі. Сёння мы выхоўваем сваіх дзетак — Кастуся і Караліну.

**— Прыгадайце, калі ласка, храм вашага дзяцінства. Вашыя родныя блізка да сэрца ўспрымалі аднаўленне праваслаўных традыцый на Беларусі?**

— Шмат дзён і месяцаў я правёў, жывучы ў дзяцінстве ў маёй бабулі Валянціны па матчынай лініі ў вёсцы Любанічы Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці, дзе недалёка працякае рэчанька Сэрвач. На Сэрвачы стаяў дом маёй бабулі. Яна ўсё жыццё спявала ў хоры Любаніцкай царквы.

Другая бабуля меркавала, ці не адкрыць царкву ў нашым доме на лецішчы ў Ратамцы. Была ідэя пераабсталяваць наш дом пад царкву, але ўрэшце было вырашана збудаваць храм, і храм у Ратамцы паўстаў. З бацькамі мы наведвалі Свята-Петра-Паўлаўскі сабор у Мінску, дзе сфарміраваўся асяродак беларушчыны, праводзіла выдавецкую дзейнасць Праваслаўнае брацтва ў гонар святых Віленскіх пакутнікаў.

**— Спадар Алесь, якія захапленні былі ў Вас у дзяцінстве?**

— З 5 па 9 клас я займаўся ва ўзорным фальклорным гуртку « Забава», які вяла Ала Іванаўна Ліпніцкая, граў на дудцы, бубне. Акрамя гэтага займаўся фехтаваннем, трэніраваўся па 5 гадзін у дзень. Базавую



школу я скончыў на выдатна, але ў Коласаўскім ліцэі адчуў, што вучні значна мацнейшыя за мяне.

**— Якія кнігі вас прываблівалі ў юнацтве?**

— У пэўны момант — Іван Мележ і Якуб Колас. Падчас навучання ў ліцэі мне цікавы быў Апалінэр.

**— Дзе вы так добра авалодалі замежнымі мовамі?**

— Англійскую было добра вывучаць як раз у ліцэі. Польскую і латынь я засвоіў падчас навуковых даследаванняў.



• *Дэманстрацыя энцыклапедыі для дзяцей пра Ф. Скарыну*

**— Вы стаялі перад выбарам далейшага шляху навучання.**

— Я вагаўся паміж выбарам эканамічнай спецыяльнасці, праграміравання і культуралогіі.

**— Уяўленне пра ідэал з'яўляецца сілай, якая рухае асобай. Чалавек не можа жыць без вышэйшых эталонаў дасканаласці. Хто з вашых выкладчыкаў паўплываў на фарміраванне вашых ідэалаў і каштоўнасцей?**

— Жыццё надзяліла мяне магчымасцю кантактаваць з душэўна багатымі і яркімі асобамі, якія моцна паўплывалі як настаўнікі, выкладчыкі, сябры і блізкія людзі. Не меншы ўплыў, чым выкладчыкі ўніверсітэцкага часу, зрабіла на мяне школьная настаўніца Алена Леанідаўна Семчанка. Я ўпэўнены, што галоўныя каштоўнасці ў чалавеку закладае настаўнік першых гадоў разам з бацькамі.

Вакол мяне заўжды было шмат людзей, на якіх хацелася б раўняцца, на іх бачанні выбудоўваць свой шлях. Ва Універсітэце культуры такой асобай для мяне быў Аляксей Генадзьевіч Бураўкін. Хацелася б з удзячнасцю ўзгадаць прафесара Аляксандра Іванавіча Смоліка, які быў маім кіраўніком у час навучання ў аспірантуры, і іншых выкладчыкаў, якія паўплывалі на фарміраванне характару і каштоўнасцей.

Сярод суіскальнікаў аспірантуры, з якімі мы кантактавалі, быў заснавальнік беларускага фолькмадэрна, лідар гурта «Палац» Алег Хаменка. Ён не проста тварыў ад душы, але і апісваў творчы працэс словамі. Цікава было бачыць спробу рэфлексіі над творчым працэсам.

На адным з дыскусійных клубаў, якія арганізоўвала вядомы культуролаг Юлія Чарняўская, у форме дэбатаў я выступаў з дасведчаным

апанентам, з мэтай абгрунтаваць, якое асяроддзе існуе ва Універсітэце і што яно можа нам даць.

**— Вам удалося дасягнуць значных поспехаў, дзякуючы таму, што ў апошнія дзесяцігоддзі ў нашай краіне сфарміравалася моцная школа культуралогіі.**

— Калі я абіраў навучанне, я ведаў, што ў нас існуюць тры школы культуралогіі — у БДУКіМ, у РІВШ і ў Гродзенскім універсітэце імя Я. Купалы — і ўсе яны моцныя.

Асноўную адукацыю я атрымаў у БДУКіМ. Гэта навуковая школа самая трывалая, яна адрозніваецца вялікай сістэмнасцю і рознабаковасцю поглядаў, філасофскім асэнсаваннем розных феноменаў і з'яў культуры. Кафедра культуралогіі там дзейнічае як моцны навуковы цэнтр. Сёння я вучуся там у дактарантуры і выкладаю часам.

Школа, якая існавала ў РІВШ на той час, прадугледжвала высокі філасофска-метадалагічны узровень адукацыі, культуралогія там выкладалася з пазіцыі філасофіі культуры, асэнсавання розных метадалагічных падыходаў. Там працавалі знакамітыя філосафы і культуролагі, такія як Гасан Сабіравіч Гафараў і яго жонка Юлія Гафарава, дзейнічалі вядомыя метадолагі і гісторыкі культуры. У Гродзенскім універсітэце імя Я. Купалы існавала яшчэ адна школа культуралогіі — там былі філосафы і гісторыкі. На вялікі жаль, гэта школа скончыла сваё існаванне і сёння яе няма.

У студэнцкія гады я шукаў у Нацыянальнай бібліятэцы крыніцы па гісторыі ўніяцкай царквы. Пятнаццаць гадоў таму, падчас маёй працы над дысертацыйным даследаваннем па тэме «Культурная спадчына ўніяцкай царквы ў кантэксце дыхатаміі Усход–Захад» я цікавіўся ў прыватнасці гісторыяй ордэна базыльянаў на Беларусі і разважаў над тым, як захаваць культурную спадчыну гэтага манаскага ордэна. Шмат ездзіў па напаўзакінутых і разрабаваных манастырах, працаваў у архівах і бібліятэках, музеях Полацка, Оршы і інш.

**— Вы адважыліся даследаваць складаную тэму ў той час, калі грамадства пасля доўгага атэістычнага перапынку яшчэ не было дастаткова падрыхтавана да ўспрыняцця хрысціянскіх поглядаў у навуцы. Як вам дапамагалі ў навуковай працы святары розных канфесій?**

— Айцец Аляксандр Надсан пакінуў шмат глыбокіх грунтоўных прац, і я імі карыстаўся. Працаваў з многімі археаграфічнымі крыніцамі, з дакументамі і публікацыямі ў зборніках, з матэрыяламі саміх базыльянаў, з базыльянскімі кнігазборамі. Уніяцкі святар Андрэй Крот



з Гародні, які мае гістарычную адукацыю і цікавіўся асобай Ігната Кульчынскага, даваў добрыя парады. Але святар і навуковец працуюць па рознай метадалогіі, дапаўняючы адзін аднаго.

Калі я працаваў над дысертацыйным даследаваннем, маё рашэнне было прадуманым. Я абраў прадметам даследавання культурную спадчыну грэка-каталіцкай царквы, разумеючы, што яна слаба вывучана. Мы мелі справу з навуковай навізной. Асэнсаванне тых магчымасцяў, якія наша краіна страчвае ад недастатковай увагі да культурнай спадчыны, прадстаўнічай і багатай, прымушала развіваць гэту тэму.

Культурная спадчына грэка-каталіцкай царквы — самабытная і непаўторная частка культурных багаццяў Беларусі, якая спалучае элементы заходняй і ўсходняй культур, — выгодна вылучае нашу краіну і робіць яе прывабнай у вачах замежных і айчынных турыстаў. Архітэктурная спадчына — гэта патэнцыйны сродак актывізацыі культурнага жыцця населеных пунктаў, развіцця яго інфраструктуры.

**— Шэраг артыкулаў вы прысвяцілі ордэну базыльянаў. Вы глыбока цікавіліся гэтай тэмай?**

— Так. Культурнае жыццё Беларусі XVII — пачатку XIX стагоддзя было звязана з дзейнасцю базыльянаў — манаскага ордэна, створанага ў 1617 годзе пры аб'яднанні пяці беларускіх манастыроў — Віленскага, Наваградскага, Жыровіцкага, Быценскага і Мінскага. Базыльяне кіраваліся статутам супольнага жыцця, распрацаваным у IV стагоддзі святым Васілём Вялікім, выкарыстоўвалі вопыт каталіцкіх манаскіх ордэнаў (кармелітаў і езуітаў) і практыкі ўсходняга манаства.

У 1617 годзе, на Нагародавіцкай кангрэгацыі ордэн базыльянаў быў створаны пяццю беларускімі манастырамі. Язэпа Руцкага вызналі за протаархімандрыта ордэна. У 1624 годзе Кангрэгацыя веры зацвердзіла ордэн, і ў 1631 годзе булай Папы Рымскага ордэн базыльянаў быў юрыдычна замацаваны.

Асноваю, сэрцам ордэна была беларуская зямля. Большасць протаархімандрытаў былі выхадцамі з беларускіх земляў, большасць генеральных капітулаў праходзіла на Беларусі. Кожны манастыр базыльянаў займаўся збіраннем уласнай бібліятэкі. Найбуйнейшыя з іх налічвалі ў сваіх зборах па некалькі тысяч выданняў і рукапісаў. Манастыры базыльянаў з'яўляліся



• *Герб ордэна базыльянаў*

цэнтрамі іканапіснага мастацтва, у іх зберагаліся абразы, фрэскі, помнікі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Надзвычайным багаццем і разнастайнасцю вызначалася архітэктура базыльянаў з элементамі заходнееўрапейскіх стыляў готыкі, рэнесансу і барока.

Культурная спадчына базыльянаў была для мяне вельмі блізкая, цікавая, я шмат падарожнічаў па Беларусі, меў кантакты са святарамі, якія служаць у колішніх грэка-каталіцкіх храмах. Каб знайсці пацвярджэнне сваіх ідэй і гіпотэз, шмат працаваць даводзілася ў музеях, бібліятэках і архівах у краіне і за мяжою. У прыватнасці, у мяне атрымалася папрацаваць са зборамі аршанскіх, віцебскіх і талачынскіх базыльянаў. Я наведваў напаўзакінутыя і панішачаныя манастыры, разважаў аб тым, як захаваць культурную спадчыну.

**— Да якой канфесійнай супольнасці вы належыце зараз?**

— Я выхаваны ў межах праваслаўнай традыцыі і ад праваслаўнай канфесіі не адыходзіў. У мяне бясконцая колькасць сяброў — уніятаў, католікаў, пратэстантаў, юдэяў і мусульман, я знаходжу паразуменне з прадстаўнікамі розных канфесій. З цікавасцю я наведваў таксама лекцыі ў адукацыйным цэнтры Пасольства дзяржавы Ізраіль у Мінску, каб дазнацца пра юдэйскую рэлігійную культуру. Даводзілася кантактаваць з беларускімі татарамі з мэтай вывучэння іх традыцый. Мы працуем з муфціем і імамамі, якія з вялікай павагай ставяцца да спадчыны свайго народа.

## Спадчына Францыска Скарыны прыцягвае ўвагу даследчыкаў усяго свету




• *Міжнародная выстава «Францыск Скарына і яго эпоха» ў Нацыянальнай бібліятэцы*

*14–15 верасня 2017 года ў Нацыянальнай бібліятэцы праходзіў Міжнародны кангрэс, прысвечаны 500-годдзю беларускага кнігадрукавання. 13 верасня была адкрыта Міжнародная выстава «Францыск Скарына і яго эпоха», дзе былі прадстаўлены выданні Ф. Скарыны з розных краін. У маштабнай экспазіцыі дэманстраваліся еўрапейскія першадрукі з Германіі, Італіі, Чэхіі, Францыі, выдавецкія тэхналогіі розных часоў, былі арганізаваны адукацыйная і забаўляльная прасторы.*



*Кангрэс меў навуковыя і грамадскія мэты для філолагаў, літаратараў, кнігавыдаўцоў, распаўсюднікаў кніг. Адбыліся прэзентацыі, майстар-класы, арыентаваныя на шырокую аўдыторыю і розныя ўзросты. Беларускім і замежным гасцям дэманстравалася вялікая калекцыя выданняў Францыска Скарыны ў скураных пераплётах, у чырвоным куфры.*

*Мы працягнулі нашу гутарку з ініцыятарам і кіраўніком навуковага праекта па ажыццяўленні факсімільнага выдання — Алесем Аляксандравічам Сушам.*

**— Спадар Алесь, раскажыце, калі ласка як нарадзілася ідэя ажыццяўлення поўнага факсімільнага ўзнаўлення выданняў Францыска Скарыны?**

— Падчас святкавання 90-годдзя бібліятэкі ў 2012 годзе мы праводзілі наш першы Міжнародны кангрэс, прымеркаваны да юбілею бібліятэкі. У межах гэтага кангрэса мы агучылі думку пра тое, што набліжаецца 500-годдзе беларускага кнігадрукавання і трэба добра падрыхтавацца. Бібліятэка на працягу 10 апошніх гадоў займалася праектамі па ўзнаўленні факсімільнай спадчыны. Мы факсімільна перавыдалі самыя старажытныя рукапісы «Полацкае Евангелле», «Слуцкае Евангелле», «Баркалабаўскі летапіс», «Тураўскае Евангелле», «Посах кіравання» Сімеона Полацкага і шэраг літаратурных прац М. Багдановіча, Я. Купалы, перавыдавалі літаратурныя зборнікі рознага зместу. Мы шукалі розныя варыянты, як можна папулярызаваць кніжную спадчыну. Перавыданне пебршадрукаў Францыска Скарыны падавалася нам як вельмі значны, але рызыкоўны праект. Маючы досвед публікацый, мы вы-




• *Удзельнікі Міжнароднага кангрэса да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання*

рашылі рызыкнуць: напісалі адпаведную канцэпцыю, абмеркавалі яе ў сябе ў калектыве, пакрысе пачалі збіраць кола зацікаўленых. Мы бачылі дзяржаўную падтрымку: у 2011 годзе рэалізавалася дзяржаўная праграма «Культура Беларусі», яе заданнем было стварэнне лічбавай бібліятэкі Францыска Скарыны. Фінансаванне было невялікім, але падтрымка была важнейшым стымулам, каб далей дзейнічаць.

У 2013 годзе мы заключылі пагадненне з банкам «БелВЭБ», які стаў нашым спонсарам і партнёрам праекта. Звычайна фінансавыя ўстановы бачаць камерцыйную ці іншую выгоду, а ў дадзеным выпадку была бачна персанальная зацікаўленасць работнікаў банка: яны цікавіліся тэкстамі, чыталі і глыбока аналізавалі выданні Скарыны, іх паслядоўнасць. На перыяд старту гэтага праекта адчуваўся сусветны эканамічны крызіс, праходзілі банкаўскія рэформы. Але ход наш быў правільным, ён паўплываў на імідж банка ў краіне. Нам прыемна было папрацаваць з прафесіяналамі.

Натуральна, што выданне кніг Францыска Скарыны не магло абысціся без аналізу аўтарскіх тэкстаў, створаных самім Скарынам. Ён пісаў прадмовы і пасляслоўі, дзе ён тлумачыў не толькі сэнс той ці іншай біблейскай кнігі, але і іх ролю ў жыцці кожнага хрысціяніна. Уражвае глыбокая рэлігійнасць аўтара. Скарына як тэолаг яшчэ недастаткова прааналізаваны.

Кнігі Скарыны даследаваліся ў кантэксце мастацтвазнаўства, літаратуразнаўства, моваznаўства. У сэнсе багаслоўскага разумення яго тэкстаў было зроблена няшмат. Апублікаванне гэтых тэкстаў (іх можна пабачыць у факсіміле і прачытаць у перакладзе на рускую, беларускую і англійскую мову) аказалася абсалютна арыгінальным. На беларускую мову перакладаў прадмоў Скарыны не выходзіла ніколі. Алесь Бразгуноў папрацаваў выдатна як перакладчык, захаваўшы стылістыку, вельмі дакладна перадаўшы мову аўтара.



• *Факсімільнае ўзнаўленне кніжнай спадчыны Францыска Скарыны*



Вельмі прыемна, што зладжаная праца дала вынік. У нас была свая каманда, якая працавала над факсімільным узнаўленнем. Я быў адказным рэдактарам. Навуковыя тэксты да кожнага тома рыхтаваліся супольна мною і Галінай Уладзіміраўнай Кірэевай, загадчыцай навукова-даследчага аддзела кнігазнаўства, спецыялісты рыхтавалі пераклады тэкстаў на англійскую мову. Усім працэсам кіраваў наш дырэктар, доктар педагагічных навук, прафесар Раман Сцяпанавіч Матульскі. Цяпер слова Скарыны будзе даступным і зразумелым для шырокай аўдыторыі.

**— Найвышэйшым вынікам 500-годдзя беларускага кнігадрукавання стала багата ілюстраванае выданне «Сусветная спадчына Францыска Скарыны», якое выйшла ў серыі «Энцыклапедыя рарытэтаў» на трох мовах — беларускай, рускай і англійскай. Упершыню ў адным томе прадстаўлены ўсе 25 кніг беларускага першадрукара!**

— У альбомным выданні «Сусветная спадчына Францыска Скарыны» мы імкнуліся паказаць усё багацце і ўсю разнастайнасць кніжнай спадчыны нашага асветніка. Выданні друкара захаваліся па ўсім свеце і ў розным стане. Часам гэта невялічкія фрагменты, замучаныя, выцягнутыя з пераплётаў. На працягу пяці гадоў мы шукалі гэтыя асобнікі, займаліся іх алічбоўкай падчас камандзіровак. Гэта ўсё абсалютна розныя аб'екты спадчыны, кожны з іх мае сваю гісторыю бытавання, яны прайшлі праз розныя рукі, маюць унікальныя пазнакі, дарчыя надпісы. У прыгожым альбомным выданні мы здолелі прадэманстраваць кожны асобнік з розных краін свету (з кніжных і музейных збораў Беларусі, Расіі, Украіны, Германіі, Даніі, Польшчы, Літвы, Вялікабрытаніі, Славеніі, Чэхіі, ЗША), каб нашы грамадзяне мелі ўяўленне, як кнігі Скарыны выглядаюць у рэальнасці.

Вельмі плённым было наша супрацоўніцтва з дызайн-студыяй «Калекшн», якую ўзначальвае Канстанцін Вашчанка. Як мастак выдання, ён распрацаваў асноўныя мастацкія элементы факсімільнага ўзнаўлення кніжнай спадчыны Францыска Скарыны. Кніга была выпушчана па заказу Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь выдавецтвам «Бела-




• *У Музеі кнігі Нацыянальнай бібліятэкі*

руская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» і прэзентавалася ў Нацыянальным мастацкім музеі ў жніўні 2017 года.

**— Вы пазіцыянуеце нацыянальную культуру як такую, якая стварае непаўторны вобраз свету, прадукуе арыгінальныя каштоўнасці і дасягненні і тым самым уносіць свой уклад у скарбонку сусветнай культуры.**

— Беларусы звяртаюцца ў сваіх поглядах і да мінулага, і да будучыні. Важна, што менавіта Беларусь сёння для нас пазіцыянуецца кропкай адліку. Мы ўспрымаем сябе не як перыферыю і сферу ўплыву іншых вялікіх культур і цывілізацый, а як самадастатковую дзяржаву, якая мае свае каардынаты, сваіх дзеячаў, чые імёны ўпрыгожваюць густоўныя мастацкія творы, падручнікі для дзетак і манаграфіі для дарослых. Мы маем сваю нацыянальную сістэму адліку і ўсведамляем сваю здольнасць для дэманстрацыі нацыянальных набыткаў на сусветным узроўні. Падрыхтоўка факсімільнага выдання і выпуск кнігі «Сусветная спадчына Францішка Скарыны» — адзін з крокаў, які паказвае найбагацейшыя дасягненні нашай культуры.

## Скарбы беларускай кніжнасці спрыяюць міжнародным кантактам

*9 студзеня 2018 года за велізарную працу па папулярызацыі спадчыны Францыска Скарыны калектыў Нацыянальнай бібліятэкі быў узнагароджаны прэміяй «За духоўнае адраджэнне». З гэтай нагоды мы павіншавалі спадара Алеся Сушу і папрасілі яго распавесці пра дэманстраванне спадчыны Ф. Скарыны ў замежжы.*



• *Прэзентацыя факсімільнага ўзнаўлення Бібліі Францыска Скарыны*

— Раённыя, абласныя бібліятэкі, установы культуры атрымалі 21 том факсімільнага ўзнаўлення кніжнай спадчыны Францыска Скарыны бясплатна, — распавёў А. А. Суша. — Кнігі раз’ехаліся па буйнейшых музеях краіны,



трапілі ў акадэміі, інстытуты, знаходзяцца ў навуковых установах, якія носяць імя Скарыны. Выданне трапіла ў зборы нацыянальных бібліятэк іншых краін, у беларускія інфармацыйныя цэнтры за мяжой. У нас маюцца прыязныя стасункі з многімі нацыянальнымі бібліятэкамі свету. Факсімільнае выданне стала выдатнай магчымасцю актуалізаваць усе нашы кантакты. Падчас правядзення сімпозіумаў, сустрэч і прэзентацый былі перададзены кнігі. У далёкіх краінах уручэнне адбывалася праз лінію нашых дыпламатычных службаў. Наладжваліся культурныя стасункі, якія паўплываюць у далейшым на супрацоўніцтва нашай краіны з іншымі. Такія перадачы адбыліся ў 60 краінах свету. Кнігі Скарыны можна будзе прачытаць ва ўсіх краінах Еўропы. Прэзентацыі «Кніжнай спадчыны» прайшлі ў Маскве, Кіеве, Рызе, Таліне, Празе, Марціне (Нацыянальная бібліятэка Славакіі), Берліне, Мадрыдзе і інш. Акцыі па святкаванні беларускага кнігадрукавання адбыліся ў прадстаўніцтве ААН у Швейцарыі, супольна былі праведзеныя акцыі з удзелам прадстаўнікоў беларускай дыяспары. Нам прыемна канстатаваць, што кнігі Скарыны прысутнічаюць у большасці еўрапейскіх краін, з якімі мы маем дыпламатычныя стасункі.



• *На прэзентацыі спадчыны Францыска Скарыны ў Рызе*

**— Вашы энцыклапедыі для школьнікаў «Францыск Скарына — чалавек свету», «Францыск Скарына — чалавек-легенда» і іншыя задаюць высокую планку адукаванасці, эрудыцыі і хрысціянскай культуры для новых пакаленняў. У трох выданнях для дзяцей і падлеткаў Вам удалося гарманічна паказаць розныя бакі асобы Францыска Скарыны.**

—Культуралогія прадугледжвае комплексны аналіз феномена з пункту гледжання розных сфер культуры. Калі мы вывучаем кнігу з розных пунктаў гледжання: разглядаем яе ў плане мастацтвазнаўчым (вывучаем аб’екты кніжнай графікі, гравюры, якія ўваходзяць у кнігу), літа-

ратуразнаўчым з адпаведнай метадалогіяй, з погляду мовазнаўства, з духоўнага і тэалагічнага пункту гледжання. Мы разглядаем філасофскі і гістарычны аспекты, калі і якім асяроддзі кніга ўзнікла, у якой друкарні яна была створана.

Гэтак жа я імкнуўся паказаць Францыска Скарыну ў розных іпастасях, у якіх ён выступаў у прафесійным плане: як перакладчыка, выдаўца, друкара, паэта, багаслова, філосафа, і прааналізаваць яго ў геаграфічным зрэзе тых гарадоў і краін, дзе ён жыў, вучыўся і працаваў, паказаць яго праз тую справу, якую ён зрабіў, праз яго папярэднікаў і паслядоўнікаў. Такі падыход лепшым чынам дэманструе багацце спадчыны Францыска Скарыны.

**— Вы прысвяцілі свае працы дзеячам уніяцкай духоўнасці епіскапу Якубу Сушы і Ігнату Кульчынскаму, Антонію Сяляве і іншым.**

— Усе яны былі базыльянамі, яркімі царкоўнымі дзеячамі і таленавітымі майстрамі слова. Народжаны ў Горадні ў 1710 годзе, Ігнат Кульчынскі пакінуў пасля сябе багатую спадчыну: шмат кніг, здзяйсненняў. Яны былі першымі, хто пачаў займацца агульнакультурным значэннем тых аб’ектаў, якія сёння з’яўляюцца для нас святынямі. Ігнат Кульчынскі цікавіўся архітэктурнымі асаблівасцямі Барысаглебскага манастыра і Каложскай царквы ў Горадні, або полацкім Сафійскім саборам, альбо Крыжам Еўфрасінні Полацкай, пра які ён пісаў. Для яго быў важным цудатворны абраз Жыровіцкай Божай Маці. Ён меў непасрэднае дачыненне да пашырэння культу Жыровіцкай Багародзіцы, да каранавання гэтай іконы ў Рыме. У значнай меры дзякуючы яго працам пра ікону дазналіся ў свеце, у Рыме, яна стала агульнахрысціянскай святыняй. Тое ж можна сказаць пра ўніяцкага епіскапа Якуба Сушу. Ён шмат увагі надаваў архітэктуры, літургіцы, пытанням кнігавыдання. Ён працаваў над гісторый царквы і асобных дзеячаў, як Мялецій Сматрыцкі, цікавіўся і вывучаў іх спадчыну, навуковую і палемічную, выкладаў гісторыю царквы і філасофію ў розных манастырах, і менавіта ў Мінскім базыльянскім манастыры. У яго дзейнасці мы бачым вялікую цікавасць да Холмскага вобраза Багародзіцы.

**— Пра Якуба Сушу вы напісалі даследаванне, якое ўвайшло ў зборнік «Здабыткі», і выступілі з лекцыяй у клубе грэка-каталіцкай інтэлігенцыі імя Св. Кірылы Тураўскага.**

— Так. Якуб Суша быў манахам-базыльянінам. Ён нарадзіўся ў Мінску ў 1610 годзе і не быў багатым і вядомым шляхцічам. Многія паслядоўнікі пісалі, што хаця Якуб Суша паходзіў з не надта слаўнага і багатага асяроддзя, тым не менш ён праславіў свае прозвішча дзейнасцю.



Імя яго стала больш уплывовым, чым некаторых радавітых шляхцічаў і магнатаў. Якуб Суша стаў доктарам багаслоўя, прафесарам філасофіі і багаслоўя пры Мінскім базыльянскім манастыры. Ён быў прапаведнікам у Навагрудскім і Жыровіцкім манастырах, атрымаў званне епіскапа холмскага і бэлзскага, быў протаархімандрытам (генералам) ордэна базыльянаў.

Нашы продкі вельмі высока цанілі заслугі Якуба Сушы. Некалі яго працы былі шырока распаўсюджаны на беларускіх землях, а зараз яго кнігі зберагаюцца ў Вялікабрытаніі, Італіі, Францыі, Польшчы і іншых краінах. Беларус па нацыянальнасці, ён выдатна валодаў польскай і лацінскай мовамі, мастацкія сродкі яго твораў уключалі яркія метафары і эпітэты. Мае бацькі паходзяць з Мінска і Міншчыны, магчыма, у нас ёсць некаторае сваяцтва.

**— Вы спрычыніліся да факсімільнага ўзнаўлення грунтоўнай працы Вацлава Ластоўскага «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі». Вам блізкая яго руплівасць?**

— Вацлаў Ластоўскі быў чалавекам экстраардынарным, незвычайным. Які і многія творцы, ён паходзіў з не надта слаўнага роду. Нягледзячы на адсутнасць акадэмічнай адукацыі, ён стаў першым акадэмікам беларускай Акадэміі навук, быў сакратаром Інстытута беларускай культуры. Для нас вобраз Ластоўскага звязаны з ініцыятывамі дзяржаватворчага і культуратворчага характару. Калі казаць пра культуру, Ластоўскі меў непасрэднае дачыненне да рэарганізацыі навукі, да айчыннага мовазнаўства. Ён вельмі шмат зрабіў у сферы музеязнаўства, працуючы з калекцыямі будучага музея ў Вільні, выконваючы сакратарскія абавязкі ў рэдакцыі газеты «Наша Ніва».

Ён адшукаў Крыж Еўфрасінні Полацкай і прывёз яго ў музей у Мінск. Бясконца цікавая і багатая яго спадчына і дзейнасць у галіне гісторыі беларускай літаратуры, пісьменства і кнігадрукавання, адлюстраваная ім на старонках часопіса «Крывіч» і «Нашай Нівы» і ў выглядзе фундаментальнай працы «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі». На сёння гэта найлепшая праца ў апісанні беларускіх рукапісаў, сістэматызацыі кнігазнаўчага матэрыялу.




• *Факсімільнае ўзнаўленне «Гісторыі беларускай крыўскай кнігі» В. Ластоўскага*

Ластоўскі гэта зрабіў лепшым чынам на свой час. А беларускія стадрукі! Глыбока, уважліва і беларусацэнтрычна ён апісаў усходнеславянскія кірылічныя рукапісы, якія паходзілі з беларускай зямлі. Вацлаў Ластоўскі першым прааналізаваў феномен беларускай кніжнасці, у гэтым яго заслуга, вялікі ўнёсак у даследаванне нашай гісторыі.

## Старажытны буквар матывуе да адукацыі і добрых учынкаў

*29 сакавіка 2018 года ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ў Музеі кнігі распачала дзейнасць выстава, прысвечаная 400-годдзю «Буквара». Лічбавая копія першага беларускага буквара была перададзена ў Беларусь Каралеўскай бібліятэкай Даніі. А ў верасні 2018 года перад пачаткам новага навучальнага года ў Нацыянальнай бібліятэцы святочна адзначылі выпуск факсімільнага ўзнаўлення першага беларускага буквара. Кніга была выпушчана ў трох тамах (арыгінал, даследаванні, пераклад), і ў хуткім часе яна паступіла ў рэгіянальныя і ўніверсітэцкія бібліятэкі краіны. Даследчы гуманітарны праект, які доўжыўся некалькі гадоў, узначальваў А. А. Суша.*

— Першая ў свеце кніга, якая мела назву «Буквар», была выпушчана нашымі продкамі 400 гадоў назад, у 1618 годзе, — распавёў даследчык. — Яна захавалася ў свеце толькі ў двух экзэмплярах і была амаль не вядома на радзіме. Адзін з асобнікаў знаходзіцца ў Вялікабрытаніі, у закрытай для шырокай публікі прыватнай бібліятэцы «Мідл Тэмпл». Другі асобнік заставаўся да нядаўняга часу зусім мала вядомым. Ён захоўваецца ў Каралеўскай бібліятэцы Даніі.



• *Старажытны Буквар знаходзіцца ў Лондане*

Для мяне асабіста вялікім адкрыццём стала, што зберагаемы ў Даніі асобнік так цудоўна захаваўся да нашага часу, — адзначыў навуковец. — Яшчэ ў 2015 годзе, калі я знаходзіўся на канферэнцыі ў Лонданскай Скарынаўскай бібліятэцы, я меў час і магчымасць асабіста пазнаёміцца і папрацаваць з другім асобнікам «Буквара» ў Лондане. (У гэты час у Кембрыджы я меў магчымасць пазнаёміцца з цудоўна захаваным асобнікам Берасцейскай Біблії.)



Стан захаванасці буквара з Каралеўскай бібліятэкі Даніі ў нечым значна лепшы, у ім добра чытаюцца ўсе гравюры, менш пашкоджаная і забруджаная папера. Цяпер у нас з'явілася цудоўная магчымасць паўнацэнна вывучыць гэты надзвычай каштоўны помнік нашай культуры.

Буквар — для кожнага чалавека кніга святая, бо з яе пачынаецца знаёмства дзіцяці з навукай. Гэта кніга для нас тым больш святая, бо яна дайшла да нас з XVII стагоддзя, яе выдалі браты кіновіі Віленскай — манастыра Святога Духа, які быў каардынацыйным цэнтрам адукацыйнай дзейнасці праваслаўнай царквы. Гэта не проста падручнік, які дапамагае навучацца чытанню, але і падказка, як трэба жыць. Першы буквар уключае Сімвал веры, малітвы, рэлігійныя гімны, пропаведзі, пералік добрых якасцяў чалавека і яго грахоў, маральна-выхаваўчыя тэксты.

Да з'яўлення «Буквара» мелі дачыненне вядомы беларускі і ўкраінскі культурны і царкоўны дзеяч Мялецій Сматрыцкі і архімандрыт Віленскага манастыра Святога Духа Лявоцій Карповіч, які быў вядомым публіцыстам і багасловам. У кнізе змешчаны герб Багдана Агінскага, дзякуючы падтрымцы якога пабачыла свет кніга.

Выпуск Буквара ў 1618 годзе паўплываў на шырокія слаі свецкага грамадства. Далейшыя яго выпускі ў Куцейне, Супраслі, Магілёве панялі назву, структуру, змест выдання.

Такім чынам, беларусы ўжо сёння маюць магчымасць пазнаёміцца з тым, як выглядала кніга, якая пачала новую сусветную традыцыю. Прыклад першага буквара сведчыць, які вялікі ўплыў зрабіла беларуска-літоўская кніжная традыцыя на ўвесь рэгіён: сёння з буквара пачынаецца дарога ў свет ведаў




• *Дэманстраванне факсімільнага ўзнаўлення «Буквара»*

многіх дзетак не толькі ў Беларусі, але і ў іншых краінах свету. Назва «Буквар» увайшла ў сучасныя беларускую, рускую, украінскую, балгарскую, баснійскую мовы, а таксама ў абхазскую, аварскую, адыгейскую, айроцкую, алеутскую, балкарскую, гагаузскую, дагестанскую, далганскую, даргінскую, хакаскую, ханту, цыганскую, чувашскую, чукоцкую, эвенкійскую і іншыя!

Артэфакт мінулага служыць для развіцця сённяшняй культуры, спрыяе развіццю кантактаў, мы яднаем даследчыкаў з родных краін, праводзім сацыякультурныя акцыі, заняткі, майстар-класы, прысвечаныя буквару.



• *Прэзентацыя даследавання буквара ў Віцебску*

## Біблія вяртаецца на пачэснае месца ў грамадстве

*У верасні–кастрычніку 2018 года Нацыянальная бібліятэка сумесна з Групай даследавання рукапісаў (ЗША) на чале доктарам Скотам Кэралам з Мічыгана правяла ўнікальную выставу «Беларусь і Біблія». За месяц яе наведалі каля 30 000 чалавек з розных рэгіёнаў краіны а таксама шматлікія замежныя госці. У Беларусь упершыню прыбылі каштоўныя рарытэты сусветнага значэння: каля 200 унікальных рукапісаў і старадрукаў, якія адлюстроўваюць гісторыю стварэння, распаўсюджвання і захавання Бібліі.*

*У экспазіцыі былі прадстаўлены ўнікальныя скруткі з Мёртвага мора («кумранскія рукапісы»), якім больш за 2 тысяч год і якія захавалі нам самыя раннія тэксты большасці кніг Старога Запавету; самыя старажытныя фрагменты Новага Запавету (2–3-е стст. н. э.); біблейскія рукапісы на старажытных мовах: грэчаскія, лацінскія, копцкія, сама-*





• *Навуковы круглы стол падчас правядзення выставы «Беларусь і Біблія»*

*рыцянскія, армянскія, індыйскія, кітайскія; першадрукі многіх народаў і краін, першыя пераклады Бібліі на нацыянальныя мовы; арыгіналы Біблій Гутэнберга, Лютара і Скарыны; старажытныя беларускія біблейскія рукапісы і старадрукі; многія пераклады Бібліі на беларускую мову; арыгіналы гравюр Альбрэхта Дзюрэра, Сальвадора Далі і іншых знакамітых мастакоў.*

*Падчас правядзення міжнароднай выставы «Беларусь і Біблія» ў Нацыянальнай бібліятэцы адбываліся не толькі культурныя, але і навуковыя мерапрыемствы: лекцыі, круглыя сталы, дыскусіі, прэзентацыі навуковых выданняў па біблеістыцы.*

*З лекцыямі выступілі Нобілеўскі лаўрэат па ядзернай фізіцы Кенэт Брокман, амерыканскі пратэстанцкі прапаведнік і публіцыст Джош Макдауэл, доктар Оксфардскага цэнтра місіянерскіх даследаванняў Брус Андэрсан, кіраўнік Групы даследавання рукапісаў доктар Скот Кэрал і іншыя выбітныя асобы.*

*У бібліятэцы прайшоў міжнародны навуковы круглы стол на тэму «Беларусь і Біблія», у якім прынялі ўдзел аўтарытэтныя спецыялісты: знаўца рэлігійнай культуры, кандыдат гістарычных навук Алена Філатава, прафесар Людміла Іванова, доктар багасloўя Ірына Дубянецкая. Грунтоўная дыскусія праходзіла на міжнародным навуковым круглым стале «Беларускія пераклады Бібліі: гісторыя і сучаснасць», у якой*

*удзельнічалі доктар філалагічных навук Іван Чарота, прафесар Галіна Сініла, ксёндз— канонік Ян Кременс, пастар Антоній Бокун, пратаіерэй Святаслаў Рагальскі і іншыя даследчыкі і прадстаўнікі грамадскасці.*

*Усе ўдзельнікі падзякавалі арганізатарам выставы «Беларусь і Біблія», якая стала яркай падзеяй грамадскага жыцця, а таксама выдатнай пляцоўкай для правядзення лекцый па гісторыі стварэння і распаўсюду Святога Пісання і змястоўных інтэлектуальных дыскусій.*

— Водгукаў на выставу было вельмі багата, яны з'яўляліся пасля правядзення і завяршэння, — пракаментаваў гэту значную падзею Алесь Суша. — Водгукі траплялі ў кнігу гасцей, у сацыяльных сетках было шмат напісана. Выстава зрабіла моцны імпульс для культурнага развіцця Беларусі. Гэта была не выключна царкоўная выстава, мы імкнуліся паказаць Біблію як феномен культуры, паўсюдна прысутны не толькі ў набажэнстве, але і ў шырокім кантэксце. Гэта кніга паўплывала на еўрапейскую цывілізацыю. Хацелася паказаць яе бясконцую значнасць для рэлігійнага жыцця, для асветы, для навуковай практыкі і для мастацкай культуры.



• *Алесь Суша, Раман Матульскі і Скот Кэрал*



• *Прадстаўнікі духавенства знаёмяцца з выставай «Беларусь і Біблія»*

Гэта адзначылі прадстаўнікі многіх канфесій, манахі і прыходскае духавенства, вышэйшае кіраўніцтва ўсіх хрысціянскіх цэркваў Беларусі і не толькі. Мусульмане і юдэі з вялікай цікавасцю сачылі за выставай, выказвалі свае станоўчыя меркаванні. Многія хрысціяне падкрэслівалі выключную значнасць і магчымасць паказу гэтай тэмы, якая на працягу многіх дзесяцігоддзяў XX стагоддзя была абсалютна па-за законам, непапулярная, немагчымая тэма для выставы. А ў нас яна была прадстаўлена вельмі шырока, з навуковымі дыскусіямі, дэбатамі, экскурсійнымі праграмамі. Гэта дапамагло лепш асэнсаваць Біблію. Выступалі эксперты з розных пазіцый, свецкія навукоўцы і даследчыкі. Мы былі шчаслівыя, што выказванні кожнага з бакоў былі вельмі карэктныя і паважлівыя.

Студэнты вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў з вялікай зацікаўленасцю паставіліся да выставы. З многіх прыходаў абласных цэнтраў людзі замаўлялі па некалькі аўтобусаў і ехалі да нас. Святары тэлефанавалі з просьбаю трапіць на выставу, прыязджалі прадстаўнікі розных канфесій, асабліва актыўна — пратэстанты ўсіх адгалінаванняў. Для ўсіх выстава была блізкай і роднай, і мы былі шчаслівыя, што ў нас атрымалася паразуменне!



## Найкаштоўнейшы кніжны помнік набывае новае жыццё

*Факсімільнае ўзнаўленне знакамітай Берасцейскай Бібліі 1563 года выдання завяршылася ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ўлетку 2019 года. Вяліся працы па аздабленні апраўаў адразу 8 асобнікаў. Берасцейская Біблія была выдадзена на старапольскай мове на сродкі Мікалая Радзівіла Чорнага ў 1563 годзе і стала адным з перакладаў новага часу з моў арыгіналу: іўрыту і грэчаскай. Гэта самая вялікая і багата аформленая беларуская друкаваная кніга XVI– XVIII стагоддзяў. Факсімільнае выданне з'яўляецца дакладнай копіяй арыгінала з паўтарэннем асаблівасцей не толькі друку, але і паперы, пазнейшых пазнак і іншых дэталяў. З гэтай нагоды мы накіравалі шэраг пытанняў ініцыятару праекта А. А. Сушы.*

**— Спадар Алесь, вы набылі ўжо вялікі досвед па выпуску факсімільных выданняў. Асабліва ўзрушыла грамадства «Кніжная спадчына Францішка Скарыны», завершаная да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання. І вось зараз адноўлены новы шэдэўр, звязаны з 1000-гадовай гісторыяй Берасця. Ёсць спадзяванне, што ён таксама істотна паўплывае на развіццё беларускай культуры сёння.**

— Выданне 1563 года было ашаламляльным выбухам і аказала ўплыў на грамадства, таму і сёння факсімільнае ўзнаўленне Берасцейскай Бібліі мае арыентацыю больш на сучаснасць, чым на мінуўшчыну. Яго



• *На выставе «Беларусь і Біблія»*

задача — паказаць сучасным грамадзянам, нашым замежным сябрам, партнёрам і калегам, што наша культура мае багатыя традыцыі і нам ёсць чым ганарыцца — мы не проста другасны суб'ект на мапе свету, але актыўны ўдзельнік культурнага працэсу ад старажытнасці да нашых дзён.

Берасцейская Біблія прэзентуе нам сёння эпоху Рэфармацыі і эпоху Адраджэння. Гэты помнік сведчыць, што нашы продкі былі не тымі, хто ўспрымаў павевы звонку, але былі актыўнымі ўдзельнікамі гэтага працэсу. Беларусь ёсць часткай агульнасусветнага культурнага працэсу, і Берасцейская Біблія пра гэта сведчыць. Мікалай Радзівіл камунікаваў з кіраўнікамі многіх дзяржаў свету, з волатамі эпохі Адраджэння.

Ідэя факсімільнага ўзнаўлення заключаецца ў тым, каб прадставіць помнік не столькі ў арыгінале, а звярнуць увагу на значнасць артэфакта як сімвала велічы Берасця, Беларусі, беларускай культуры, бо гэта сапраўдны шэдэўр паліграфіі XVI стагоддзя. Можна сказаць, што гэта шэдэўр сучаснай кніжнай культуры, помнік нашаму часу, бо ён унікальны. Відаць, гэта самае вялікае выданне сучаснай Беларусі. Выпуск факсіміле суправаджаўся шматлікімі навуковымі і культурнымі праектамі. Мы падрыхтавалі навуковае даследаванне — невялікую кнігу пра гэты старажытны помнік.





• *Алесь Суша трымае ў руках старажытны скрутак Торы*

У Брэсце адбываліся абмеркаванні тых прац, якія варта было б зрабіць. Абмяркоўвалася і агучвалася ў мэрыі Брэста ідэя надання абласной бібліятэцы імя Мікалая Радзівіла Чорнага. Ёсць тэатральная пастаноўка «Біблія князя Радзівіла», якая ішла ў Мінску і ў Берасці. Быў распрацаваны турыстычны маршрут «Брэст — горад Бібліі». Не толькі дзяржава, але і мясцовыя ўлады і грамадскія структуры праяўляюць ініцыятывы. Грамадства працуе ў такім кірунку і бачыць каштоўнасць Берасцейскай Бібліі як сімвала горада, рэгіёна і ўсёй Беларусі.

**— Якія скарбы захоўвае Берасцейская Біблія?**

— Гэта — найпрыгажэйшае, найдаражэйшае і самая вялікае выданне Беларусі XVI–XVIII стагоддзяў. Яна была самай дарагой кнігай і застаецца вельмі загадкавай для беларусаў, якія толькі ў наш час адкрываюць для сябе гэты кніжны помнік.

Навукоўцы заслужана называюць яе шэдэўрам эпохі Адраджэння. Гэта адзін з лепшых прыкладаў перакладу Бібліі на нацыянальныя мовы, выдатны твор перыяду еўрапейскай Рэфармацыі. З яе фактычна пачалося друкаванне Бібліі ў поўным аб'ёме, развіццё рэфармацыйнай



• *Працоўная група знаёміцца з факсімільным узнаўленнем Берасцейскай Бібліі*

біблеістыкі і экзэгетыкі ў Беларусі. Берасцейская Біблія абудзіла інтэлектуальнае жыццё ў Беларусі і Літве, стала каталізатарам шырокай грамадскай дыскусіі. Яна з’яўляецца самым вядомым выданнем самай першай друкарні на тэрыторыі Беларусі. Яна на вякі праславіла месца яе стварэння і далучаных да яе стварэння дзеячаў культуры.

Выданне пабачыла свет 4 верасня 1563 года. Яно выходзіла па загадзе і на сродкі берасцейскага старасты, канцлера ВКЛ Мікалая Радзівіла Чорнага. Верагоднымі рэдактарамі і выдаўцамі яе былі Ц. Базылік і С. Мурмэліус. Упершыню яе падрабязна апісаў вядомы польскі і беларускі рэфармацыйны дзеяч Сымон Будны.

На тэкст яе абапіраліся многія багасловы, гісторыкі і філолагі, якія грунтавалі на ёй свае развагі. Наступныя спробы навуковага аналізу былі звязаныя з працамі айчынных гісторыкаў і бібліёграфаў — Юзафа Ярашэвіча, Яўхіма Лялевеля, Адама Кіркора, Уладзіслава Сыракомлі і іншых. У савецкі час Берасцейская Біблія вельмі рэдка згадвалася ў айчынных публікацыях. І толькі з 80-х гадоў мінулага стагоддзя даследчыкі пачалі вельмі асцярожна разглядаць яе ў асобных аспектах. Сярод даследчыкаў можна назваць Віктара Шматава, Людмілу Іванову, Івана Саверчанку, Анатоля Грыцкевіча, Андруся Унучака і іншых.

**— Раскажыце, калі ласка, як пашыраліся даследаванні гэтага кніжнага помніка на працягу стагоддзяў.**

— Больш шырока дзейнасць Берасцейскай друкарні вывучалі польскія даследчыкі. Яны апублікавалі многія шырокія крыніцы, датычныя друкарні і Берасцейскай Бібліі. Значная роля ў разуменні гэтага выдання належыць расійскім, літоўскім і ўкраінскім кнігазнаўцам: Льву Уладзіміраву, Юрыю Лабынцаву, Міколу Нікалаеву, Ірыне Цікуновай, Дайве Нарбуцене і іншым. Адметную значнасць помніка здолелі абгрунтаваць мастацтвазнаўцы, бібліёграфы, літаратуразнаўцы і мовазнаўцы, тэолагі і рэлігіязнаўцы.



• *Каштоўны фаліянт прыцягвае ўвагу*

Па сучасных падліках, сёння ў свеце вядома больш за 130 асобнікаў Берасцейскай Бібліі — у дзяржаўных і прыватных зборах Беларусі, Аўстрыі, Вялікабрытаніі, Германіі, ЗША, Латвіі, Літвы, Расіі, Украіны, Францыі, Чэхіі і Швецыі.





• *Невядомыя старонкі найкаштоўнейшай кнігі XVI стагоддзя*

Наспеў час для шматаспектнай ацэнкі Берасцейскай Бібліі ў кантэксце нацыянальнай і агульначалавечай культуры як помніка сусветнай значнасці. У год 1000-годдзя Берасця склаліся найбольш спрыяльныя абставіны для глыбокага аналізу такой важнай у гісторыі горада з’явы, як Берасцейская Біблія.

Асабліва варта адзначыць высілкі берасцейскіх калег на чале з Алай Міхайлаўнай Мяснянкінай, якая ініцыявала канферэнцыю «Берасцейскія кнігазборы». Канферэнцыя вярнула Берасцейскую Біблію ў Беларусь і Берасце. Да 450-годдзя Берасцейскай Бібліі ў 2013 годзе праходзіў міжнародны круглы стол.

Берасцейскія даследчыкі стварылі цудоўны брэнд «Берасцейская Біблія. Берасцейскія кнігазборы». Яны запрасілі вядомых польскіх, расійскіх, украінскіх, літоўскіх даследчыкаў. У Брэст прыязджалі Мікола Нікалаеў, Вацлаў Валецкі і многія іншыя навукоўцы, якія зрабілі славу гэтай кнізе. Сёння ў Беларусі існуе школа берасцейскай кніжнасці. Перад абласной бібліятэкай у Брэсце пастаўлены помнік Берасцейскай Бібліі.

Мікалай Кузьміч зрабіў медаль у гонар Берасцейскай Бібліі, з’явіліся статуэткі з выявай знакамітага старадруку, сувенірныя магніты. Берасцейская Біблія становіцца брэндам горада. Першая шырокая прэзентацыя факсімільнага ўзнаўлення адбудзецца ў Брэсце ў пачатку верасня ў час правядзення міжнароднага мерапрыемства па наданні Брэсту статусу культурнай сталіцы СНД. Частка накладу будзе падорана бібліятэкам горада.

**— Дзе будуць захоўвацца асобнікі факсімільнага ўзнаўлення кніжнага шэдэўра?**

— Ад пачатку выдання Берасцейская Біблія была брэндавым, падарункавым выданнем. Мікалай Радзівіл Чорны дарыў яе каралю і іншым манархам Еўропы, перадаваў герцагу Альбрэхту ў Прусію. Яе захоўвалі ў сваіх бібліятэках князі, графы, шляхта Берасця, яе перадавалі як вялікі скарб у спадчыну, адпісвалі наступным уладальнікам, пакідалі ў пасаг для сыноў і дачок.

Факсімільнае ўзнаўленне выдання будзе падорана бібліятэкам Брэста.



• *Дэманстраванне Берасцейскай Бібліі на XXVII Міжнародным кніжным кірмашы*

Падчас прэзентавання факсімільнага ўзнаўлення Бібліі Ф. Скарыны некаторыя скардзіліся, што каштоўную калекцыю немагчыма набыць.

Зараз мы маем магчымасць выпусціць асобнікі факсімільнага ўзнаўлення ў розным паліграфічным выкананні і будзем прапаноўваць людзям, неабыякавым да нашай культуры, яе набываць.

Для сучасных беларусаў кніга можа стаць скарбам, які можна будзе мець дома. Кніга ніколі не страціць свайго кошту.

## Рэдкія кніжныя калекцыі вяртаюцца на Беларусь

*Наша наступная гутарка са слынным навукоўцам адбылася ў той момант, калі стала вядома аб рашэнні, згодна з якім Міністэрству культуры ў 2020 годзе са сродкаў фонду Прэзідэнта будзе выдзелена больш за 3 млн рублёў. Сродкі будуць накіраваныя на патрэбы, звязаныя з захаваннем і вяртаннем культурнай спадчыны краіны. Фонды Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі папоўняцца комплексам рукапісных і друкаваных кніжных помнікаў.*

**— Алесь Аляксандравіч, віншуем вас з добрай навіной! Якія кнігі папоўняць зборы бібліятэкі?**

— Гаворка ідзе пра вельмі дарагія і асабліва каштоўныя асобнікі. Гэта, напрыклад, адно з прыжыццёвых выданняў Мялецція Сматрыцкага. Сярод набываемых рарытэтаў — надзвычай каштоўны рукапіс татараў Беларусі — хамаіл, напісаны на беларуска-польскай мове арабскімі літарамі. Таксама бібліятэка атрымае комплекс архіўных дакументаў з розных рэгіёнаў Беларусі. Абсалютна ўнікальнымі з'яўляюцца прывілей і грамата каралёў польскіх і вялікіх князёў літоўскіх — Жыгімонта



Вазы і Уладзіслава IV, якія кіравалі нашай дзяржавай у канцы XVI — пачатку XVII стагоддзя. Адзін дакумент на паперы, другі на пергаменце. Адзін на лацінскай мове, другі на беларускай. Дакументаў за подпісам і з каралеўскай пячаткай у нас захавалася вельмі мала, таму гэта матэрыялы сапраўды выключнага значэння. Дакументы маюць выключную гістарычную, культурную, матэрыяльную каштоўнасць. Варта адзначыць і сацыяльную значнасць гэтага набыцця. Дэманстрацыя ўнікальных дакументаў у Музеі кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі будзе спрыяць развіццю патрыятызму, любові да Айчыны і шанаванню продкаў.

**— Спадар Алесь, вы папулярызуеце кніжную спадчыну, надаяце другое жыццё каштоўным кніжным помнікам, спяшаецеся пазнаёміць з імі сучаснікаў. Вы штодзённа захоплены гэтай працай!**

— Кніжная спадчына — вельмі вялікі пласт нашай культуры, размеркаваны і раскіданы па ўсім свеце. Гэта адзін з самых мабільных тыпаў культурнай спадчыны, якая лёгка вывозіцца за мяжу, прадаецца, якая ад пачатку існавання часта вандруе, пераходзіць з аднаго збору ў іншы. У выніку, на жаль, пераважная большасць помнікаў беларускага паходжання знаходзіцца па-за межамі краіны. У нас няма летапісных крыніц і хронік, рукапісаў да XIV стагоддзя, не захавалася выданняў першых беларускіх выдавецтваў XVI стагоддзя. Мы страцілі вялікую колькасць спадчыны, у параўнанні з нашымі краінамі-суседзямі мы выглядаем вельмі бедна. (Гэта была адна з прычын, чаму я прыйшоў на працу ў бібліятэку.) Сёння робіцца шмат для вяртання гэтай спадчыны назад у краіну. У гэтай справе ёсць вялікія дасягненні.

Кніга мае свае жыццё ад стварэння, нараджэння ідэі, друкавання і выкарыстання ў бібліятэках. Раней ці пазней наступае момант, калі кніга сыходзіць з ужытку. Праз пэўны час адбываецца, так бы мовіць, уваскрэсенне кнігі, пачынаецца яе новае жыццё, яе пераарыентацыя на новыя задачы. Кніжныя помнікі сёння выконваюць новыя функцыі і задачы: выхаваўчыя і адукацыйныя. Сёння папулярызацыя кніжных помнікаў актыўна ідзе ў віртуальнай прасторы. Помнікі апісваюцца, абмяркоўваюцца, ідзе іх папулярызацыя, маецца доступ да розных крыніц. Лічбавыя копіі пацвярджаюць, што кніжны помнік у рэальнасці існуе, гэта важна для даследчыкаў.

**— Вы наведвалі бібліятэкі ў Лондане, Капенгагене, Франкфурце і іншых еўрапейскіх гарадах. Як там зберагаюцца каштоўныя старажытныя выданні? Як выкарыстоўваюцца сучасныя тэхналогіі?**

— Мы выглядаем не горш, чым еўрапейскія краіны, у гэтым сэнсе. У нас цудоўнае сховішча, адно з найлепшых, у нас выдатны Музей кнігі. Наша кнігасховішча не горшае, чым у Каралеўскай бібліятэцы ў Капенгагене! Перад пераездам у новы будынак мы пільна вывучалі замежны досвед, і сёння мы выкарыстоўваем найлепшыя тэхналагічныя рашэнні.

У Нацыянальнай бібліятэкі заўжды было вялікае кола кантактаў. Але 500-годдзе беларускага кнігадрукавання дазволіла нам паглядзець далей наперад, завязаць новыя кантакты. З'явіліся новыя магчымасці.

**— Штогод у Міжнародных кнігазнаўчых чытаннях удзельнічаюць вядомыя даследчыкі з замежных краін. Вы стварылі выдатную дыскусійную пляцоўку для кнігавыдаўцоў, філолагаў, культуролагаў.**

— Больш за дваццаць год праходзіць канферэнцыя, яна ўжо 16-я па ліку. Спачатку чытанні праводзіліся з інтэрвалам у чатыры гады, потым — раз на два гады, а цяпер — штогод. У першых чытаннях прымаў удзел шэраг нашых беларускіх кнігазнаўцаў — кнігазнаўчая школа Нацыянальнай бібліятэкі. Традыцыя была закладзена Таццянай Рошчынай у аддзеле рэдкай кнігі, там ужо працавалі Галіна Кірэева і Людміла Станкевіч, Наталля Саверчанка і іншыя калегі. З'явілася новае пакаленне кнігазнаўцаў — Таццяна Сапега, Нэлі Верас, Таццяна Карнілава і іншыя маладыя супрацоўніцы, якія ярка сябе праявілі. У чытаннях брали ўдзел кнігазнаўцы з іншых навуковых цэнтраў — Аляксандр Стэфановіч з Акадэмічнай бібліятэкі, Валерый Герасімаў з Прэзідэнцкай бібліятэкі, Ларыса Доўнар з Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Неаднойчы прыязджалі замежныя госці з Літвы, Расіі, Украіны, Польшчы. Трэцяе дзесяцігоддзе мы падтрымліваем з навукоўцамі, сярод якіх Кшыштаф Мігань, Мікола Нікалаеў, Юрый Лабынцаў, Ларыса Шчавінская, Наталля Бондар, Зоя Ярашэвіч-Пераслаўцаў, Марыя Підлыпчак-Маеровіч, Лілія Коўкель, Дайва Нарбуцене, Арвідас Пацевічус, Арнольд Мак— Мілін, Антоні Мірановіч і многія іншыя, плённыя стасункі.

Кнігазнаўчыя чытанні — гэта, найперш, камунікацыя, апрабіраванне сваёй думкі, гіпотэзы. Чытанні ствараюць атмасферу навуковай дыскусіі. Міжнародныя кнігазнаўчыя чытанні застаюцца галоўнай навуковай пляцоўкай кнігазнаўцаў Беларусі. З кожным годам пачыналі з'яўляцца профілі: мы звярталі ўвагу на Радзівілаўскія зборы, на помнікі прававой і юрыдычнай думкі, акцэнтавалі ўвагу на букварах і падручніках для пачатковага навучання грамаце, скіроўвалі ўвагу чытанняў на юбілей беларускага кнігадрукавання, і апошнія чытанні былі прысвечаны 500-годдзю Жыровіцкага манастыра, даўняга духоўнага і кніжнага цэнтра Беларусі.





• *Г. Я. Галенчанка, Л. С. Іванова і А. А. Суша на кнігазнаўчых чытаннях*

Кожны год мы знаходзім новых калег, апрача навуковай часткі канферэнцыі ёсць нефармальныя стасункі, культурная праграма ў выглядзе тэматычнай выставы, і гэта сапраўды добрая традыцыя.

Ад часу свайго заснавання чытанні былі пляцоўкай кантактаў, формай камунікацыі кнігазнаўцаў, вучоных, бібліятэкараў-практыкаў, спецыялістаў архіваў, музеяў, навуковых і навучальных устаноў, таксама аматараў — усіх, каму не абыякава кніжная культура Беларусі. Тычылася гэта і практыкаў у галіне выдавецкай справы: выдаўцоў, паліграфістаў, таксама прадстаўнікоў сферы кніжнага гандлю і многіх іншых.

Што было заўсёды важным — непасрэдныя кантакты, сустрэчы ўжывую і з класікамі кнігазнаўства, і з маладымі спецыялістамі.

**— Вы маеце справу з кніжнымі калекцыямі вядомых аўтараў. Як удаецца іх вярнуць на радзіму?**

— Да нас нядаўна трапіла прыжыццёвае выданне твораў Уладзіслава Сыракомлі з 50 кніг, набытае пры падтрымцы прыватных асобаў, у пры-

ватнасці Андрэя Нажэскіна, ганаровага консула Беларусі ў Швейцарыі. У хуткім часе адбудзецца дэманстраванне гэтай калекцыі ў Музеі кнігі.

**— Грамадская арганізацыя, якую вы ўзначальваеце, мае шэраг пачэсных мэтаў.**

— Міжнародная асацыяцыя беларусістаў мае задачай гуртаваць даследчыкаў-беларусазнаўцаў у розных краінах, скіроўваць на агульныя патрэбы, падказваць даследчыкам пра магчымасць супольнага ўзаемадзеяння, даваць інфармацыю пра новыя публікацыі, праводзіць навуковыя мерапрыемствы.

Найважнейшай задачай ёсць фарміраванне новых пакаленняў беларусазнаўцаў у Беларусі і за мяжою, пашырэнне станоўчага вобраза нашай краіны і нашай культуры ў свеце.

**— Энцыклапедыст, літаратуразнавец, доктар філалагічных навук, прафесар Адам Мальдзіс перадаў вам паўнамоцтвы кіравання Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў у 2015 годзе. Напэўна, вы адчуваеце пераемнасць яго справаў, інтарэсаў, зацікаўленасцяў?**

— Адам Восіпавіч — чалавек-акадэмія, унікальны сам па сабе. Многія памятаюць яго ініцыятывы савецкага часу, калі ён узначальваў філалагічную суполку, якая займалася вывучэннем беларускай літаратуры, ён матываваў на многія міжнародныя акадэмічныя праекты. Многія памятаюць яго энцыклапедычны даведнік пра пісьменнікаў. Ён кіраваў дзейнасцю Скарынаўскага цэнтра. Адам Восіпавіч быў першым кіраўніком Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, першыя яе прэзідэнтам, і сёння ён застаецца ганаровым старшынёй асацыяцыі і яе духоўным лідарам.

Пасля Адама Восіпавіча Асацыяцыю пяць гадоў узначальваў Сяргей Запрудскі, потым ёй кіраваў акадэмік Міхаіл Паўлавіч Касцюк. Апошнія пяць гадоў кірую я. Дзякуючы рэкамендацыі і парадзе Адама Восіпавіча мне была даверана гэта адказнасць, я вырашыў паспрабаваць, і ў мяне атрымалася.

**— Спадар Алесь, большасць вашых выступленняў гучыць па-беларуску. Як сёння ўспрымаецца беларуская мова ў грамадскай прасторы?**

— Для мяне беларуская мова — самы блізкі і дасканалы інструмент камунікацыі.

Я больш натуральна яе адчуваю, яна мне родная і блізкая з дзяцінства, на ёй я шмат працей магу выказаць сваю думку (хаця мае навуковыя працы выходзілі на польскай, украінскай і англійскай мовах, асноўная мая мова — беларуская). Я б быў шчаслівы, каб для большасці






• *На міжнароднай канферэнцыі «Праблемы і выклікі дзяржаўнага двухмоўя ў Беларусі і Вялікабрытаніі»*

беларусаў было так! Праз мову продкаў можна выявіць генетычны код, больш упэўнена выявіць генетычна закладзеную і бацькамі ўзрошчаную асабістасць.

У 80-я гады беларускамоўны чалавек успрымаўся як настаўнік беларускай мовы, чалавек з высокай адукацыяй, альбо як недавук з вёскі. Сёння такога антаганізму няма.

Беларуская мова сёння — мова суперадукаваных людзей, статус беларускай мовы — гэта статус эліты. Калі ты размаўляеш па-беларуску, могуць палічыць, што працуеш дыктарам на тэлебачанні. Статус мовы змяніўся вельмі істотна, і гэтым трэба карыстацца. Статус мовы з’яўляецца, у пэўнай ступені, козырам у плане яе пашырэння.

Калі ты размаўляеш па-беларуску, ты — эліта. Ці ты кантактуеш з палітыкамі ці дыпламатамі — статус твой зусім іншы. Высокі статус беларускай мовы — своеасаблівы п’едэстал, на які яна ўзышла. Часта суразмоўцы баяцца, што не могуць у адказ гаварыць на чыстай беларускай мове. Але ж без практыкі і памылак не дайсці да дасканаласці. Трэ-



• *Ксенія Суша з дзецьмі Кастусём і Каралінай*

ба проста не баяцца, а пачынаць размаўляць. У практыцы Нацыянальнай бібліятэкі, напрыклад, я з калегамі перайшоў даволі даўно ўжо на правядзенне працоўных планёрак на беларускай мове.

**— Вы фарміруеце новыя пакаленні ў любові да беларускай культуры, да кніжнай спадчыны.**

— Ёсць светлыя і цёмныя старонкі ў нашай гісторыі. Усе трэба ацэньваць уважліва, глядзець на тыя памылкі, якія былі ў мінулым, і спрабаваць іх не дапусціць. Трэба вывучаць і папулярызаваць нашу культурную спадчыну, чым я і займаюся. Спадчына ўздымае нацыянальную годнасць — не ганарыстасць, а гонар і павагу да самога сябе, развівае любоў да сваёй краіны, сваёй зямлі, сваіх продкаў.

**— Дзякуем за вашу нястомную працу, жадаем вам поспехаў!**

(Падчас нашай апошняй гутаркі са спадаром Алесем Сушам прыйшло паведамленне пра ўзнагароджанне яго медалём Францыска Скарыны.)

## ФАГАТЫСТ І ДАСЛЕДЧЫК ПАПУЛЯРЫЗУЕ СТАРАЖЫТНУЮ БЕЛАРУСКУЮ МУЗЫКУ

*Славуты музыкант, дырыжор, музыказнаўца, выкладчык, культуролаг і асветнік Аляксей Фралоў з самых маладых гадоў пачаў жыць для грамадства, вывучаць і папулярызаваць старажытную беларускую культуру і мастацтва, нашу музычную спадчыну на радзіме і за мяжой.*



• *З прызам лаўрэата знакамітага міжнароднага конкурсу сучаснай музыкі — Конкурсу Пэндэрэцкага ў Кракаве*

*Толькі за апошнія некалькі гадоў музыкант (адначасова з асноўнай працай у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры Беларусі і Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі) арганізаваў сотні вялікіх і камерных канцэртаў, маштабных творчых праектаў, якія сталі настолькі знакавымі, што іх можна характарызаваць як вехі ў нашай сучаснай культуры.*

*Ён імкнецца канцэптуальна паказаць Беларусь як унікальную краіну з самабытнай гісторыяй, з вялікімі еўрапейскімі і нацыянальнымі (у тым ліку музычнымі) традыцыямі ў еўрапейскім і сусветным кантэксце.*

*Так, у 2017 годзе дырыжор Аляксей Фралоў арганізаваў і правёў цэлы шэраг знакавых канцэртаў у Вялікай зале Белдзяржфілармоніі, прысвечаных 500-годдзю беларускай Біблії і 500-годдзю царкоўнай Рэфармацыі ў Еўропе.*

*Аўтарытэтны даследчык старадаўняй беларускай музыкі, музыказнаўца Аляксей Фралоў рэгулярна і ў самых розных аўдыторыях праводзіць змястоўныя лекцыі пра беларускую музычную Атлантыду, пра нашу культуру і гісторыю ў цэлым. Сотні і сотні яго лекцый былі прачытаны студэнтам падчас шматгадовай працы ў Акадэміі музыкі, музычным ліцэі, а таксама на розных грамадскіх платформах і на замежных навуковых канферэнцыях, адкрывалі слухачам погляд на Беларусь і нашу спадчыну.*

*Выдатны фагатыст атрымаў прызнанне і званне лаўрэата на прэстыжных еўрапейскіх конкурсах як выканаўца-саліст. І як прыхільнік*

*свайго інструмента, музыкалагічныя вывучэнні ён пачаў менавіта з фагота.*

*Патрыёт Беларусі, спадар Аляксей ладзіць захапляльныя краязнаўчыя падарожжы па мясцінах, звязаных з жыццём і творчасцю знакамітых кампазітараў, мастакоў, дзеячаў айчыннай культуры і гісторыі. Так, у апошнія гады Аляксей Фралоў быў мастацкім кіраўніком фэсту «Год Агінскага» ў Залессі з новымі штомесячнымі канцэртамі і тэматычнымі экскурсійнымі праграмамі (2015), адным з арганізатараў і рухавікоў комплекснага святкавання юбілею Станіслава Манюшкі (2019).*

**— Спадар Аляксей, вы правялі шмат мерапрыемстваў у юбілейны год 500-годдзя беларускай Бібліі, плённа працавалі, каб далучыць больш людзей да скарынаўскай эпохі. Што для вас было самым галоўным? Якая падзея пакінула найбольшы след у вашай душы?**



• *Маэстра Фралоў выступае ў Белдзяржфілармоніі*

— Сам факт, што мы жывем у год вялікага 500-годдзя, і адчуваўся галоўным. Невялічкая каманда-аргкамітэт юбілею імкнулася да таго, каб усе праекты, якія задумваліся з гэтай нагоды, рэалізоўваліся максімальна сэнсоўна і мелі вялікае культурнае значэнне і духоўную сілу. Мы запланавалі і ажыццявілі разгорнутую праграму святкаванняў. Лепшыя людзі краіны і творчыя калектывы адзначалі беларускую 500-годнасць. Мы ўцягнулі ў арбіту святкавання тысячы людзей, актуалізавалі для іх тэму і моцна зацікавілі. Першы наш манументальны Скарынаўскі канцэрт на Беларусі прагучаў 12 лютага з удзелам цудоўных салістаў беларускай оперы, Дзяржаўнага камернага хору і сімфанічнага аркестра «Capella Academia». Наступным быў канцэрт духавога аркестра Акадэміі музыкі «У Златай Празе», якую мы прысвяцілі беларуска-чэшскім сувязям і Скарынавай друкарні там. Аншлагі, якія суправаджалі нашы праграмы, шырока прадстаўлены дыпламатычны корпус, вельмі цёплы прыём публікі даказвалі актуальнасць тэмы і падтрымлівалі ўсіх нас.



Далей з нагоды 500-годдзя адбыўся цэлы шэраг камерных канцэртаў у Мірскім замку — равесніку і сведку Рэфармацыі, у Камернай зале імя Александроўскай у Вялікім тэатры Беларусі, адукацыйныя праграмы ў розных навучальных установах.

Кожную праграму мы імкнуліся ўпрыгожыць новымі дапаможнымі элементамі, якія ствараюць эфект шматграннай, шматжанравай дзеі, пэўнай тэатралізацыі. Так, дадатковай атракцыяй падчас канцэрта духавога аркестра БДАМ, які парадаваў чэшскага амбасадара і ўсю публіку, быў візіт сярэднявечнага рыцара, што нагадваў пра паход пяцітысячнага айчыннага войска на чале з князем Жыгімонтам Карыбутавічам на дапамогу Чэхіі і яе героям-гусітам, якія змагаліся за Веру і Незалежнасць у XV стагоддзі. Пан Юры Усціновіч забяспечыў нас рыцарскімі даспехамі з яго калекцыі і гожа аздобіў наш канцэрт.



• *Ансамбль «Вытокі»*

Быў і тэматычны канцэрт нашага ансамбля салістаў «Вытокі» ў палацы вялікіх князёў літоўскіх у Вільні. Манументальнае аркестрава-харавое завяршэнне юбілеяў беларускай Бібліі і кнігадрукавання і 500-годдзя еўрапейскай царкоўнай Рэфармацыі адбылося ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі роўна ў дзень, калі Марцін Лютэр аб'явіў гораду і свету свае славутыя 95 тэзісаў. Праграму «Дзень Лютара» 31 кастрычніка 2017 года мы прадставілі з тымі ж удзельнікамі, як і самы першы канцэрт-адкрыццё на пачатку года, стварыўшы своеасаблівую музычную рэнесансную арку мерапрыемстваў.



• *Афіша канцэрта да 500-годдзя беларускай Бібліі*

Кожны канцэрт — вялікі і малы — дапаўняўся і Словам. Разгорнуты наш канферанс, музыказнаўчыя, гістарычныя і багаслоўскія каментарыі былі неабходныя для максімальнага спасціжэння вялікай Музыкі і яе кантэксту. Важны ўдзел у гэтым прыняла шаноўная доктар тэалогіі Ірына Дубянецкая, за што шчыра ўдзячны ёй. Дзякуем сардэчна таксама пастару і гісторыку Антонію Бокуну, які самаадданa дапамагаў у арганізацыйных справах.

8 лістапада адбыўся як бы «духавы post scriptum» нашых святкаванняў — канцэрт «Tuba Mirum» у выкананні духавога аркестра «Няміга», Мінскага квартэта трамбаністаў і спецыяльнага госця — саліста з Францыі Жака Мажэ (трамбон). Літаральна кожная праграма ўключала як вядомыя музычныя творы, так і прэм'еры, у тым ліку мае архіўныя знаходкі.

Прыемна, што ўсё збылося і манументальныя планы рэалізаваліся. За ўсё дзякуем Богу. Soli Deo Gloria! Рабіць важную для краіны і народа справу — годная мэта. Юбілейныя святкаванні праз музыку мелі ў сваёй аснове Скарынавы тэзісы: «Богу ко чти, людям посполитым ко научению».

**— У тым жа часе вы ажыццявілі шэраг захапляльных падарожжаў з асветніцкімі мэтамі.**

— «Дзеля паўнаты карціны» нам самім і ўсім аматарам тэмы было патрэбна не толькі сто разоў пачуць пра… але і адзін раз убачыць



тыя гістарычныя мясціны! Вось і было прынята рашэнне на грамадскіх пачатках арганізаваць сапраўдную культурную місію, дэлегацыю беларускіх спецыялістаў і аматараў па самых важных гістарычных мясцінах, звязаных з 500-годдзем. Канечне, як заўсёды, мы ўключылі ў вандроўкі і музычны аспект. Адбылася культуралагічная паездка ў Нямеччыну па многіх раёнах жыцця і дзейнасці Марціна Лютэра, па шляхах разгортвання нямецкай царкоўнай Рэфармацыі. Мы пабывалі ў многіх унікальных мясцінах — Айзэнаху і замку Вартбург, Эрфурце і Вітэнбергу, Халле і Магдэбургу, Майсэне і Наўмбургу, Дрэздэне і Ляйпцыгу! Мы прасачылі на мясцовасці лёсы вялікага Лютэра і геніяльных Баха і Гендэля (а яны не выпадкова побач, і часта перакрыжоўваюцца).

Падобная паездка адбылася ў нас і ў Чэхію, якую мы аб'ехалі «ўздоўж і па дыяганалі», дзе мы агледзелі 10 з 12 існуючых аб'ектаў ЮНЭСКА ў краіне, пабывалі ва ўсіх вядомых Скарынавых мясцінах. Дадалі элемент экспедыцыі ў нашу паездку і пошукі магілы асветніка, таму што ёсць навуковае дапушчэнне, што першадрукар мог быць пахаваны ў чэшскім Крумлаве, а не ў Празе на Градчанах. З намі ездзілі навукоўцы-скарыназнаўцы, і мы супольна шукалі магчымыя новыя згадкі пра нашага першадрукара ў чэшскім Крумлаве. У мяркуемым месцы спачыну Скарыны мы знайшлі пахаванні, датаваныя 1549, 1550 гадамі, такімі блізкімі да часу смерці самога беларускага Генія Рэнесансу. Але яго надмагілля



• *Культурная дэлегацыя беларусаў ля помніка Скарыне ў Празе. 2017 год*



• *На канцэрце ў Белдзяржфілармоніі*

анідзе выяўлена не было (магчыма, што і не захавалася да нашага часу). Не ўсе гістарычныя загадкі яшчэ разгаданыя.

**— А якую музыку мог слухаць Францішак Скарына ў Венецыі, Падуі? Каго ён мог чуць з кампазітараў пачатку XVI стагоддзя?**

— Гэта эпоха росквіту венецыянскай музыкі. Сюды далятаюць гукі і ідэі нідэрландскай кампазітарскай школы, усходніх краін. У храмах гучаў грыгарыянскі харал і арганныя творы яшчэ з познесярэднявечнай традыцыі. Музыка актыўна развівалася і ў Фларэнцыі пры двары Медычы ўжо ў XV стагоддзі. Такія культурныя цэнтры, як Фларэнцыя і Венецыя, праз узаемадзеянні розных відаў мастацтва і саміх найвыдатнейшых творцаў, праз скрыжаванні перадавых думак і геніяльных адкрыццяў былі светачамі ў Сярэднявеччы і давалі новыя імпульсы, ідэі,



• *Ансамбль «Вытокі» ў Падуі*



жанры для развіцця рэнесансных рухаў на ўсім кантыненце. Яны былі галоўнымі гарадамі ў эпоху Адраджэння.

У 2016-м мы наведалі гэтыя гарады, калі вандравалі шляхамі Міхала Клеафаса Агінскага і Францішка Скарыны.

На завяршэнне Года Агінскага наш ансамбль «Вытокі» адправіўся ў Падую і ў Фларэнцыю. У легендарным саборы Санта-Крочэ — нацыянальным пантэоне вялікіх італьянцаў — мы ігралі канцэрт побач з магілай Міхала Клеафаса Агінскага, а ў Падуанскім універсітэце пасядзелі на тых жа лавах, дзе «студыёзус» Францішак з Полацка абараняў свае дактараты. Мы былі прыняты ганаровым консулам Рэспублікі Беларусь і кіраўніцтвам Падуанскага ўніверсітэта, адбыўся дыялог у памяць пра шматвяковыя традыцыі беларуска-італьянскіх культурных сувязяў.

Нам важна паказваць Беларусь на гэтай планеце праз прыгожыя і добрыя дзеі і вартых людзей. А яшчэ за многія пакаленні да нас гэтую краіну (з рознымі назвамі ў розныя эпохі) годна і прыгожа прадстаўлялі Усяслаў і Еўфрасіння, Скарына і Гусоўскі, браты Радзівілы і Леў Сапега, Міхал Клеафас Агінскі і Станіслаў Манюшка, філаматы ў XIX стагоддзі, «і фізікі, і лірыкі», вучоныя, пісьменнікі і мастакі XX ст., многія




• *Перад галоўным канцэртам года Агінскага*

іншыя нашыя героі. Таму важна пра іх памятаць, пра іх успамінаць на радзіме і за яе межамі.

**— Спадар Аляксей, вы часта папулярызуеце менавіта музыку хрысціянскіх кампазітараў, распавядаеце пра вядомыя і малавядомыя духоўныя творы. На адным з канцэртаў, дзе мне давялося быць, вы нагадалі пра тое, што Антоніа Вівальдзі быў святаром. Дзе вы знаходзіце такія цікавыя звесткі?**

— Пра Вівальдзі акурат гэта вельмі вядомы факт, які, што праўда, прыхоўвалі ў савецкіх музычных школах. Усё, што датычылася царкоўнага жыцця, рэтушыравалася. Рабіўся «прыгожы, правільны» партрэт класіка з пункту гледжання савецкай ідэалогіі. «Царкоўнасць» кампазітараў замінала такой «прывабнай карціне». Ад майго бацькі мне вядомы смешны факт (а ў той час яно было не вельмі смешна), што, калі яны з калегамі толькі стваралі ў філармоніі «Кантабіле» (першы ў Беларусі ансамбль старадаўняй музыкі), ім строга «пагразілі пальчыкам» з высокіх міністэрска-цэкоўскіх кабінетаў: маўляў, «вы што, збіраецеся нейкую царкоўную музыку іграць тут?!». Музыкі адказалі тады: «Дык мы ж Баха будзем выконваць!» Гэты жалезны аргумент крыху астудзіў тады пільных чыноўнікаў-ідэолагаў… Безумоўна, многія стагоддзі царкоўная культура была найвышэйшай, а свецкая часта існавала ў яе фарватары. Але паступова пачаўся працэс узаемадзеяння і ўзаемапранікнення, выроўнівання іх значэнняў у культурным грамадстве. …А каб знаходзіць цікавосткі і рабіць рэальна новыя адкрыцці — цікаўлюся, шукаю, чытаю, вывучаю…

**— Які ваш досвед як верніка?**

— У юнацкім узросце, як толькі прыйшло самаўсведамленне, я пачаў цікавіцца «горнім» і абышоў усе існыя тады даступныя мне ў Мінску хрысціянскія канфесіі, у кожнай убачыў свае плюсы — ці ў дактрынах, ці ў практыцы, ці ў гісторыі. Добра і моцна ўражаны быў хрысціянскай культурай і людзьмі ў Каталіцкім Касцёле, дзе дагэтуль засталося шмат сяброў. А супыніўся на традыцыйнай Евангелічнай Рэфармацкай Царкве, якая падалася найбольш адпаведнай Бібліі ў дактрынах і практыках, якая ў залаты век Беларусі — эпоху Рэнесансу — была ў нас найбольш распаўсюджанай. Пасля атэістычнага ліхалецця Царква адрадзілася, але не ў такой сіле. Сёння існуе толькі дзве абшчыны (прыходы) у Мінску і адна ў Магілёве. Але пры гэтым задачы Царквы — не папулярызаваць сваю грамаду ці канкрэтную дактрыну, а проста быць зборам вернікаў-хрысціянаў, следаваць Святому Пісанню, ісці за Хрыстом і праслаўляць Бога ў Тройцы.





• *Ансамбль «Вытокі» ля мемарыяльнага помніка М. К. Агінскаму*



• *Будынкак Эвангелічна-Рэфармацкай Царквы ў Мінску*



• *З фаготам*

**— Аснову вашай любові да музыкі заклалі менавіта бацькі. Ці не так?**

— Сапраўды, гэта так. Мой бацька — заслужаны артыст Беларусі, адзін з заснавальнікаў у 1976 годзе ансамбля старадаўняй музыкі «Кантабіле», выдатны саліст-габаіст Сімфанічнага аркестра Белдзяржфілармоніі, Валерый Васільевіч Фралоў. Ён перадаў мне музычныя гены і імпульс, таксама многія прафесійныя духавыя сакрэты. Па мамінай лініі родныя таксама былі музычна вельмі адоранымі. Прадзед па маме выдатна граў на скрыпцы, бабуля мела абсалютны слых. Мама, Ірына Аляксандраўна, мае цудоўны слых і густ, пачуццё і любоў да музыкі і іншых мастацтваў. З самага ранняга дзяцінства рэгулярна вадзіла мяне ў філармонію, у Оперны тэатр на сур’ёзную класічную музыку.

**— А што ж гэта за дзіўны інструмент такі — фагот? І чаму фагот?**

— Фізіка-матэматычная будучыня або піяністычная кар’ера? І тое, і другое было цалкам рэальна, пра што казалі выдатныя адзнакі па большасці дысцыплінаў. Але здаўна вабіла бацькава «духавая скрыпка» — габой! Яго аўтарытэтам і майстэрствам



шалі выбару пераважылі на карысць духавой перспектывы… Выбраны быў самы блізкі да габоя інструмент — яго сваяк фагот, «духавая віяланчэль». Выбраны яшчэ і таму, што менавіта гэты інструмент выкладаў тады ў музычным ліцэі і ў кансерваторыі адзін з найлепшых беларускіх салістаў і музычных педагогаў сучаснасці — Уладзімір Уладзіміравіч Будкевіч. Яго імя стала яшчэ адным галоўным аргументам.

Гэта вельмі прыгожы гукам і багаты тэмбральнымі і дыяпазоннымі магчымасцямі інструмент, які вельмі ўражвае ўжо нават сваім знешнім выглядам. Мноства цудоўных сола ў аркестравых і ансамблевых творах напісана ў эпоху Барока, Класіцызму, Рамантызму, музыцы XX ст. Шмат яркіх сольных опусаў створана самымі вялікімі кампазітарамі ў гісторыі.

Прарадзіма ж фагота — Італія. «Фаготто» па-італьянску — «звязка». Як часам жартуюць самі фагатысты — «вязанка дроваў».

Маленькая дэталь, якая і «праз фагот» паказвае парадыгмы беларускай гісторыі, выразна адрознівае яе ад суседскай, але такой іншай — расійскай.

Беларускі фагот (дакладней, яго прататып — дульцыян, ці, іначай, шторт) распаўсюджваецца ўжо ад пачатку XVII стагоддзя! 400 года таму — уявіце сабе! Ён ужо існаваў тады ў капэлах магнатаў, арыстакратаў і нават сярэдняй шляхты! А ў Гародні на каралеўскім двары яшчэ раней — ужо ў канцы XVI ст. ён згаданы ў славутай Гарадзенскай «Літоўскай капэле». То бок Стэфан Баторы ўжо мог чуць гукі падобнага інструмента! Дарэчы, гэтыя працэсы ішлі адначасова з працэсамі пры дварах іншых заходне- і цэнтральнаеўрапейскіх манархаў. Гэтыя нашыя, здаецца, маленькія навуковыя адкрыцці выяўляюць цэлую сістэмную з’яву. Яны паказваюць, што Беларусь — гэта еўрапейская краіна з еўрапейскімі працэсамі ў культуры і багатымі і старадаўнімі традыцыямі, у тым ліку і музычнымі.

Толькі параўнайце — скажам, уся інструментальная музыка ў Масковіі-Расіі з’явілася толькі праз сто, а па многіх параметрах і праз некалькі сотняў гадоў пасля беларускіх аналагаў. (Першыя праблескі ў часы Аляксея Міхайлавіча, а кардынальна — з паваротам штурвала на Захад Пятром Першым, пры Лізавеце і Кацярыне Другой.)

**— Вы заўсёды згадвалі з вялікай павагай і пра вашых выкладчыкаў, у тым ліку па дырыжыраванні, якія на вас паўплывалі ў Беларускай акадэміі музыкі…**

— Барыс Сцяпанавіч Чудакоў і Аляксандр Пятровіч Сасноўскі — выдатнейшыя педагогі па дырыжыраванні, носьбіты сапраўднай школы і багатых прафесійных ведаў! Я іх вучань у гэтай прафесіі. Можна вельмі шмат пра іх апавядаць, але тут хачу сказаць толькі адно: па нейкіх невытлумачальных прычынах ад нашых «органаў кіравання» культурай зусім не дастаткова ўвагі і павагі да такіх унікальных людзей, як названыя дырыжоры з іх заслугамі! Ва ўсіх іншых краінах, дзе існуе падобная сістэма, яны б даўным-даўно былі ўшанаваныя званнем «народны артыст»…

Таксама вучыўся ў Вільні — у маэстра Юозаса Домаркаса, народнага артыста СССР, легенды літоўскай і еўрапейскай музыкі. Як бачыце, мне пашчасціла павучыцца ў некалькіх выдатных педагогаў, якія маюць свае метады і погляды, параўнаць школы, узяць у кожнага з іх нешта ўнікальнае. Неаднойчы бываў я і на майстар-курсах у Венгрыі і Турцыі ў аўтарытэтнейшага дырыжора — Алпаслана Эрцюнгялпа, які доўгі час працаваў разам з геніяльным Клаўдыё Абадо і працягвае яго школу.



• *Мячэць у Дамаску*





• *Дамаск. Прафесар Фралоў са студэнтамі*

**— Спадар Аляксей, раскажыце, калі ласка, пра вашу працу ў Сірыі.**

— У Дамаску я працаваў цэлы сезон у Нацыянальным сімфанічным аркестры Сірыі ў якасці першага фагатыста і прафесарам па класе фагота Вышэйшага інстытута музыкі і тэатра. Напрыканцы года там пачала разгарацца вайна, і заставацца там было праблематычна. Там я зразумеў, што свет не чорна-белы і што ёсць іншая сістэма каардынат, чым «Захад–Усход», «камунізм–капіталізм» або «дэмакратыя–аўтарытарызм». Сапраўды важны дыскурс — «Праўда і мана», «Нябеснае–зямное»…

Мір, дабро між людзьмі і групамі людзей, свабода верыць і спавядаць (што было ў Сірыі да таго, як там яе ворагі развязалі вайну) — нашмат важнейшае, чым фармальная прыналежнасць да геапалітычных блокаў, да «правільнай катэгорыі» ў названых фармальных сістэмах каардынат. Дамаск на многае адкрыў мне вочы, прымусіў памудрэць. Я з жалем убачыў, што хлусіць і весці да злому і зла могуць і некаторыя былыя «аўтарытэты на Захадзе»… Праца і жыццё ў Дамаску пакінулі ў мяне найлепшыя, найярчэйшыя, незабыўныя ўражанні.

Я адчуў дабрыню гэтага народа, яго вялікую сардэчнасць.. Яны гатовы падзяліцца з табой усім, бо ты — госць і сябра. І няважна, хто і адкуль — амерыканец, француз, расеец ці беларус (прынамсі, так было да вайны). Тамтэйшыя людзі паважаюць і цягнуцца да еўрапейскай культуры, да музыкі, да мастацтва, пры гэтым вельмі шануючы сваё.

## Наведваючы мясціны Манюшкі

*Нашы сустрэчы з Аляксеем Фраловым працягнуліся ў 2019 годзе, у юбілейны год Станіслава Манюшкі. Фралоў — дырыжор, саліст і музыказнавец — разам з іншымі дзеячамі культуры арганізаваў цэлы шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных нашаму геніяльнаму кампазітару, каб далучыць большую колькасць беларусаў да яго музычнай спадчыны. Спадар Аляксей правёў больш за дзясятак экскурсій па мясцінах, звязаных з родам Манюшкаў. Для сяброў Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны ён арганізаваў падарожжа ў Волму, дзе знаходзілася Убельская сядзіба бацькоў кампазітара, у раён Смалявічаў, дзе існавалі некалькі манюшкавых маёнткаў, у блізкі манастыр у Лядах і ў Смілавічы, каб агледзець замак-палац — «гняздо роду», заснаваны Манюшкам-дзедам.*

*З Аляксеем Фраловым зацікаўленыя вандроўнікі наведалі ў Смілавічах яшчэ і музычную гасцёўню, створаную ў 2017 годзе пры падтрымцы праекта ЕС-ПРААН па садзейнічанні культурнаму развіццю рэгіёнаў.*

— Станіслаў Манюшка быў кампазітарам еўрапейскага ўзроўню, значэння і славы! Яго імя можна назваць сярод такіх, як Бедржых Сме́тана, Антанін Дворжак, — распавёў спадар Аляксей. — Ужо раннія мінскія оперы Манюшкі («аперэткі», як ён іх далікатна называў) рабіліся папулярнымі — «Рэкруцкі набор», «Канторшчыкі», «Латарэя», «Чарадзейная вада» (ставілася больш за 20 разоў), а славутая опера «Ідылія», або «Сялянка», у якой упершыню з акадэмічнай опернай сцэны загучала беларуская мова, ставілася ў Мінску, Слуцку, Глуску, Бабруйску. Што казаць пра віленскую «Гальку», ці варшаўскі «Страшны двор», які стаў практычна нацыянальным маніфестам у музыцы?

У Варшаве, у Польшчы ў цэлым сёлета адбыліся вялікія і шматгранныя святкаванні, у «Тэатры Велькім» прайшлі грандыёзныя ўрачыстасці з юбілейнымі канцэртамі, Манюшкаўскі конкурс, адкрыта спецыяльная выстава, сам Прэзідэнт Анджэй Дуда ўсклаў прыгожыя вянкі з кветкамі ля помніка і на магіле кампазітара. Цэнтральны вакзал у сталіцы Польшчы названы імем класіка, перайменаваны або названы ў яго гонар многія вуліцы, пляцы, інстытуцыі. Рэгулярная прысутнасць опер Манюшкі на Вялікай опернай сцэне — там проста аксіёма! Гэта святое! А што ў нас на дзяржаўным узроўні?..



**— Спадар Аляксей, у вас нарадзілася безліч цікавых ідэй, каб годна ўшанаваць 200-годдзе слыннага беларускага кампазітара. Што ўдалося ажыццявіць?**

— Вялікі тэатр у Мінску правёў урачысты канцэрт, творчае аб’яднанне пры тэатры «Беларуская капэла» пад кіраўніцтвам В. І. Скорабагатава, з бясцэннай працай Святлены Немагай, Сяргея Махава і іншых супрацоўнікаў падрыхтавала і выпусціла шэраг нотных зборнікаў, а таксама кнігу з лібрэта Манюшкавых опер. БДАМ зрабіла філарманічны канцэрт, а яе «Оперная студыя» ажыццявіла студэнцкую пастаноўку віленскай «Галькі» ў Акадэміі, партытуру якой і пераклад лібрэта падрыхтаваў усё той жа калектыў ТА «Беларуская капэла» НАВТ РБ пад кіраўніцтвам Віктара Скорабагатава. Яны ж прадставілі праграму Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра на Фэсце ў Нясвіжы ў выкананні зорак беларускай оперы… Але сапраўды, вельмі шмат яшчэ зроблена на грамадскіх пачатках, зроблена прафесіяналамі-энтузіястамі.




• *Афіша «Хатняга спеўніка Станіслава Манюшкі»*

Ужо напярэдадні 2019 года мы думалі і планавалі, як будзем святкаваць юбілей беларускага і польскага музычнага класіка Станіслава Манюшкі. Сапраўды, прыйшло мноства цікавых ідэй!

Так, разам з нашымі выдатнымі салістамі — зоркамі беларускай оперы Ірынай Кучынскай, Ільёй Сільчуковым, Юрыем Гарадзецкім мы з ансамблем салістаў «ВЫТОКІ» (назавём абавязкова і маіх калегаў: Ірына Аўдзеева, Ігар Аўдзееў, Дыяна Гантарэнка, Анастасія Жэгалік, Сяргей Махаў, Павел Сурагін, Яўген Мікляеў, Наташа Мурзіна) падрыхтавалі і прадставілі публіцы ў Варшаве і Вільні, Мінску і Гомелі, Залессі і Смілавічах унікальную праграму пад назвай «Хатні спеўнік Станіслава Манюшкі».



• *Першы склад ансамбля «ВЫТОКІ»: А.Фралоў, І.Аўдзеева, С.Махаў*

Яшчэ ў нас з'явілася ідэя: паколькі Манюшка нарадзіўся 05.05 і паколькі ён настолькі важны для нас, для беларускай культуры, то пятага чысла кожнага месяца ў 2019-м мы будзем рабіць імпрэзы ў розных фарматах, у першую чаргу на базе Музея тэатральнай і музычнай культуры, ТА «Беларуская капэла» НАВТ РБ і ансамбля салістаў «ВЫТОКІ»: канцэрты, лекцыі, выстаўкі, прэзентацыі кніг, прысвечаныя юбіляру. Сумесна з З. Л. Кучар, В. І. Скарабагатавым і С. Немагай мы правялі некалькі дзясяткаў разнастайных імпрэзаў, і канечне, кожнага 5-га чысла — у названым музеі, які падрыхтаваў спецыяльную выставу ў сваіх сценах, дзе некалі жыў Станіслаў Манюшка.

Цэнтральнай падзеяй для нас, а можа і для ўсяго горада Мінска (улічваючы фармат і месца мерапрыемства), стаўся вялікі публічны гарадскі сімфанічны канцэрт у гонар 200-годдзя Манюшкі з аўдыторыяй слухачоў у некалькі тысяч чалавек! Ён адбыўся на пляцы Верхняга горада ля Ратушы — у акружэнні гістарычных вежаў і муроў — «жывых дэкарацый» і памятак дзіцячага, юнацкага, маладога жыцця, вучобы і працы Манюшкі ў родным горадзе. У рамках правядзення Дня польскай культуры ў Мінску, пры ўсебаковай падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску і Амбасады Польшчы ў Беларусі мы разам з Дзяржаўным камерным хорам Рэспублікі Беларусь (кіраўнік заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Наталля Міхайлава), аркестрам «Capella Academia» і зоркамі беларускай оперы Ірынай Кучынскай, Аляксандрам Міхнюком, Дзянісам Янцэвічам ажыццявілі гэтую важную падзею — яркую старонку беларуска-польскай супрацы ў сферы музыкі і супольнай гісторыі.

Тым часам шаноўны даследчык Язэп Янушкевіч выдаў ажно тры ўнікальныя кнігі, прысвечаных юбілею Манюшкі. Вядомыя музыказнаўцы і арганісты Святлена Немагай і Віктар Кісцень адгукнуліся яшчэ і шэрагам арганных канцэртаў музыкі Манюшкі.



У Вільні пад эгідай ЮНЭСКА прайшла міжнародная навуковая канферэнцыя, дзе мы — некалькі беларускіх музыказнаўцаў — прадставілі важныя тэматычныя даклады пра юбіляра. Нам удалося арганізаваць таксама навуковыя кансультацыі-дыялогі спецыялістаў з дзвюх нашых краінаў на платформе Амбасады Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь з урачыстым канцэртам у Залатагорскім касцёле ў Мінску. Адбылася навуковая канферэнцыя ў Інстытуце этнаграфіі, мастацтвазнаўства і фальклору НАН Беларусі, а Нацыянальная бібліятэка Беларусі падрыхтавала свой юбілейны віртуальны праект «Музычны рамантык з Міншчыны».

Удалося ініцыіраваць і правесці мастацкі пленэр у Мінску, прысвечаны Станіславу Манюшку і яго эпосе. На нашу прапанову адгукнуўся Беларускі саюз мастакоў як інстытуцыя, а многія яго сябры актыўна паўдзельнічалі сваімі новымі працамі або створанымі раней тэматычнымі работамі, прадстаўленымі на выніковай выставе. Адкрыццё яе было ўпрыгожана выступленнем ансамбля «Вытокі».

Група навуковай і творчай інтэлігенцыі за ўласныя сродкі ажыццявіла ўнікальнае юбілейнае падарожжа і па замежных мясцінах быцця Манюшкі, дзе ён вучыўся і працаваў, па трох ключавых кропках: Вільня–Берлін–Варшава. Мы ўшанавалі Манюшку ў тых гарадах, ладзілі там канцэрты беларускіх салістаў, папулярызуючы Беларусь як Радзіму Манюшкі, сустракаліся з калегамі-музыкамі і манюшказнаўцамі, ускладалі кветкі і вянкі з нацыянальнымі колерамі на магіле Манюшкі. Асабліва цёпла мы былі прынятыя ў «Тэатры Велькім» у Варшаве! Наша «грамадская культурная дыпламатыя» была ў многіх аспектах падтрымана нашым Міністэрствам замежных спраў, за што мы таксама вельмі ўдзячныя!

Трэба тут адзначыць, што і некаторыя мае калегі-дырыжоры — Аляксандр Высоцкі, Іван Касцяхін, Алег Лясун, Галіна Цмыг — таксама вельмі актыўна працавалі ў юбілейны год. Арганізаваны і бліскуча праведзены ўрачысты юбілейны канцэрт у Вялікім тэатры Беларусі, дзе цэнтральным элементам быў балетны дывертысмент, пастаўлены нашым балетмайстрам — выдатнай Аляксандрай Ціхаміравай. Музычная ж капэла Акадэміі музыкі (мастацкі кіраўнік Галіна Цмыг) падрыхтавала сваю праграму, вяршыняй якой сталі «Вастрабрамскія літаіі» Манюшкі. Музычны Дом «Класіка» паказаў оперу «Verbum Nobile»…

Я не маю магчымасці згадаць усіх удзельнікаў манюшкаўскага руху сёлета і пералічыць усе падзеі, няхай мне прабачаць, але гісторыя іх не забудзе.

Такім чынам, розныя сферы мастацтваў і сегменты беларускага грамадства, мноства творчых асобаў і навукоўцаў Беларусі былі заангажаваныя ў святкаванне юбілею і ўжо ўспрымаюць яго актуальным для сябе, што мы і рабілі адной з нашых мэтаў. Важна таксама, што юбілей класіка пазнаёміў і зблізіў нас з многімі выдатнымі навукоўцамі і творцамі ў Варшаве і Вільні.

**— Што вы адчуваеце, наведваючы родныя мясціны кампазітара?**

— Асабліва моцна адчуваецца тое, што Станіслаў Манюшка нарадзіўся менавіта тут, на канкрэтным лапіку нашай зямлі ў цэнтральнай Беларусі. Ён — адзін з еўрапейскіх геніяў, гонар нашага народа. Столькі памятак яшчэ засталося па ім, столькі сувязяў тут! Яго продкі і сваякі — Манюшкі, Вайніловічы, Ваньковічы і іншыя прадстаўнікі мінскіх шляхецкіх родаў. Нарадзіўся ён пад Мінскам у сядзібе Убель. Яго



• *Тут знаходзілася Убельская сядзіба Манюшкаў*



бацька Чэслаў меў мастацкі талент і зрабіў шмат замалёвак з побыту сям'і ў родных падмінскіх маёнтках і ў горадзе, што надае біяграфічным фактам пра Манюшку яшчэ больш выразнай дакументальнасці.

Свае пачуцці, свае глыбінныя ўражанні — ад беларускага фальклору, які спявалі ў наваколлі, да птушыных пасажаў, якія выводзілі тутэйшыя маленькія жыхаркі лесу, — кампазітар запісаў у многіх сваіх творах.

Гэтую неверагодна моцную прывязку да мясцовасці мы вельмі адчувалі, калі працавалі над яго «Хатнім спеўнікам». У сваіх мініяцюрах ён выявіў усё свае пачуццё, усю сваю беларускую ментальнасць…

Дарэчы, пра тутэйшых птушак і легенды… 5 мая 1819 года маленькі хлопчык, які будзе насіць імя Станіслаў, нараджаўся з цяжкасцю. Было адчынена акно, каб матулі было лягчэй дыхаць. Праз яго ў пакой уляцела ластаўка, якая звіла гняздо паблізу. Яна вывела птушанят і цэлае лета лётала каля Убельскай сядзібы. Яна засталася ва ўспамінах членаў сям'і як сімвал прынесенага жыцця і таленту кампазітара. У памяць аб здарэнні ў 1999 годзе на малой радзіме кампазітара запачаткаваны фестываль, названы «Убельская ластаўка», а потым — і аднайменны конкурс маладых вакалістаў.

Станіслаў вырас высокаадукаваным еўрапейскім чалавекам, акрамя польскай і расійскай ён ведаў яшчэ англійскую, французскую і італьянскую мовы, меў літаратурны дар, які выяўляецца ў яго пісьмах. Але зноў і зноў факты яго біяграфіі і сама творчасць аб'ектыўна звязваюць Манюшку з яго беларускай Радзімай. На пяты дзень жыцця маленькі Станіслаў быў ахрышчаны ў Смілавіцкім парафіяльным касцёле. Ён падрастаў у родным Убелі і сямейным гняздзе — «Смілавіцкім замку». Маці, заўважышы неардынарны музычны талент хлопчыка, адвезла яго ў Варшаву, дзе ён займаўся музыкай у аўтарытэтнага тады Станіслава Аўгуста Фрэера і вучыўся ў школе пры піярскім манастыры. Але праз тры гады, скончыўшы пачатковую школу, Станіслаў з бацькамі вярнуўся на Беларусь. У Мінску юнак займаўся ў слыннай мужчынскай гімназіі, але яе не скончыў, таму што пачалося паўстанне 1830–1831 гадоў, і працягваў займацца прыватна са сваімі дзядзькамі Казімірам і Дамінікам. Музычным дысцыплінам ён вучыўся ў выдатнага мінскага педагога і кампазітара Дамініка Стэфановіча. Далей — шлюб і шлях у Берлін па вышэйшую музычную адукацыю ў знакамітай Хофкапэле, і зноў вяртанне на радзіму. Вільня і Мінск, падмінскія сядзібы дзядоў, бацькоў і дзядзькоў — кола жыцця Манюшкі цэнтральнага (даваршаўскага) перыяду яго біяграфіі.

У працяглай гісторыі айчыннай оперы менавіта ў Мінску, у Манюшкі, у 1852 годзе адбылася вехавая падзея: пастаўлена «Сялянка», дзе ўпершыню беларуская мова загучала з прафесійнай опернай сцэны. Да таго оперы ў нашай дзяржаве было ўжо за 200 гадоў. Першыя оперы (італьянца Марка Скакі) былі пастаўлены яшчэ ў 1636 годзе ў велікакняскім палацы ў Вільні, у перыяд ранняга Барока. Далей гісторыя жанру развівалася. З'явіліся прыватныя магнацкія оперныя тэатры. Да прыходу Расійскай імперыі наш край меў ужо 26 оперных і балетных тэатраў! Але беларуская мова на сцэне — упершыню ў Манюшкі! І гэта неабвержны факт.

Яшчэ мноства фактаў і важных аргументаў, якія мы чытаем у легендарных Рыгора Шырмы і Адама Мальдзіса, у найвялікшай нашай музыказнаўцы, доктара мастацтвазнаўства і прафесара Вольгі Дадзіёмавай, у выдатных даследчыкаў Уладзіміра Мархеля і Віктара Скорабагатава ў нашым часопісе Акадэміі музыкі і кнізе «Зайгралі спадчынныя куранты»… Ды і сама зямля і неба тут нібы ціха гукаюць, дыхаюць, жывуць яго музыкай! Усё гэта ўспамінаецца, калі блукаеш яго сцежкамі на Міншчыне — па малой радзіме сусветнага класіка.

**— Вам давялося бараніць дом Станіслава Манюшкі?**

— Задоўга да гэтага юбілею мы на розных узроўнях узнімалі праблему выратавання і рэстаўрацыі палаца Манюшкаў у Смілавічах — іх родавага гнязда. Бо яшчэ 10 год таму палац быў у плачэўным стане. Але за дом Станіслава Манюшкі ў Мінску на вуліцы Валоцкай (Інтэрнацыянальная, 21) мы змагаліся яшчэ ў канцы 1990-х гадоў, каб яго не знеслі. У прыватнасці, яго выратаваў «Ліст трыццаці васьмі», які мы падрыхтавалі, сабраўшы подпісы і накіраваўшы ў верасні 1999 года да прэм'ер міністра С. Лінга. Ён быў падпісаны 38 самымі аўтарытэтнымі і знакавымі асобамі беларускай культуры, сярод якіх былі Я. Брыль, Г. Бураўкін, В. Быкаў, М. Лужанін, І. Лучанок, А. Мальдзіс, У. Мулявін, В. Раеўскі, В. Роўда, С. Станюта, Г. Штыхаў, Л. Шчамялёў, В. Шарангові́ч, Р. Янкоўскі і іншыя. І вынік быў! Мы адстаялі хаця б дзве фасадныя сцяны дома Манюшкі (дзе зараз памятныя шыльды), якія б таксама былі знішчаны няўмольным молахам карумпаванага бізнесу і яго так званай рэстаўрацыі. Захавалі тады і іншыя фрагменты Верхняга горада, над якім навіс дамоклаў меч сістэмы.

**— Сёлета вы прысвяцілі час, каб згадаць і папулярызаваць у Беларусі выбітнага мастака Фердынанда Рушчыца, у якога адбыўся юбілей…**



— Год яшчэ толькі пачаўся, як мы яшчэ ў холад, узімку арганізавалі першыя ўшанаванні — цудоўна і шматлюдна праходзілі нашы вандроўкі з канцэртамі на малую радзіму выдатнага беларускага і польскага мастака з нагоды 150-годдзя. «Фердынанд РУШЧЫЦ. Родны край вялікага рамантыка». Прыемна, што гэта тэма ўсё больш цікавіць і хвалюе нашых землякоў, і аншлагі на нашай праграме трэці раз запар! Але пра гэта яшчэ рана апавядаць грунтоўна, бо яно — яшчэ не гісторыя, а сучаснасць. І мы, з Божай ласкі і дапамогай, зараз яшчэ ствараем. Шкада, што ў прыгожыя планы ўмяшалася ўсім вядомая сусветная праблема.



• *Дыялог пра музыку Радзівілаў на выставе з Мацеем Радзівілам*

**— Раскажыце, калі ласка, як вы працавалі ў Кітаі, якія ўражанні, дасягненні?**

— На пачатку сезона 2019/2020 я прыняў цікавае прафесійна запрашэнне з Кітая, і паехаў, пакінуўшы ўсе працы тут, у Беларусі. Я працаваў галоўным дырыжорам Сімфанічнага аркестра і прафесарам Універсітэта культуры і мастацтваў у агромністай правінцыі Сычуань у самым цэнтры КНР. Адпрацаваўшы там паўгода і выехаўшы на зімовыя вакацыі, не чакаў, што мая дырыжорская палачка завісне ў каранавіруснай паўзе планеты…

Для мяне — гэта новае пазнанне свету, новыя ўражанні і адкрыцці. Для аркестра і тамтэйшай культуры — кантакт з маімі прафесій-




• *Пасля канцэрта з кітайскім хорам*

нымі ведамі і вопытам, густам і бачаннем. Мы зрабілі шмат рэпетыцыйнай працы, падрыхтавалі нямала праграм кітайскай музыкі і сусветнай класікі ў шырокім значэнні гэтага тэрміна. Сярод маіх прыемнасцяў, што ў адным з важнейшых маштабных сімфанічных канцэртаў, сканструяваных паводле прынцыпу геаграфічнага падарожжа, мы выканалі геніяльную ўверцюру «Казка» Станіслава Манюшкі, заснаваную на беларускім музычным матэрыяле і апавяданні Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня». Як і па ўсім свеце, дзе бываю, раблю канцэрты-лекцыі — з разгорнутым асветніцкім канферансам. Тады акурат выдалася добрая магчымасць не толькі годна прадставіць нашу краіну як дырыжору, але і шчодра распавесці кітайскай публіцы пра Манюшку, пра Беларусь і Польшчу, пра нашу супольную гісторыю, добрасуседства і культурныя вяршыні!

А найважнейшае маё ўласна кітайскае дасягненне — выкананне грандыёзнай і вельмі прыгожай кітайскай араторыі «Дун Хуан» для салістаў, хору і сімфанічнага аркестра, прысвечанай легендарнаму Шаўковаму шляху і слыннаму гораду-цэнтру на яго дарозе. Задача была амаль неверагодная: праца не толькі з сімфанічным аркестрам, але і з моладзевым кітайскім хорам, які спявае па-кітайску! Увесь рэпетыцыйны працэс ляжаў на мне без удзелу хормайстра, але хор быў вельмі чуйны, уважлівы да мяне і праявіў вялікія сімпатыі. Канцэртны вынік быў проста бліскучы, што адлюстравалася на шчаслівых тварах харавікоў, авацыях публікі, кампліментах і высокіх ацэнках кіраўніцтва правінцыі Сычуань. І я шчаслівы, што прынёс кітайскім артыстам і публіцы многія хвіліны радасці!

## ПІСЬМЕННІК СТВАРАЕ БЕСТСЕЛЕРЫ З ХРЫСЦІЯНСКІМ ЗМЕСТАМ




*У 2017 годзе ў рамках кампаніі «500-годнасць» у краіне праходзіў шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных юбілею беларускай Біблії. З творчымі сустрэчамі і віктарынамі ў Гародні, Мінску, Берасці, Маладзечне, Баранавічах, Любчы выступіў малады пісьменнік Аляксей Шэін.*

*Як паведаміў сайт ЗБС «Бацькаўшчына», 31 студзеня 2017 года ў Маладзечне праходзіў адмысловы квіз, прысвечаны Францішку Скарыне і яго друкаванай Бібліі. Пытанні віктарыны тычыліся як біяграфіі самога першадрукара, так і агульнаеўрапейскіх культурніцкіх і духоўных тэндэнцыяў таго часу.*

*Праводзіў квіз Аляксей Шэін, а ўдзельнікі і пераможцы атрымалі прызы ад кампаніі «500-годнасць», прысвечанай юбілею беларускага кнігадруку. Акрамя таго, Аляксей прэзентаваў кнігу «Сем камянёў» і пераклад на беларускую мову першай часткі «Хронік Нарніі».*

*— У рэгіёнах ёсць шмат людзей самага рознага сацыяльнага складу, запаленых ідэяй беларускай культуры: гэта выкладчыкі, студэнты, пенсіянеры. Яны прыходзілі на сустрэчы ў рамках кампаніі «500-годнасць», — успамінае Аляксей. — Мы распрацавалі адмысловы «Скарына-квіз» з інтэрактыўнай часткай. Моладзь і старэйшыя ўдзельнічалі ў конкурсе з імпэтам. Былі прапанаваны прызы ад кампаніі «Будзьма беларусамі!», гэта было цікава і карысна.*




• *Аляксей Шэін*

*Аляксей Шэін — адзін з маладых пісьменнікаў, якія працягваюць павялічваць колькасць беларускамоўных кніг. Яго першы раман «Сем камянёў» выйшаў у свет у 2015 годзе больш чым двухтысячным накладам, што ўжо з'яўляецца вялізным поспехам. Жаданне стварыць сваю кнігу было ў аўтара з ранняга дзяцінства,*




• *Аляксей Шэін удзельчае ў кампаніі «Наша пяцісотгоднасць»*

*бо ён заўсёды марыў быць пісьменнікам. І гэтая мара з цягам часу спраўдзілася.*

*І вось кніга была напісана, надрукавана і выстаўлена на продаж у крамах найбуйнейшых гарадоў краіны. І хаця яна была створана ў першую чаргу для падлеткаў, аднак многіх дарослых яна таксама зачапіла.*

*Жанр даволі свой для хрысціянскай літаратуры найноўшага часу: тут можна ўзгадаць класікаў, заснавальнікаў фэнтэзі-літаратуры: Джорджа Мак-Дональда, Клайва Стэплза Льюіса, Джона Рональда Руэла Толкіна — і сучасных аўтараў, як Фрэнк Пэрэці альбо Тэд Дэкер. Кніга «Сем камянёў» — не толькі цікавы прыгодніцкі раман. У ёй прысутнічаюць разважанні пра веру, праўду, Творцу.*

*Ёсць у гэтай кнізе адна незвычайная якасць: менавіта яна здольная пераадолець стэрэатып сучаснага падлетка, што ўсё беларускае — нецікавае. Пакуль што не знайшлося ніводнага чытача, які б кінуў чытаць «Сем камянёў». Усе дачытваюць да канца і патрабуюць працягу. Хлопчык Ясь, галоўны герой, трапляе ў чароўную краіну Эферыю, дзе становіцца ўдзельнікам барацьбы за свабоду. Галоўнаму герою трэба разгадаць загадку крышталёў, каб выратаваць жыццё сваёй сяброўкі і вызваліць чароўную краіну ад прыгнёту злога самазванца.*

*«18 чэрвеня 2015 года ўпершыню ў Мінску Аляксей Шэін прэзентаваў у цэнтры Imaguru прыгодніцкі твор “Сем камянёў”, — паведаміў сайт www.budzma.org. — Праграма вечарыны была разнастайнай: акторы Купалаўскага тэатра Ганна Хітрык і Сяргей Рудзеня прачыталі ўрыўкі з кнігі пра краіну Эферыю, якая нагадвае Беларусь. Мастак Раман Сустаў распавёў пра працу над вокладкай і ілюстрацыямі для кнігі. Для гасцей была прапанавана віктарына на веданне твораў прыгодніцкага, дэтэктыўнага і іншых жанраў беларускай літаратуры. За лепшы слоган, які заахвочвае шанаваць родную літаратуру, быў уручаны спецыяльны прыз. Гаспадыня лялечнага тэатра Таццяна Крыцкая з ініцыятывай “Альтанка для чытанкі” займала дзетак вырабам каляровых закладак. Спявачка Кацярына Ваданосава выступіла са спевамі». Пасля імпрэзы мы звярнуліся з пытаннямі да аўтара кнігі:*



**— Спадар Аляксей, раскажыце, калі ласка, пра сябе.**

— Я нарадзіўся ў Мінску ў 1976 годзе. Праз тры гады мы пераехалі ў Гародню.Там мы жылі на вуліцы ў палацы князёў Масальскіх, у жылым доме XVII стагоддзя, адным з самых старых у горадзе. Там знаходзіўся інтэрнат медыцынскага ўніверсітэта, у якім выкладаў французскую мову мой бацька Георгій Мікалаевіч. У дзіцячых успамінах засталіся замкі, палацы, касцёлы, заходні еўрапейскі дух.

Мая маці Вольга Васільеўна была журналісткай, ёй прапанавалі працу ў абласным тэлерадыёцэнтры. Бацька Георгій Мікалаевіч быў перакладчыкам з французскай мовы, ён таксама шмат чытаў. З дзяцінства я любіў прыгодніцкую літаратуру, захапляўся Жулем Вернам, марыў пісаць кнігі. У Гародні я скончыў школу з мастацкім ухілам. Потым ў 1991 годзе я паступіў у Мінску ў ліцэй пры БДУ ў клас беларускай філалогіі.

Перад паступленнем я жыў некаторы час у дзеда, гісторыка і краязнаўца, у Ракаве. Так здарылася, што па суседству з намі жыў загадчык кафедры тэорыі літаратуры, прафесар Вячаслаў Пятровіч Рагойша. Да дзеда на вакацыі прыехалі студэнты-беларусы з Беластока, якія ўдзельнічалі ў «Басовішчы», і падаравалі яму кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Кантактуючы з імі ў той момант, я адчуў, што ў нас ёсць свая багатая гісторыя, што на нашай зямлі жылі выбітныя асобы, князі Міндоўг, Вітаўт і Альгерд, і гэта мяне вельмі зацікавіла! У маім класе ў ліцэі БДУ ў мяне былі добрыя сябры — Пётр Рагойша і Раман Арлоў. З імі я перайшоў на беларускую мову, пачаў чытаць мастацкія творы.

Скончыўшы беларускае аддзяленне філфака БДУ, я займаўся журналістыкай, быў фрылансерам, працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва» ў аддзеле публіцыстыкі пад кіраўніцтвам Барыса Пятровіча Сачанкі ў 1995 годзе, а потым — у кампаніі «БелаПАН», вучыўся ў магістратуры ў ЕГУ.

**— Як вы прыйшлі да веры?**

— На філфаку ў мяне было некалькі веруючых студэнтаў. Яны выдзяляліся сярод іншых добрай вучобай і сяброўскімі адносінамі паміж сабой.

У цяжкі перыяд, калі ў мяне «пасыпалася» ўсё тое, што мне было дорага, я ўспомніў размовы з гэтымі людзьмі. Тады, у сваім інтэрнаце я стаў на калені і звярнуўся з просьбай: « Божа, калі ты ёсць, дапамажы мне, калі ласка». І я адчуў адказ. У той вечар да мяне зайшоў хлопец з 9-га паверха, падзяліўся сведчаннем і запрасіў у касцёл Св. Роха на

Залатой Горцы. Зараз гэта грэка-каталіцкі святар у Лідзе, айцец Андрэй Буйніч.

Я далучыўся да супольнасці імя Яна Хрысціцеля ў касцёле Св. Роха на Залатой горцы. Праз некаторы час гэта супольнасць стала асобнай пратэстанцкай царквой «Ян Прадвеснік».

**— Як вы знайшлі сваю паплечніцу і спадзвіжніцу?**

— З будучай жонкай Наташай мы вучыліся разам на філфаку, былі знаёмыя дзесяць гадоў, але праходзілі міма. Да аднаго цудоўнага моманту, калі я ўбачыў Наташу ў нашай царкве іншым зрокам і пагледзеў на яе вачыма закаханага чалавека. Мы спадабаліся адно аднаму і ўзялі шлюб у 2008 годзе. Калі мы сустракаліся перад вяселлем, абое казалі: хочам, каб у нас было трое хлапцоў! Гоcпад пачуў нашыя мары, нашыя ўяўленні, колькі б мы хацелі дзетак. Так у нас з'явіліся Якуб, Ян. Мы назвалі трэцяга сына Сымон (Шымон), што з старажытна-габрэйскай мовы перакладаецца як «Бог пачуў».



• *Наталля і Аляксей Шэіны з дзецьмі*

Кніжку «Сем камянёў» мы з Наташай прачыталі старэйшаму сыну Якубу ў шэсць гадоў. Ён прасіў перачытаць яшчэ раз увесь вялізны раман. Мы былі трохі здзіўлены, што ў такім узросце яму было займальна. Дзеці маіх сяброў самастойна адолелі кнігу і сказалі: «Дзядзя Лёша, пішыце яшчэ, нам вельмі цікава!» Спадзяюся, што дзеці, падлеткі і дарослыя кнігу з задавальненнем прачытаюць. Нават адна жанчына пенсійнага ўзросту, якая хадзіла да мяне на курсы «Моваведа», заўважыла, што якраз у яе ўзросце ёсць час чытаць такія кнігі.



• *Раман «Сем камянёў»*



**— Творы якіх беларускіх пісьменнікаў вы любіце чытаць?**

— Як гэта ні банальна, я люблю Васіля Быкава і Уладзіміра Караткевіча. Караткевіч моцны як белетрыст, паэт і празаік. Вельмі падабаецца паэзія Максіма Багдановіча. Я хацеў бы, каб з'яўлялася добрая прыгодніцкая літаратура ў розных жанрах (фэнтэзі, дэтэктывы), якасная беларускамоўная белетрыстыка. Тут дзялянка яшчэ не дапрацаваная.

**— Які ваш прынцып выхавання сыноў?**

— Мы стараемся выхоўваць дзяцей у патрыятычным і хрысціянскім духу. Мы молімся з імі штодня з раніцы і ўвечар, чытаем Біблію, разважаем на тэмы, якія ўчынкі добрыя, а якія кепскія. Для нас важным з'яўляецца асяроддзе, у якім растуць дзеці, — гэта наша царква «Ян Прадвеснік». Там у нас і нашых дзяцей шмат сяброў, якія размаўляюць па-беларуску, цікавяцца гісторыяй краіны, любяць нашу Бацькаўшчыну.

Мы стараемся ездзіць з дзецьмі ў падарожжы, найперш у родную для мяне Гародню. Дзеці вельмі палюбілі гэты горад. Таксама неаднойчы мы бывалі ў Мірскім замку, у Нясвіжы, у Івянцы і іншых месцах.

## Прэзентацыі кнігі ў розных гарадах краіны

Кніга «Сем камянёў» мела вялікі поспех у дзіцячай аўдыторыі. Водгукі пра яе засталіся ў друку і ў віртуальнай прасторы.

— Першая выязная прэзентацыя кнігі адбылася ў Гародні, — распавёў Аляксей Шэін. — Да яе вельмі добра падрыхтавалася крама «Цудоўня» з рыцарскім антуражам — арбалетамі, шчытамі. Быў пастаўлены міні-ўрывак, спектакль па змесце кнігі. Гарадзенцы падышлі крэатыўна да прэзентацыі твора. Акцёр гарадзенскага тэатра чытаў тэкст. Гурт у стылі жывой імправізацыі выконваў музыку пад тэкст залежна ад інтанацыі.

Потым з прэзентацыямі я аб'ехаў 1000 кіламетраў па краіне. Наведаў абласныя цэнтры, малыя гарады і мястэчкі: Берасце, Віцебск, Гомель, Кобрын, Будслаў, Вілейку, Баранавічы, Ашмяны, Светлагорск і іншыя. Кніжка патрапіла ў спіс пяці самых чытаных аўтараў у бібліятэках Менска ў 2017 годзе. Бібліятэкары паставіліся да яе вельмі прыхільна, бо ёсць запатрабаванне на такую літаратуру ў дзяцей.



• *Аляксей Шэін і яго сыны — Ян, Якуб і Сымон*




• *Прэзентацыя кнігі «Сем камянёў» у рамках кампаніі «Будзьма беларусамі!»*

Дзесяць год шлюбу з жонкай Наталляй мы адзначылі падарожжам у Польшчу. Мы пабывалі ва Уроцлаве. Дзесяць дзён доўжыўся летнік, арганізаваны хрысціянамі. Дзеці агледзелі старажытныя замкі, дарослыя паслухалі лекцыі па Бібліі.

Я назіраю, што ёсць шмат людзей у хрысціянскіх супольнасцях, якія маюць пакліканне да творчасці. Некалькі гадоў мы праводзілі сустрэчы хрысціянскага літаратурнага клуба. Я стараўся заахвоціць людзей з розных цэркваў, каб яны не зарывалі ў зямлю свае таленты і працавалі ў літаратурным рэчышчы.

«Як аказалася, раман Аляксея Шэіна «Сем камянёў» адыграў асаблівую ролю ў жыцці вучаніцы Бярэзінскай гімназіі Ірыны Ганчарук і яе настаўніцы Таццяны Мікалаеўны Мілько. Менавіта даследчая работа па гэтаму раману, які пакуль што зусім не даследаваны, прынесла ўзнагароду на абласной навуковай канферэнцыі «Прырода. Навука. Чалавек», якая адбылася ў горадзе Мінску ў кастрычніку 2017 года. Дзяўчына была ўзнагароджана дыпломам другой ступені, заняла другое месца сярод 13 прац у фінальным туры навуковай канферэнцыі.

У сваёй рабоце Ірына паспрабавала прааналізаваць біблейскія вобразы і сюжэты рамана, паказала, як праз даступны падлеткам жанр фэнтэзі можна данесці хрысціянскія каштоўнасці веры і любові да чытачоў. «І раман, і работа вельмі актуальны ў наш час, калі ў пагоні за матэрыяльным дабрабытам, многія забываюць і пра духоўнасць, і пра мараль», — паведаміў сайт Бярэзінскай гімназіі.



## Шэф-рэдактар дзіцячага часопіса

Мы сустрэліся з Аляксеем Шэінам праз некаторы час.

**— Спадар Аляксей, што новага ў вашай літаратурнай дзейнасці?**

— Апошнія два гады адбываліся літаратурныя сустрэчы ў нашай царкве «Ян Прадвеснік». На іх збіраюцца прадстаўнікі розных цэркваў, якія спрабуюць пісаць вершы і прозу, займаюцца перакладамі з іншых моваў на беларускую.

Плёнам гэтых сустрэч стала выданне літаратурнага хрысціянскага зборніка «Паходня», у які былі ўключаны арыгінальныя і перакладныя творы, проза і паэзія такіх аўтараў, як Алег Рукаль, Яўген Зубовіч, Алег Чудакоў, Надзея Сарока, Надзея Гарэцкая і іншыя. Мы імкнемся зрабіць больш актыўным хрысціянскі літаратурны працэс.

У 2019 годзе выйшаў калектыўны зборнік п’ес. Адна з іх, «1517», была напісана мной супольна з кандыдатам гістарычных навук Андрусём Унучакам і пастаўлена Паўлам Харланчуком і Змітром Бейнарт-Саладухам.

Апошнім часам я з’яўляюся шэф-рэдактарам часопіса для дзяцей і падлеткаў «Асцярожна, дзеці!», які выходзіць з канца 2019 года на беларускай мове. Пішу працяг гісторыі «Сем камянёў».

**— Вы паспяхова праводзілі адукацыйныя курсы «Моваведа». Раскажыце, калі ласка, пра гэты досвед.**

— Нашай мэтай было перавесці веданне з пасіву ў актыў. Курсы доўжыліся з 2008 па 2017 год. Мы шукалі новыя інтэрактыўныя формы заняткаў, каб вучыць беларускую мову было захапляльна і не нудна. Практыкавалі такую форму, як «оксфардскія дэбаты» і іншыя. Займацца на курсах прыходзілі эканамісты, айцішнікі, будаўнікі — людзі самых розных прафесій.

**— Вы выступілі рэжысёрам дакументальнага фільма «Хрыстос забаронены», які выйшаў у 2015 годзе.**

— У фільме зафіксаваны сведчанні пастараў Эрнеста Сабілы, Уладзіміра Канатуша і іншых пра пераслед вернікаў у часы СССР, пра іх стойкасць у перакананнях, пра падпольныя малітоўныя сходы, схаваныя хрысціянскія друкарні, забароненыя дзіцячыя нядзельныя школы і моладзевыя пастырскія канферэнцыі. Фільм распаўсюджваўся на дысках, прадстаўлены на канале YouTube.

**— Як растуць вашы дзеці, якія ў іх новыя захапленні?**

— Нашы дзеці Ян, Якуб і Сымон знаходзяцца на хатнім навучанні, яны добра вучацца і атрымліваюць добрыя адзнакі ў школе ў Ракаве,

куды прыязджаюць раз на чвэрць. Старэйшыя дзеці Ян і Якуб вельмі любяць чытаць, мы бяром кнігі для іх у бібліятэцы. Часам іх не адарваць ад кніжак і не выгнаць на вуліцу. Любоў да кнігі ў іх — у генах!

Мая жонка Наталля, кандыдат філалагічных навук, разам з калянжанкамі з царквы рэгіструе цэнтр дадатковай адукацыі, каб дзеці, якія вучацца па індывідуальным плане, маглі атрымліваць яшчэ дадатковую адукацыю.

**— Чым вы напаўняеце старонкі вашага дзіцячага часопіса?**

— Кожны нумар мы прысвячаем асобным тэмам. Самалёты, караблі, мабільныя тэлефоны. Як робіцца марозіва. У часопісе ёсць коміксы, розныя заданні на развіццё здагадлівасці і логікі. Таксама мы ствараем захапляльныя дэтэктыўныя гісторыі па-беларуску, якія цікавыя ў падлеткавым узросце.

## УЛАДАЛЬНІК ЧАРОЎНАЙ ФЛЕЙТЫ ПАДАРОЖНІЧАЕ СА СВАІМІ ВЫХАВАНЦАМІ

*Ёсць людзі, якія сваёй апантанасцю музыкай, адданасцю захапленню, уздымаюць слухачоў на вышыні ўспрыняцця і разумення класічных твораў, павышаюць узровень духоўнасці ў грамадстве. Такім з'яўляецца Павел Сурагін, выкладчык музыкі і кіраўнік квартэта блокфлейтаў «Brevis». У 2017 годзе калектыў Паўла Сурагіна сваёй вытанчанай музыкай аздобіў дзясяткі вечарын, прысвечаных 500-годдзю беларускай Бібліі і Францішку Скарыне.*



• *Лізавета Федасеенка і Павел Сурагін*

*Выхаванец Мінскага інстытута культуры і мастацтваў Павел Сурагін у 90-я гады прыйшоў працаваць у звычайную 13-ю сярэднюю мінскую школу, дзе стварыў для вучняў клас флейты. У 1997 годзе па прыкладзе Андрэя Канстанцінава, кіраўніка ансамбля «Контрданс» з Баранавічаў, ён заснаваў са сваімі вучнямі музычны гурт «Brevis». Ужо ў 1999 годзе ансамбль быў удастоены першага дыплома Мінскага гарадскога фестывалю мастацтваў.*

*Першы сур'ёзны поспех прыйшоў да Паўла Сурагіна і яго юнакоў у 2002 годзе на фестывалі «Славянскі базар». 2006 год быў надзвычай плённым для маладых артыстаў. Яны сталі лаўрэатамі нацыянальнага тэлевізійнага фестывалю «Сузор'е надзеі», а таксама лаўрэатамі I прэміі Міжнароднага конкурсу камерных ансамбляў імя М. К. Агінскага. Па выніках конкурсу калектыў атрымаў грант спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі на набыццё музычных інструментаў, з якімі яны зараз выходзяць да публікі. З 2007 года Павел Сурагін з'яўляецца членам Беларускага саюза*



• *Квартэт блокфлейтаў «Brevis»*

музычных дзеячаў, а ансамбль «Brevis» з 2010 года — афіцыйны прадстаўнік БСМД. У 2010 годзе квартэт «Brevis» выступаў на рэспубліканскім фестывалі, прысвечаным 600-годдзю Грунвальдскай бітвы.

У 2012 годзе музыкі сталі ўладальнікамі Гран-пры на міжнародным фестывалі «Кубак Еўропы», а таксама лаўрэатамі фэсту старадаўняй музыкі ў замку Мальбарк. У 2016 годзе гурт з поспехам выступіў у Маскве, а ў лютым 2017 года стаў дыпламантам агульнапольскага конкурсу ансамбляў старажытнай музыкі і атрымаў музычную прэмію Belbrend.

Беларускія флейтысты з поспехам бяруць удзел у фестывалях старадаўняй музыкі, такіх як «Сузор'е надзеі», «Мірскі замак», «Меч Лідскага замка», «Музыка беларускіх сядзібаў», «Старажытны Нясвіж» і ў рыцарскіх фэстах. Вытанчаныя, узнёслыя мелодыі яны выконвалі для слухачоў Паставаў, Віцебска і Міра, гарадоў Польшчы і Нямеччыны.

За гады творчай дзейнасці ў ансамблі была выхавана цэлая плеяда музыкантаў, якія дасягнулі прызнання і вядуць шырокую канцэртную дзейнасць па ўсёй краіне.



«BREVIS» з'яўляецца лаўрэатам міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску», уладальнікам ГРАН-ПРЫ на праекце «Дзеці граюць старажытную музыку ў Астанкіна» (Масква).

Калектыў «BREVIS» з'яўляецца лаўрэатам больш чым 40 міжнародных конкурсаў і фестываляў у Беларусі, Расіі, Літве, Польшчы, Германіі, Паўднёвай Карэі.

Гуказапісамі ансамбля на працягу многіх гадоў агучваюцца тэле- і радыёперадачы адукацыйнага цыкла, такія як «Размаўляем па-беларуску», фільмы па гісторыі Беларусі. Віцебскім тэлебачаннем зняты дакументальны фільм пра калектыў «BREVIS». На падставе творчага шляху ансамбля створана і зацверджана Міністэрствам адукацыі праграма спецыяльнага навучальнага прадмета «Ансамбль старажытнай музыкі» (аўтар П. Сурагін).

Віртуозныя музыкі выконваюць складаныя творы, напісаныя для фартэпіяна, аргана, клавесіна, адаптаваныя для блокфлейты. У іх канцэртах гучаць творы Баха, Гендэля, Моцарта, Куперэна і сучасных кампазітараў — Манчыні, Саймана, Балена. І музыка, якую ствараў у другой палове XVI стагоддзя прыдворны кампазітар Стэфана Баторыя Войцэх Длугарай.

Выходзячы за межы часу, слухачы ўяўляюць, як пад гукі флейты, лютні і дуды, скрыпак і свірэляў у палацах Слуцка і Нясвіжа, Ружанаў і Слоніма на балях у ВКЛ танчыла беларуская шляхта і еўрапейскія арыстакраты.

Ансамбль выпусціў 6 кампакт-дыскаў. Саюз музычных дзеячаў Беларусі ўзнагародзіў квартэт «Brevis» ганаровай граматай за высокі ўзровень майстэрства і папулярызацыю твораў класікі. У 2017 годзе калектыў адзначыў 20-годдзе і прадставіў слухачам юбілейны канцэрт у Бел-



• *Калектыў «Brevis» выступае з нагоды 500-годдзя беларускага кнігадрукавання*

*дзяржфілармоніі. Кіраўнік ансамбля Павел Сурагін распавёў пра сваю творчасць.*

**— Спадар Павел, раскажыце, калі ласка, з чаго вы пачыналі працу з вучнямі?**

— У мяне былі дзеці, ім была цікавая старадаўняя музыка. Даводзілася ўсё рабіць самастойна: набываць інструменты за свой кошт, шыць касцюмы, выбіраць творы, якія падабаюцца, адаптаваць іх для блокфлейты. У нашай краіне не было яшчэ класа блокфлейтаў і адсутнічаў нотны матэрыял. Калі дзеці выйшлі на сцэну ў старажытных строях і берэтах і зайгралі на флейтах музыку Гендэля, уражанне было непаўторнае!



• *Вучні Паўла Сурагіна*

У складзе квартэта — дзве ўзроставыя групы. У старэйшы склад ансамбля ўваходзяць мае былыя вучні, якім ужо 21–27 гадоў. Яны паказваюць высокі ўзровень майстэрства. Аляксей Ладзік скончыў Беларускую акадэмію музыкі, працуе ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры. Аляксей Чарнавокі працуе ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета. Канстанцін Алехна і мой сын — Уладзіслаў Сурагін — працуюць праграмістамі. Інтэлектуалы па родзе дзейнасці, яны маюць значны канцэртны досвед выканаўцаў. У лепшыя часы мы мелі 7–10 канцэртаў на месяц.

Юнакі з малодшага складу гурта яшчэ вучацца ў школе. Калі дзіцёнку цікава, ён бегае на рэпетыцыі сем разоў на тыдзень. Са старэйшым складам гурта ў нас быў менавіта такі графік рэпетыцый, а цяпер — 4–5 разоў на тыдзень. Такія незвычайныя дзеці, як, напрыклад, Антон Стасюк, выдатна валодаюць флейтай. Па віртуознасці яны пераўзыходзяць дарослых. Я ганаруся Лізай Федасеенка, Даніілам Харлапам і іншымі вучнямі.



**— Вам з выхаванцамі даводзілася выступаць у розных краінах?**

— Мы мабільны калектыў. Некалькі разоў нас запрашаў на свае мерапрыемствы Міхаіл Фінберг. Мы шмат вандруем па свеце, бывалі ў Люксембургу, Польшчы, Літве, Арабскіх Эміратах, Паўднёвай Карэі, неаднойчы гастралявалі ў Германіі. Немцам такая музыка прыходзіцца вельмі даспадобы. Сёння мы — у Навагрудку, заўтра — у Вільні, паслязаўтра — у Варшаве! У Германіі мы выступалі зраніцы ў Вісбадэне, а ўвечары — ў Майнцы.



• *Аляксей Фралоў і музычны калектыў «Brevis»*

## Хроніка апошніх выступленняў

*У 2019 калектыў «Brevis» заняў першую прэмію XVII Міжнароднага фестывалю старажытнай музыкі ў замку Мальбарк, а малодшы склад (Alla Brevis) стаў дыпламантам фестывалю.*

*1 сакавіка 2020 года адбыўся канцэрт у канцэртнай залі «Верхні горад». Малодшы склад ансамбля абараніў званне ўзорнага канцэртнага калектыву.*

# ХАРАВЫ ДЫРЫЖОР ДЗЕЛІЦЦА ЭМАЦЫЙНАЙ І ЯРКАЙ МУЗЫКАЙ РАДАСЦІ І СВАБОДЫ



*Чалавек пяшчотнай душы і тонкіх пачуццяў, таленавіты музыкант і харавы дырыжор, магістр мастацтвазнаўства Павел Шведаў стварае свае непаўторныя асяродкі, дзе людзі спяваюць разам, вучацца прыслухоўвацца адзін да аднаго і сябраваць.*

*Павел нарадзіўся ў 1986 годзе ў Мінску ў сям'і псіхолага Ліяны Шведавай і журналіста і пісьменніка Сяргея Шведава. З 1994 па 2005 год юнак вучыўся ў Рэспубліканскай гімназіі-каледжы пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. З другога класа ён іграў на духавых інструментах: спачатку на блокфлейце, а потым на валторне. Павел некалькі гадоў спяваў разам з іншымі хлопчыкамі ў хоры пры Праваслаўнай епархіі пад кіраўніцтвам Таісіі Аляксандраўны Міронавай, потым займаўся спевамі ў змешаным хоры пад кіраўніцтвам Алы Аляксандраўны Мазуравай, удзельнічаў у выступленнях у Белдзяржфілармоніі. У старэйшых класах Павел перайшоў да заняткаў кампазіцыяй.*

*Малады музыкант паступіў у Беларускую дзяржаўную кансерваторыю імя Луначарскага па класе валторны, а наступны год — па класе дырыжыравання і скончыў навучанне як артыст, дырыжор аркестра і потым як кампазітар-выкладчык.*

*У магістратуры Павел вывучаў сучасную музыку беларускіх кампазітараў, творы Алега Хадоскі і Галіны Гарэлавай. Падчас навучання ў аспірантуры яго зацікавілі творы Андрэя Мдзівані, Дзмітрыя Смольскага і Алега Хадоскі. Павел Шведаў выступае ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры. Ён з'яўляецца членам Саюза беларускіх кампазітараў і Саюза музычных дзеячаў і асацыяцыі харавых дырыжораў. Яго жонка Алена кіруе харавым калектывам «Kids Gospel Kids». У маладых музыкантаў двое дзетак: Юля і Яша.*

*У жніўня 2012 года каманда энтузіястаў пад кіраўніцтвам Паўла Шведава пачала ездзіць у Данію і іншыя краіны, будаваць кантакты з еўрапейскімі музыкантамі дзеля ўзаемнага абмену вопытам і развіваць новы для нашай краіны кірунак госпэл-музыкі. У 2013 годзе быў створаны Мінскі госпэл-хор.*



• *Павел Шведаў і хор « Імправізацыя»*

*Зараз Мінскі госпэл-хор функцыянуе як незалежная арганізацыя, а рэпетыцыі праходзяць на базе царквы «Святло ісціны» (вул. Чайкоўскага, 39). Хор актыўна ўдзельнічае ў гарадскім культурным жыцці. Акрамя гэтага калектыву ў 2018 годзе быў створаны эстрадны хор «Імправізацыя». Яго ўдзельнікі вучаць, рэпетуюць і спяваюць песні сучасных эстрадных зорак (Джона Леджэнта, Майкла Джэксана і іншых кампазітараў). Павел Шведаў кожны тыдзень займаецца з двума калектывамі — з хорам «Імправізацыя» і з Мінскім госпэл-хорам.*

*З году ў год Павел з сябрамі бярэ ўдзел у Міжнароднай летняй школе госпэл-музыкі, удзельнічае ў майстар-класах і развівае гэты яркі на фарбы і энергетыку музычны кірунак на Беларусі.*

*У інтэрв'ю хрысціянскай газеце «Колокол» Павел распавёў:*

*— У дадзены момант у хоры каля 80 удзельнікаў. Гэта і прадстаўнікі буйных пратэстанцкіх дэнамінацыяў, і праваслаўныя, і каталікі, і рэ-*

*лігійна нейтральныя людзі. Кожны чалавек можа быць прыняты ў хор незалежна ад яго рэлігійных перакананняў, узросту, ступені музычнай адоранасці (у нас няма праслухоўвання, мы верым, што ўсе людзі здольныя спяваць і могуць гэтаму навучыцца).*

**— Да якіх мэтам вы імкняцеся ў сваёй творчасці? Дзе і на якіх мерапрыемствах выступаеце?**

— Наша мэта — распаўсюдзіць госпэл-музыку на тэрыторыі Беларусі і за мяжой. Для нас гэта глыбока духоўная і эмацыйна яркая музыка радасці і свабоды. І мы адчуваем сябе пакліканымі, падбадзёрваем іншых людзей, натхняем іх адкрываць свае госпэл-хоры, духоўна расці і шукаць Бога.

Тры задачы вырашае наш хор у жыцці кожнага харыста: асобасна-духоўны рост, прафесійнае музычнае развіццё, здабыццё сяброў і збліжэнне з імі. Гэта значыць, што кожны чалавек у хоры сутыкнецца з неабходнасцю развівацца музычна, адчыняцца перад людзьмі і будаваць з імі адносіны, а таксама задавацца фундаментальнымі светапоглядным пытаннямі пра Бога, пра сябе, пра сэнс жыцця. І па меры гэтага чалавек будзе выяўляць у сваёй асобе дэструктыўныя бакі і мяняць сваё мысленне.

А выступаем мы ва ўніверсітэтах, у цэрквах, на дабрачынных канцэртах, у гарадскіх канцэртных залах, у клубах, у парках, на фестывалях — усюды, дзе людзі адкрыты слухаць хрысціянскую музыку. Мы ўдзельнічаем у такіх падзеях, як:

- фестываль «7xGospel» (Кракаў) — кожны год у кастрычніку ўдзельнічаем з 2013 года;
- фестываль Gospelkirchentag (Германія, больш за 6000 спевакоў) — раз у два гады;
- фестываль госпэл-музыкі ў Санкт-Пецярбургу ў маі — удзельнічаем з 2017 года.

Мы выступаем ў залах філармоніі з сімфанічнымі праграмамі, арганізуем гастролі замежных хароў у Беларусі. Супрацоўнічаем з соўл-спявачкай Валерыяй Дэле і гуртом Dee Tree — рыхтуем праект «Госпэл Хаус» — сінтэз сучаснага госпэла і клубнай электроннай музыкі.

Прынцыпы нашай каманды такія: мы ўсе актыўна служым і працуем у сваіх памесных цэрквах, духоўна развіваемся, стараемся часцей мець зносіны з калегамі па служэнні і іншымі харыстамі па-за рэпетыцыямі. Мы занятыя запрашэннем новых людзей, пошукам новых магчымасцяў выступу.





• *На сцэне Белдзяржфілармоніі*

Усе канфлікты мы вырашаем адкрыта на месцы. Галоўныя патрабаванні да любога члена нашай каманды — духоўная сталасць, прафесіяналізм, душэўная прыхільнасць да людзей і да зносін.

**— Слова «госпэл» у перакладзе з ангельскай азначае «Евангелле». Якую ролю адыгрывае Евангелле ў жыцці хору?**

— Евангелле — гэта ДНК нашага хору. Мы выразна размяжоўваем унутрыцаркоўную культуру і хрысціянскую культуру ў чалавеку. Мы прыцягваем чалавека не да традыцый канкрэтных памесных цэркваў або правіл нейкіх хрысціянскіх супольнасцяў, а да асноўных аспектаў служэння Хрыста: любові да Бога, міласэрнасці да навакольных, дапамогі і суперажывання людзям у патрэбах.

У наш постперабудоўны час працэс звароту чалавека да Бога расцягваецца прыблізна на пяць гадоў і абумоўлены асяроддзем чалавека, якасцю яго кантактаў з хрысціянамі.

У госпэл-хоры мы выкарыстоўваем музыку, зносіны, канцэрты і паездкі як падставу для фарміравання сяброўскай хрысціянскай абстаноўкі, у якой Святы Дух сам праводзіць Сваю працу ў сэрцы чалавека.

На працягу пяці гадоў мы назіраем, як змяняецца светапогляд многіх людзей, якія ад супрацьстаяння Богу пераходзяць у катэгорыю людзей,



• *Выступленне хору ў касцёле*

якія шукаюць Яго. І адна з найважнейшы перамен аў — гэта змена ў ладзе жыцця, калі людзі вызваляюцца ад грахоў, ад шкодных залежнасцяў, знаходзяць прыстойную працу, ідуць вучыцца.

**— Вы ставіцеся з цікавасцю да кожнай асобы, якая ўдзельнічае ў спевах.**

— Мы прытрымліваемся хрысціянскай канцэпцыі, што кожны чалавек таленавіты ад прыроды, ад Бога, эстэтычна адораны. Але многія людзі не вераць у сябе, іх стрымлівае страх. Калі чалавеку нехта сказаў аднойчы: «Замаўчы! Сядзі ціха!», то ён можа назаўсёды згубіць цікавасць да самога сябе, да развіцця свайго таленту. Мышцы ў целе заціскаюцца, чалавек перастае чуць свой голас.

Мы дапамагаем людзям пераадольваць страх, даём спецыяльныя практыкаванні, паступова чалавек распяваецца, сярод іншых адчувае сябе больш упэўнена. Праз 2–3 гады заняткаў чалавек пачынае спяваць вельмі ярка і выразна.

Іншыя асобы дэманструюць таленты да адміністравання, да арганізацыі канцэртаў, праяўляюць сваю гасціннасць пры сустрэчах замежных сяброў, дапамагаюць гатаваннем ежы. Некаторыя выступаюць у ролі хормайстраў і развіваюць сваю творчасць далей асобна. У нас ёсць людзі з псіхалагічнай адукацыяй, мы ладзім трэнінгі, семінары.

**— Ці ёсць у вас зваротная сувязь з вашымі слухачамі? Як ваша творчасць уплывае на іх жыццё?**

— Слова «госпэл» у Беларусі ў музычным сэнсе — з’ява новая для ўсіх, і мы яшчэ фарміруем нашу аўдыторыю. Пакуль публіка сустракала нас вельмі дружалюбна і цёпла. Людзі кажуць пра асаблівую абстаноўку на канцэрце, пра светлыя вочы харыстаў, пра сонечныя вобразы музыкі.

Вядома, з пункту гледжання якасці выканання, спасціжэння стылю, пастаноўкі голасу, як у афраамерыканскіх спевакоў, мы знаходзімся яшчэ ў працэсе росту.

**— Хто з музыкантаў натхняе вас сваім прыкладам?**



— Пітэр Дзір, Ганс Ёхімсан, Сафі Хермінд і іншыя.

Па запрашэнні Паўла Шведава і яго сяброў Мінск наведваць сусветна вядомыя кампазітары і выканаўцы. Так, у 2018 годзе шведскі кампазітар Ганс Ёхімсан браў удзел у сумесным праекце «Карона Скандынавіі». Мінскі госпэл-хор выступаў разам з Гансам Ёхімсанам.



• *Кіраўнік хору наведвае Швецыю*

## З хронікі музычных сустрэч

Летам 2019 года ў Верхнім горадзе сваё выступленне распачаў гімнам Швецыі музычны калектыў з горада Эрэбру. Увечары гэтага дня беларускія аматары культуры Швецыі атрымалі велізарнае натхненне ад выступлення хору «Sparvit pavitt» пад кіраўніцтвам вядомага шведскага кампазітара харавой музыкі ў стылі госпэл Ёакіма Арэніуса ў малой зале Белдзяржфілармоніі. Канцэрт вёў магістр мастацтвазнаўства і папулярызатар хрысціянскай музыкі, дырыжор Аляксей Фралоў.

З вялікім эмацыйным уздымам хор «Sparvit pavitt» выканаў выдатныя спевы «Down by the riverside», «O, happy day», «Thy will be done».

У шведскім хоры спяваюць людзі з розных пратэстанцкіх цэркваў. Летам удзельнікі хору наведвалі рэпетыцыі ў царкве «Святло ісціны».

Яркай падзеяй у культурным жыцці Беларусі стаў грандыёзны сумесны канцэрт госпэл-хораў з Беларусі, Расіі, Даніі, які адбыўся 23 лістапада 2019 года.



• *Павел Шведаў і Ёакім Арэніус у царкве «Святло ісціны»*

У малой зале Белдзяржфілармоніі выступілі хор «Імправізацыя» пад кіраўніцтвам Паўла Шведава, хор «Open Door» з Санкт-Пецярбурга на чале з Нінай Елішавай і шматлікі ды шматнацыянальны калектыў «Revelation» з Капегагена, якім кіруе Сафі Херminд. Разам з Мінскім госпэл-хорам выступілі салістка Валерыя Дэле і Дзмітрый Ярмузевіч.

У выкананні хору «Revelation» прагучалі папулярныя кампазіцыі «O, happy day», «Spiritual», «Encouraged», «I give myself away». Гімн «Aleluja, Emanuel» моцна ўзрушыў беларускіх слухачоў.

Энергетычна насычаная музыка падбадзёрыла публіку, ускалыхнуліся хвалі рук, загучалі апладысменты. Танцы, авацыі напоўнілі залу.

— Мы славім Госпада праз музыку і танец, — падзялілася Сафі Херminд. — Госпэл-музыка насычае душу і цела. Песні перадаюць словы любові, надзеі, адзінства. Кожны голас у хоры з'яўляецца асаблівым, а разам мы ствараем адзіную сям'ю.

Сафі Херminд — прафесійная спявачка, у яе трое дзяцей, хор належыць да супольнасці Gospel Fellowship. За клавішнымі быў у гэты вечар тэмпераментны Міхаэль Рокпсторф, які быў рады сустрэцца з мінскай публікай.

Напярэдадні Раства Мінскі госпэл-хор выступіў у царкве «Сям'я Божая». Прагучалі кампазіцыі «There will be no Christmas without you», «True colours», «Jingle bells», «Amaizing grace». Усе прысутныя былі ўражаны яркім, эмацыйным выкананнем, атмасферай лагоднасці, любові, святла.

«Песня "True colours" нагадвае пра тое, што ў кожным голасе ёсць свае фарбы, кожная асоба непаўторная, харавы спеў дапамагае кожнаму раскрыць сваю індывідуальнасць. Наш галасавы апарат — цудоўны інструмент, які гучыць», — напамінае кіраўнік хору.

У лютым 2020 года ў Мінск па запрашэнні беларускіх сяброў прыбыў калектыў госпэл-музыкі з Нігерыі «Hears of Christ». «Для нас важна прыслухацца да іх творчай манеры і павучыцца стылістыцы», — адзначыў Павел Шведаў.

## РЭЖЫСЁР І АКЦЁР СТАВІЦЬ П'ЕСЫ З ХРЫСЦІЯНСКІМ ЗМЕСТАМ



*21 лютага 2019 года ў Брэсцкім акадэмічным тэатры драмы адбыўся паказ спектакля «Біблія князя Радзівіла», прысвечаны Мікалаю Радзівілу Чорнаму — канцлеру Вялікага Княства Літоўскага.*

*Упершыню гэты спектакль быў пастаўлены з нагоды 500-годдзя з дня нараджэння Мікалая Радзівіла Чорнага, славутага дзеяча XVI стагоддзя, заснавальніка першай на тэрыторыі сучаснай Беларусі друкарні ў Берасці, у якой у 1563 годзе была надрукавана Берасцейская Біблія.*

*Гісторыя жыцця і дзейнасці князя Мікалая Радзівіла была цудоўна адлюстравана калектывам пад кіраўніцтвам акцёра і рэжысёра Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Паўла Южакова-Харланчука па п'есе кандыдата гістарычных навук, загадчыка аддзела гісторыі беларускай дзяржаўнасці Інстытута гісторыі НАН Беларусі Андруся Унучака. Галоўную ролю ў спектаклі — Радзівіла Чорнага — выконваў сам рэжысёр Павел Харланчук, а ягоная жонка, Ганна, грала жонку Мікалая Радзівіла Эльжбету.*

*Павел Харланчук мае вялікі досвед працы ў тэатры і кінематографе. Пасля заканчэння акцёрскага і рэжысёрскага аддзяленняў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Павел Харланчук у 2003–2006 гадах працаваў у Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя М. Горкага, дзе выконваў ролі ў п'есах па Ф. М. Дастаеўскаму, Бертольду Брэхту, паставіў некалькі спектакляў («Дэтэктар хлусні», «Джэсальміна ў краіне хлусаў» і іншыя). А з 2010 года ён выступае на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.*

*Акцёр здымаўся ў такіх карцінах, як «Сляды апосталаў», «Снайпер. Зброя адплаты», «Дняпроўскі рубеж», «Замах», «Талаш», «Усё, што*



• *Пастаноўка спектакля «Біблія князя Радзівіла»*

*нам трэба», «Немец», «Рыжык у Залюстроўі», «Белыя Росы. Вяртанне».*

*Ганна Южакова выступала ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя М. Горкага, у Тэатры беларускай арміі ў п'есах Аляксея Дударава. Яна дэбютавала ў кіно ў 2005 годзе ў карцінах «Прызнанне» і «Дунечка». У 2013 годзе яна выканала ролю Інны ў беларуска-расійскай меладраме «Ой, мамачкі». Пазней акцёрка здымалася ў карцінах «Сляды апосталаў», «Добрае імя» і іншых.*

*Мы звярнуліся з пытаннямі да Паўла Харланчука і яго жонкі Ганны.*

**— Спадар Павел, вашы хрысціянскія праекты ў тэатры — гэта магчымасць распавесці пра галоўныя духоўныя і сямейныя каштоўнасці. Раскажыце, калі ласка, як пастаноўкі ствараліся.**

— Так сталася, што нашы аматарскія праекты з хрысціянскім зместам сталі адбывацца штогод. Усё пачалося прыблізна 10 гадоў таму са спектакля «Мае сэрца б'ецца», пастаўленага ў абарону жыцця. Для яго быў напісаны добры сцэнар Дашай Шэінай і Аленай Васілеўскай, у спектаклі выступалі дзеці з царквы «Ян Прадвеснік», удзельнічалі акцёрка Ганна Хітрык з мужам і іншыя. Мы паўтаралі гэту пастаноўку кожны год 1 чэрвеня ў дзень абароны дзяцей.

А пасля мы стварылі спектакль да юбілею Мікалая Радзівіла Чорнага. У гэтай пастаноўцы я працаваў з аўтарам сцэнара Змітром Саладухам. Супрацоўнічалі з намі людзі з розных цэркваў, нялёгка рэпетавалася, цяжка было сабраць усіх разам, але светлы ўспамін застаўся пра гэту працу!

Пазней — да 500-годдзя Бібліі, выдадзенай Ф. Скарынай, — мы зрабілі новую пастаноўку. Ведаючы, што твораў, прысвечаных гэтай даце, будзе шмат, мы шукалі ўласную форму.

**— Давайце згадаем таксама спектакль «1517», які прайшоў у Тэатры беларускай драматургіі ў юбілейным 2017 годзе.**

— Людзі ведаюць, што Скарына — першадрукар, перакладчык, выбітная персона. Але мы імкнуліся зразумець, што ён зрабіў гэтым перакладам, што значыла перакласці Біблію на родную мову. Што гэта



быў за крок, у якую барацьбу ён уступіў, і як беларусаў за сабой пацягнуў да вечнага пытання — верыць ці не верыць? Матэрыяльнае ці духоўнае? Ён абвастрыў выбар, які дае Бог. Мы імкнуліся паглядзець на ўсё з такога пункту гледжання, што ён уступіў у дыялог, дзе высвятляецца, што ёсць праўда.



• *Павел і Ганна Харланчукі*

У пастаноўцы спектакля мы са Змітром Саладухам выкарыстоўвалі такія тэхнічныя сродкі, як відэа. Мастаком спектакля выступіў Андрусь Меранкоў.

**— У Нацыянальным акадэмічным тэатры Янкі Купалы вы ўдзельнічаеце ў п'есе «Пан Тадэвуш» па паэме Адама Міцкевіча. Ваша роля вельмі тэмпераментная.**

— Гэта пастаноўка гістарычная, асветніцкая. Каб успрымаць яе, трэба ведаць гісторыю, каб людзі былі дасведчаныя. У спектаклі чуецца наскрозь патрыятычная тэма, закранаюцца высокія матэрыі, гучыць паэзія Адама Міцкевіча. Гэта пастаноўка са зваротам да народа, да абуджэння чалавека. Там выдатная сцэнаграфія мастака Зіновія Марголіна. Дзеянне спектакля, як і паэмы Міцкевіча, пераносіць гледача ў 1811–1812 гады — час, калі шляхта захопленых Расіяй зямель Рэчы Паспалітай звязвала вялікія надзеі на вяртанне незалежнасці з перамогай Напалеона.

Дзеля гэтага яна адкінула старыя звады і згуртавалася ў шэрагах арміі французскага імператара пад харугвамі са сваімі нацыянальнымі сімваламі — польскага Арла, жамойцкага Мядзведзя, ліцвінскай Пагоні.

**— Спадар Павел, вы марылі стаць акцёрам з самага дзяцінства, калі ў дзесяцігадовым узросце ўдзельнічалі ў спектаклях у аматарскім тэатры. Ці прыносіць вам задавальненне ваш выбар?**



• *У сямейным коле*




• *Афіша спектакля «№13»*

— Бывалі моманты шчасця. Але гэта — секунды, імгненні. Спектакль прайшоў — прыемна. Часта акцёры адчуваюць незадаволенасць сабой. Хочацца выправіцца. Многія акцёры параненыя. Ад эмоцый. Тэатр адбірае шмат сілаў. Праца на сцэне — пастаянная самааддача. Унутраны свет чалавека складаны, перадаваць яго не проста.

**— Вы былі ўладальнікам першай Нацыянальнай тэатральнай прэміі ў намінацыі «Лепшая мужчынская роля». Узгадайце, калі ласка, гэту працу.**

— У Тэатры-студыі кінаакцёра я выконваў ролю прэм'ер-міністра ў англійскай камедыі па п'есе Рэя Куні «№ 13».

**— Якую б яшчэ ролю вы хацелі выканаць?**

— Я б хацеў бы сыграць яркую гістарычную асобу з XVIII–XIX стагоддзя.

**— Вы здымаліся ў больш як 40 кінастужках. З прац у нацыянальным кінематографе немалаважнымі былі здымкі ў фільме «Талаш».**

— Гэта была цікавая старонка жыцця. Здымкі ў нацыянальнай кінакарціне рэжысёра Сяргея Шульгі, дзе мы ігралі разам з Генадзем Аўсяннікавым, Генадзем Гарбукам, Аўгусцінам Мілаванавым, Анастасіяй Бабровай, Дзянісам Паршыным, прыносілі задавальненне.



• *З дзецьмі заўсёды радасна!*

Нам вельмі не хапае беларускага кіно. Трэба здымаць не толькі камерцыйныя карціны, але і надаваць сур'ёзную ўвагу гістарычным карцінам для ідэйнага напаўнення нацыі.

**— Спадар Павел, калі вашай дачушцы Адэлі**



**быў адзін год і тры месяцы, вы ўзялі на выхаванне хлопчыка і дзяўчынку з дзіцячага дома. А зараз у вас ужо пяцёра дзяцей. Дзеці патрабуюць увагі, шмат высілкаў. Як вам удаецца спалучаць працу акцёра з выхаваннем дзяцей?**

— Некаторыя лічаць, што шмат дзяцей — крыж на асабістым жыцці і кар'еры. Так думаюць толькі тыя, у каго няма сваіх дзяцей. Дзеці — гэта шчасце! Больш за тое, ведаю шмат прыкладаў шматдзетных сем'яў, якія і бізнес паспяхова развіваюць, і дзецьмі займаюцца, і адносіны захавалі. Тое, што дзеці якім-небудзь чынам перашкаджаюць рэалізацыі бацькоў, — чарговы стэрэатып, які людзі прыдумалі сабе ў апраўданне. Вядома, калі ў цябе вялікая сям'я, тваё жыццё мяняецца ў корані, выхады ў свет скарачаюцца да мінімуму… Але гэты факт выклікае адчай толькі ў закаранелых эгаістаў.

У нашай сям'і мы стараемся не хаміць, не «быкаваць», мы стараемся слухацца маму, разумець адно аднаго. Узаемапавага ў нас у аснове ўсяго. Дзеці заўсёды хочуць стаць больш дарослымі, паказаць сваё «я». Прыродны эгаізм, які ёсць у кожным чалавеку, і прыклады іншых падбухторваюць праяўляць свае не самыя лепшыя якасці. Быў выпадак: купілі вялікую ўпакоўку марозіва, а для мамы знайшлася толькі палова лыжачкі. Палова лыжачкі! Мяне гэта зачапіла, правёў тлумачальныя працы.

*Да размовы далучылася жонка акцёра Ганна Южакова:*

— Гэта вялікая радасць, што ў нашым доме пастаянна гучаць дзіцячыя галасы! Мы наогул шчаслівыя людзі: у нас ёсць дзеці. І шмат! Дзіцячыя крыкі, шум і гам — гэта не праблема зусім. Вядома, спакой усе ўспрымаюць па-рознаму. Абстаноўка, якую мы лічым спакойнай, для іншых, якія разумеюць спакой па-іншаму, — кашмар і мітусня. Але, паверце, дзіцячыя крыкі — не самае страшнае, што можа быць. Хай лепш яны, чым выбухі і стральба.

Вядома, хацелася б больш часу надаваць і сабе, і нам дваім. Але па аб'ектыўных прычынах цяпер гэта немагчыма. Таму мы знайшлі такое выйсце: падтрымліваем адно аднаго і стараемся хоць колькі-небудзь часу праводзіць удваіх. Часам па вечарах, калі разам з дзецьмі не засынаем, глядзім з Пашам фільмы, п'ём гарбату, размаўляем.

**— Спадарыня Ганна, што новага адбылося ў жыцці ў вашых дзяцей за апошні час, якія ў іх новыя захапленні?**

— Мы стараемся раскрываць таленты нашых дзяцей. Яны — асобы творчыя і артыстычныя.



• *Хвіліна пяшчоты*

Адэль свае музычныя здольнасці праявіла яшчэ ў маленстве. Заўсёды паўтарала пачутую мелодыю, а яшчэ любіла спяваць тое, што бачыць. Літаральна спявала пра ўсё, што бачыла. Яна займалася ў музычнай школе, грала на фартэпіяна, удзельнічала са сваімі творамі ў конкурсах. Адна з яе выкладчыц аднойчы сказала, што сустрэла маленькага Моцарта. Пад яе музыку хор выконваў песні. Адэль бачыла верш і складала для яго музыку. Яшчэ яна вельмі любіць джаз.

Зараз яна захапляецца хіп-хопам і танцамі. Для нас музыка — частка нас саміх. Яна заўсёды суправаджае нас. Нейкі час таму Павел сказаў мне, што хацеў бы жыць у музыцы. Вось і збылося яго жаданне! Акрамя таго, Алівія і Адэль займаюцца керамікай, лепяць з гліны, вырабляюць сувеніры на продаж. Алівія з Івонай займаюцца акадэмічным малюнкам, танцамі, хіп-хопам.

Для дзяўчынак важна пачуць пахвалу менавіта ад таты, адчуваць любоў свайго таты. Так яны будуць адчуваць сябе больш абароненымі і ў іх падсвядомасці будзе закладвацца вобраз мужчыны, якога б яны хацелі сустрэць у жыцці. Мама дае выхаваўчыя моманты, паказвае мадэль паводзінаў.

Наш старэйшы сын Піліп захапляецца кулінарыяй пасля дзіцячых кулінарных майстар-класаў Алены Мікульчык. Ён ужо амаль што дарослы і самастойны, яму хутка будзе 18 гадоў, ён хоча быць кухарам і шукае свае далейшыя шляхі.

**— Вашы дзеці займаюцца ў прыватнай школе, а вы там выкладаеце?**

— Дзеці займаюцца ў Ратамцы, дзе створаны адукацыйны цэнтр. Там яны вучацца, але здаюць кантрольныя ў звычайнай школе. Нашы дзяўчынкі ходзяць у 7-ы і 9-ы клас. Раніцай я вязу дзяцей у школу, мы падбіраем яшчэ па дарозе сяброў. І так мы праводзім цэлы дзень разам. Павел вельмі шмат працуе. Нядаўна ён удзельнічаў у здымках фільма ва Украіне і адначасова выступаў у тэатры Янкі Купалы. Яму прыходзілася ляцець самалётам на здымкі ў Кіеў, а на наступны дзень вяртацца, каб паспець на спектакль у тэатр. Аднaчасова са здымкамі ён рэпетаваў і іграў у тэатры, і таму яму даводзілася рабіць шмат пералётаў.

**— Жадаем вам і вашым дзецям поспехаў у творчасці і добрага здароўя!**

# СПЕЎНЫЯ ВОБРАЗЫ ЎЗВЫШАЮЦЬ ДУШУ



## ОПЕРНЫ АРТЫСТ СЦВЯРДЖАЕ ВЫСАКАРОДНЫЯ ІДЭАЛЫ



• *Ілля Сільчукоў*

*Оперны барытон, саліст Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета стварае высакародныя вобразы, выконваючы галоўныя мужчынскія ролі ў пастаноўках «Іаланта», «Чароўная флейта», «Яўгеній Анегін», «Травіята», «Севільскі цырульнік» і паспяхова развівае сучаснае тэатральнае мастацтва ў Беларусі. Імя Ільі Сільчукова добра вядома аматарам класічнай музыкі. Уладальнік лірычнага барытона шырокага дыяпазону, голасу цудоўнай цеплыні і мяккасці тэмбру — ён карыстаецца заслужаным прызнаннем беларускай публікі.*

*Спеўнае мастацтва артыста было адзначана залатым медалём за перамогу ў намінацыі «Акадэмічны спеў» II сусветных Дэльфійскіх гульняў (Саратаў, Расія, 2008).*

*Ілья Сільчукоў нарадзіўся ў Мінску ў 1982 годзе. Пачынаўся творчы шлях будучага спевака ў Рэспубліканскай гімназіі-каледжы пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі па спецыяльнасці «Харавое дырыжыраванне» (клас дацэнта Л. Шымановіч, 2000). Потым ён скончыў вакальнае аддзяленне Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі (клас А. Мурзіча, 2002), вакальнае аддзяленне (2005) і асістэнтуру-стажыроўку Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі (клас дацэнта, народнага артыста Беларусі П. Рыдзігера).*

*У 2011 годзе Ілья Сільчукоў паспяхова праходзіў стажыроўку «Young Singers Program» Зальцбургскага музычнага фестывалю (Зальцбург, Аўстрыя).*

*З 2005 года ён — саліст Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра Беларусі. Ілля Сільчукоў — лаўрэат трох Гранд-прэмій спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі (2008, 2009, 2010)*

*Адораны артыст з'яўляецца ўладальнікам медаля Францыска Скарыны (2015), лаўрэатам III прэміі Міжнароднага конкурсу вакалістаў у г. Портафіні (Італія, 2017), дыпламантам, уладальнікам Belvedere Preis і Helikon Preis XXX Міжнароднага конкурсу вакалістаў імя Ган-*



• *На міжнародным конкурсе вакалістаў*

*са Габар «Бельведэр» (Вена, Аўстрыя, 2011), лаўрэатам I прэміі XXI Міжнароднага конкурсу вакалістаў ім. М. Шнайдэр-Трнаўскага (Трнава, Славакія, 2010), лаўрэатам I прэміі I Міжнароднага конкурсу вакалістаў імя М. Магамаева (Масква, Расія, 2010) і іншых міжнародных конкурсаў.*

**— Спадар Ілья, прыгадайце, калі ласка, якой была ваша першая роля ў тэатры.**

— Калі казаць пра студэнцкі тэатр, маёй першай роляй стала роля музыканта Шанара ў оперы «Багема» Пучыні. Выпускной працай з Беларускай акадэміі музыкі быў «Яўгеній Анегін». Летам 2005 года мы выступалі ў пары з Юрыем Гарадзецкім (Ленскі), нам тады было па 24 гады, і мы былі якраз ва ўзросце герояў Пушкіна.

Мне пашанцавала з тыпам голасу. Барытон — такі голас, які дазваляе выконваць герояў з арыстакратычнымі рысамі, якія звычайна носяць фракі, належаць да вышэйшага свету. Сюжэтная лінія барытона трывае да канца оперы. Тэнар у адрозненне ад яго — звычайна больш малады, імпульсіўны персанаж, заўсёды горача закаханы.

**— Вы ўдзельнічалі ў шматлікіх конкурсах салістаў за мяжой. Ці лёгка гэта было?**

— У маім жыцці было больш за 25 конкурсаў. Усе яны — частка творчага росту. У 15 з іх я быў у ліку прызёраў, у іншых — вылятаў пасля першага туру. Крок за крокам складваўся мой музычны лёс. Каб тварыць у агульнаеўрапейскім кантэксце, трэба ездзіць, слухаць, адточваць майстэрства. Калі малады спявак хоча развівацца, ён павінен рабіць інвестыцыі ў свой талент. На конкурсах мы вучымся адзін ад аднаго.

**— Раскажыце, калі ласка, пра ваш удзел у оперных пастаноўках за мяжой. Вы ўвасабляеце на сцэне сферу высокіх пачуццяў.**

— Нядаўна я знаходзіўся ў Францыі, вярнуўся з Тулузы. Там у найстарэйшым тэатры «Дю Капітоль», якому больш за 300 гадоў, я ўдзельнічаў у пастаноўцы «Любоўны напой» Даніцэці.

**— Спадар Ілья, вы бралі чынны ўдзел у святкаваннях 200-гадовага юбілею Станіслава Манюшкі. Што гэта значыла для вас?**

— Манюшка — наш гонар. Можна сказаць, самы знакаміты мінчук у свеце! У Мінску ён вучыўся, працаваў.



Мы з Віктарам Іванавічам Скарабагатавым і «Беларускай капэлай» праводзілі цыкл імпрэз «Чатыры стагоддзі беларускай вакальнай традыцыі», у якім цэлая частка была прысвечана Станіславу Манюшку. З Аляксеем Фраловым у некалькіх гарадах мы выконвалі праграму «Хатні спеўнік Станіслава Манюшкі». Завяршыўся юбілей канцэртам у Вялікім тэатры оперы і балета.

**— У вашай сям'і захоўваюцца трывалыя традыцыі веры. Падзяліцеся, калі ласка, гэтым досведам.**

— Гэтыя традыцыі ідуць ад маёй прабабулі Марфы. У вёсцы Вязьма Магілёўскай вобласці існавала з пачатку XX стагоддзя евангельская царква. У канцы 20-х гадоў пачаліся рэпрэсіі супраць вернікаў. Мая прабабуля захавала веру і перадала сваім чатыром дзецям. Мой прадзед Іван Барысавіч загінуў у 1941 годзе пад Смаленскам. Прабабуля Марфа не выходзіла больш замуж, выхоўвала дзяцей адна. Дзеці выраслі свядомымі хрысціянамі, надзейнымі людзьмі, у іх — шматдзетныя сем'і. Мой дзед Яўгеній Іванавіч Сільчукоў стаў пастарам евангельскай царквы ў Слуцку ў 60-я гады. Але ў хрушчоўскія часы ганенні абрынуліся на вернікаў. У 1961 годзе было прынята заканадаўства аб рэлігійных культах, іх царква была падзелена (частка яе пайшла на саступкі ўладам, а частка засталася «катакомбнай»).

Дзед быў двойчы судзімы па артыкуле «за антысавецкую прапаганду і паклёп на савецкую рэчаіснасць», па якім ён атрымаў 5 і 10 гадоў зняволення. Дзеці яго, у тым ліку мой тата, выраслі без бацькі. Я ўдзячны свайму дзеду за маральны прыклад. Ён зрабіў свой выбар на карысць Бога, не здрадзіў сваім перакананням. Ён жыве зараз у Слуцку, захоўвае жывы светлы розум, пастаянна чытае Біблію, ён яркі, моцны суразмоўца. Я памятаю, як зімовымі вечарамі мы ездзілі за горад на рэпетыцыі царкоўнага хору, як богаслужэнні разганяла міліцыя. Маму выключылі з трэцяга курса з інстытута. Цяпер гэта ўсё ў мінулым. Але я вырас у атмасферы, калі трэба мець маральныя арыенціры ў жыцці і быць гатовым за іх адказваць.

Мой дзед не азлобіўся супраць тых, хто яго прыцясняў, у ім адчуваецца ласка Божая. З яго я браў прыклад трывалых маральных устаяў. У мяне ў сям'і ёсць такія крэмені, добрыя прыклады для мяне!

**— І голас таксама дастаўся ад іх?**

— Мая бабуля Алена Мітрафанаўна Сільчукова вельмі добра спявала, і мой прапрадзед Барыс быў запявалам у палку ў Першую сусветную вайну. Ён спяваў так, што на іншым баку Друці было чутно. Голас — гэта Божы дар, і трэба прыкладаць намаганні, каб развіваць яго. Я вы-



• *Артыст — на сцэне Нацыянальнага Вялікага тэатра оперы і балета*

рас на рэпетыцыях царкоўнага хору. Рэпетыцыі ладзіліся ў Воўкавічах пад Мінскам, бацькі бралі мяне з сабой, ішлі пешшу два кіламетры ад станцыі. Тады я першы раз сустрэўся з музыкай. Я ўдзячны Богу за сям'ю, за бацькоў, якія аддалі мяне ў музычную школу з сямі год, падтрымлівалі маю адукацыю.

**— Бацькі далучалі вас да Слова Божага?**

— З маленства мама чытала мне дзіцячую Біблію, гісторыі запалі ў сэрца, потым была нядзельная школа, удзел у царкоўных летніках, на якіх я пачаў чытаць Біблію самастойна. Шлях мой з Бібліяй доўжыцца ўжо 20 гадоў. На Бібліі вырасла ўся наша еўрапейская цывілізацыі.

Для мяне Біблія — навігатар у жыцці, каб мець сістэму каардынат. Лічу, што кожнаму беларусу трэба прачытаць хоць раз у жыцці Біблію, і з гэтага могуць пачацца добрыя перамены. Будзе добра, калі народ звернецца да Слова Божага.

**— У вашай біяграфіі быў такі эпізод, калі вы адмовіліся ехаць з бацькамі за мяжу і засталіся ў Мінску, каб вучыцца ў кансерваторыі.**

—Так. На пачатку 2001 года бацькі павінны былі пераехаць на пастаяннае месца жыхарства ў ЗША, а ў мяне знайшоўся выдатны педагог Пётр Васільевіч Рыдзігер. Мы з ім вырашылі, што я застануся ў Беларусі, каб атрымаць музычную адукацыю, бо ў іншай краіне яна была б пад пытаннем. Са мной разам былі мае бабуля і дзядуля, цёця, яны падтрымлівалі мяне, і я не быў самотным. А два мае браты з'ехалі ў ЗША і там жывуць зараз.

Спачатку я займаўся ў ліцэі, дзе быў выкладчыкам Сяргей Рыгоравіч Косцін (мой педагог па вакале), спяваў у хоры. У 1999 годзе ён адвёз мяне на мой першы ў жыцці конкурс, на «Убельскую ластаўку». У гэтым конкурсе мяне пабачыў іншы мой педагог Адам Асманавіч Мурзіч. Пасля заканчэння ліцэя я паступіў да яго ў вучэльню імя Глінкі. А пасля я скончыў Кансерваторыю ў Пятра Васільевіча Рыдзігера ў 2005 годзе і асістэнтуру ў 2007 годзе. У 2011 годзе я прайшоў моладзевую праграму Зальбурцкага музычнага фестывалю.



**— Ваша сям'я таксама шматдзетная?**

— Так, у нас трое дзяцей. Старэйшаму сыну мы хацелі даць імя, якое нясе сэнс. Лука — імя евангеліста. Луцый — той, які нясе святло. Лучана Паварoці… Дачку мы назвалі Алівія — тая, якая нясе мір. Сын Лука зараз спявае ў хоры хлопчыкаў, вучыцца на харавым аддзяленні ў ліцэі. Алівія паступае ў гэтым годзе на аддзяленне арфы ў музычны ліцэй. Нашаму малодшаму сыну Лаўрэну больш за год. Мая жонка Таццяна — салістка Нацыянальнага акадэмічнага опернага тэатра, мае меца-сапрана. Зараз яна даглядае дзіця.



• *Таццяна і Ілля Сільчуковы з дзецьмі Лукой і Алівіяй*

**— У вашым рэпертуары шмат роляў. Вы выконвалі партыю Шаклавіты ў «Хаваншчыне» на сцэне Франкфурцкай оперы (Германія, 2012), партыю Фіарэлы ў «Севільскім цырульніку» на сцэне Рымскага опернага тэатра (2012), партыю Жоржа Жэрмона ў оперы «Травіята» ў «Vorarlberger Landestheater» у г. Брегенц (Аўстрыя, 2013), у Нацыянальным тэатры ў г. Брно (Чэхія, 2013). Якія ролі вы яшчэ хацелі б выканаць?**

— Хочацца выконваць больш французскай музыкі. Хацелася б паспяваць партыі Альбера ў «Вертары» і Фігара. Яны вельмі аб'ёмныя і цікавыя. Я спяваў Альбера ў Італіі. Хацелася б выканаць партыю амерыканскага консула Шарплеса ў оперы «Чыа-Чыа-Сан». У «Фаўсце» я павінен быць Валянцінам. Я выконваў гэту ролю ў Тэль-Авіве і Брацiславе, спадзяюся выканаць гэту ролю ў Мінску.

**— Вы спяваеце па-італьянску?**

— Па-французску. Французская, нямецкая і італьянская — абавязковыя мовы для выступленняў у Еўропе. Для размоваў патрэбна ўніверсальная мова — англійская.

**— Напэўна, голас опернага спевака залежыць ад фізічнага стану здароўя. Голас трэба берагчы.**

— Неабходна тэхніка бяспекі. Нельга доўга знаходзіцца там, дзе вялікі шум, нельга крычаць разам з усімі на футбольным стадыёне, трэба засцерагацца перагрузак, захоўваць рэжым сну. Напэўна, як і ў спартоўца. Голас — твой інструмент. Пра гэта трэба заўсёды думаць.




• *На ўрачыстым прыёме ў амбасадзе Беларусі ў Варшаве*

**— Опернае мастацтва закранае тэму любові. Як вы лічыце, сапраўды гэта пачуццё здольнае абудзіць і духоўна адрадзіць чалавека?**

— У апошняй оперы Чайкоўскага «Іаланта» я выконваю ролю Роберта. Дачка караля Праванса Рэнэ Іаланта, якая ў раннім дзяцінстве страціла зрок і не ведала пра прыгажосць свету, імкнецца ўбачыць святло, калі да яе прыйшло каханне. Пачуццё і імкненне дорыць ёй перамогу над слепатой. Так і мастацтва дапамагае чалавеку задумацца пра сэнс жыцця, узвысіцца над мітуснёй, шукаць адказаў на пытанне: для чаго я прыйшоў у гэты свет? Опернае мастацтва выконвае выхаваўчую і асветніцкую функцыю. Людзі культуры больш чулыя да духоўных пошукаў, да пошукаў Бога. Руская оперная музыка блізкая да хрысціянскіх вытокаў.

**— Вы служыце ў царкве? Выдатна гучаць вашы спевы «Хвала на вышынях», «You raise me up».**

— У Царкве евангельскіх хрысціянаў г. Мінска «Святло ісціны» я нясу рэгенцкае служэнне, спяваю, прапаведую. У нас ёсць музычная група.

**— Вельмі прыемна, што за вашу творчасць вас узнагародзілі медалём Францішка Скарыны.**

— Кіраўніцтва Нацыянальнага Вялікага тэатра оперы і балета ацаніла мой пастаянны ўдзел у спектаклях і значных праектах і вылучыла маю кандыдатуру на ўручэнне гэтай урадавай узнагароды.

Мне даводзілася выступаць у Палацы Рэспублікі на цырымоніі ўручэння прэмій «За духоўнае адраджэнне», удзельнічаць у канцэртных праграмах да Дня Незалежнасці, браць удзел у Днях культуры Мінска ў Омску, Белградзе, Тбілісі, Санкт-Пецярбургу. Я быў фіналістам праекта тэлеканала «Культура» «Вялікая опера».

**— Дзякуем за сустрэчу! Будзем чакаць адкрыцця новага сезона ў тэатры і прэм'ер опер!**

## СПЯВАЧКА СТВАРАЕ АДУХОЎЛЕНЫЯ ВОБРАЗЫ



• *На канцэрце*

*Лаўрэат агульнанацыянальнага конкурсу песні Ганны Герман «Эўрыдыка» Галіна Сакольнік рэалізуе творчыя праекты і вядзе актыўную канцэртную дзейнасць на розных пляцоўках краіны. Разнастайны рэпертуар выканаўцы прадстаўлены вакальнымі творамі беларускіх, рускіх, славянскіх і заходнееўрапейскіх кампазітараў. Галіна Сакольнік валодае цудоўным меццa-сапрана. Артыстка імкнецца як да класікі, так і да сучаснай эстрады.*

*Галіна Сакольнік нарадзілася ў Мінску ў 1981 годзе. Яна скончыла Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі па спецыяльнасці «Акадэмічныя спевы». Вучобу ў БДАМ яна паспяхова сумяшчала з працай у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета ў якасці артысткі хору. У Белдзяржфілармоніі ў якасці салісткі Галіна Сакольнік працуе з 2006 года і выконвае галоўныя ролі ў навагодніх музычных спектаклях для дзяцей.*

*Галіна Сакольнік з'яўляецца дыпламантам і лаўрэатам шматлікіх конкурсаў: конкурсу вакалістаў «Убельская ластаўка», прысвечанага кампазітару Станіславу Манюшку (2002), Гарадскога маладзёжнага фестывалю патрыятычнай песні ў г. Мінску (2002), XIII Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі «Магутны Божа» ў г. Магілёве (2005), X Маскоўскага Міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў рускага рамансa «Рамансіяда» ў г. Маскве (2006), Міжнароднага вакальнага конкурсу імя І. Юр'евай у г. Таліне (Эстонія, 2008), Міжнароднага конкурсу харавой і вакальнай музыкі ў г. Балашыха (Маскоўская вобл., Расія, 2010) і іншых.*

*У складзе камерна-вакальнай групы Галіна Сакольнік паспяхова выступае ў навучальных установах з праграмамі лектара-музыказнаўца А. Парэцкага.*

*«У 2016 годзе лаўрэат прэміі V агульнанацыянальнага конкурсу песні “Эўрыдыка” спявачка Галіна Сакольнік ажыццявіла самастойны творчы праект, прысвечаны 80-годдзю Ганны Герман, — паведамлялася ў друку.— У канцэрце ў малой зале Белдзяржфілармоніі прынялі ўдзел лаўрэат сусветнага конкурсу “Залаты цэхін” Ганна Казлова, Уладзіслаў Даніловіч і Анатоль Цяльцоў».*

*На канцэрце са светлымі і трапяткімі пачуццямі Галіна Сакольнік выканала песні «Czlowieczy los», «Ідзе дзіця па зямлі», «Вяртанне раманса», «Вясна», «Сцяжынка». У гэты вечар мы ўпершыню сустрэліся з пані Галінай. Наша гутарка працягнулася праз некалькі гадоў. За гэты час абаяльная і шчырая артыстка неаднаразова выходзіла да публікі ў Беларусі, Польшчы і Расіі.*

**— Вы з такім пачуццём і болем спявалі песню «Зноў матулін голас чую».**

— Ва ўзросце васьмі гадоў я, на жаль, страціла сваю матулю. Яна была хворая на рак. Мае успаміны пра дзяцінства вельмі балючыя. Таму ў песні праявіліся мае асабістыя душэўныя перажыванні.



• *На конкурсе «Эўрыдыка»*

**— Пані Галіна, раскажыце, калі ласка, якім быў ваш шлях да ажыццяўлення свайго паклікання.**

— Мая мама Ядвіга Казіміраўна хацела, каб я займалася музыкай. У дзяцінстве бацькі спачатку аддалі мяне на спартыўную гімнастыку. Але праз два гады, калі мне купілі піяніна, я паступіла ў музычную школу № 9 г. Мінска. У музычнай школе хор і пастаноўку голасу вёў В. Я. Яловік.



Памятаю, як неаднойчы аказвалася за дзвярыма ў час заняткаў пастаноўкі голасу, — у меня пачалася мутацыя, вельмі моцная, — спяваць не магла, вылятала за дзверы і плакала. Таму з паступленнем у музычную ўстанову было складана. Там часам Аліна Безэнсон, жонка майго стрыечнага брата (зараз выдатная беларуская кампазітарка), параіла паступіць пасля 11-га класа ў Гродна на музыказнаўства, бо там яшчэ не скончыліся ўступныя экзамены. І мне пашчасціла — я стала студэнткай Гродзенскай музычнай вучэльні.

Горад Гродна, на мой погляд, найпрыгажэйшы ў Беларусі! Рака Нёман, стары замак, Каложская царква XII стагоддзя, каменныя дарогі былых часоў... А колькі прыгожых касцёлаў!

У Фарным касцёле (Кафедральным саборы Святого Францыска Ксаверыя) я бывала амаль кожных дзень. Вельмі вабілі гукі аргана. Пасля службы заставалася ў цішы храма, каб паслухаць, як грае арганіст. Я вельмі любіла не толькі слухаць духоўныя творы, але і спяваць іх. Асабліва мне падабалася «Ave Maria» Качыні. Таму аднаго разу я паднялася на хоры і пазнаёмілася з цудоўным чалавекам, арганістам, выкладчыкам, піяністам Бруна Зянонавічам Тэрмёнам. Ён граў, я спявала, таксама гралі разам у чатыры рукі прэлюдыі і фугі І. С. Баха, і некалькі іншых арганных твораў.



• *У касцёле*

Аднойчы, калі я спявала, мяне пачула Марына Міхайлаўна Гаравая, таленавітая спявачка, вакальны педагог. Яна прапанавала мне займацца з ёй вакалам. Менавіта яна стала маім першым вакальным педагогам.

Я шчыра ўдзячна Богу за цудоўных прафесійных педагогаў, у якіх займалася на аддзяленні музыказнаўства: А. Б. Пескіна, С. А. Калчанаву, Е. Д. Сушчэню, Л. І. Ушакевіч.

На аддзяленні музыказнаўства ў Гродне я правучылася адзін год і перавялася ў Мінск на вакальнае аддзяленне на другі год навучання.

**— Шмат залежыць ад выкладчыка, ад таго, хто будзе распальваць у чалавеку Божую іскру.**

— Марына Міхайлаўна — вельмі духоўны чалавек, яна любіць сваю прафесію. Яна ставілася да сваіх вучняў з вялікім хваляваннем. «Галачка, прыязджай, — казала яна, — я знайду для цябе час!» У Мінску маім педагогам у вучэльні М. І. Глінкі была Ірына Яўгенаўна Баслык, вельмі добрая, адказная, патрабавальная да кожнай сваёй вучаніцы.

У Акадэміі музыкі ў мяне было два педагогі. Спачатку Валянціна Мікалаеўна Раговіч, а на трэцім курсе я перайшла ў клас народнай артысткі Беларусі Наталлі Аляксандраўны Рудневай, якая дапамагала мне ствараць па-сапраўднаму эмацыйна яскравыя оперныя нумары, а таксама знаходзіць разнастайныя тонкасці для выканання рамансаў.

Была вельмі рада, калі патрапіла на «канцэртна-камерныя спевы» да заслужанага артыста Беларусі Віктара Іванавіча Скарабагатава. Я ляцела да яго на заняткі, бо было надзвычай цікава, інфарматыўна. Мы ўзнялі шмат беларускага і замежнага матэрыялу. Некаторыя творы хацелася б яшчэ раз выканаць, што я абавязкова зраблю!



• *Эмблема фестывалю*

**— Агульнанацыянальны конкурс песні Ганны Герман «Эўрыдыка» стаў ужо традыцыйным. Пра гэта сведчыць вялікая цікавасць да творчай спадчыны Ганны Герман. Фестываль «Эўрыдыка» з’яўляецца беларускім конкурсам песні, арганізаваным Амбасадай Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь і дуэтам «WitaM» — Марынай Таварніцкай і Віталём Аляшкевічам. Непаўторны каларыт фестывалю, на якім гучыць польская мова, і яго высокі дыпламатычны статус прыцягваюць слухачоў. Як пачаўся ваш удзел у гэтым свяце?**

— У мяне за плячыма ўжо быў вялікі досвед. Спачатку я назірала, як конкурс развіваецца. У 2016 годзе я вырашыла паўдзельнічаць і атрымала ўзнагароду першай ступені. Арганізатарам прыгожага мерапрыемства, на якім склалася цёплая, душэўная атмасфера, выступіла Марына Таварніцкая. Таму ў 2017-м я зноў падала заяўку на ўдзел. І атрымала ўзнагароду — Гран-пры.

Усё, што звязана з Ганнай Герман, для мяне свята! Хто слухаў яе — у душы ў кожнага застаўся срэбраны тэмбр яе голасу, жаночае абаянне.

Песні Ганны Герман я спявала яшчэ з дзяцінства, асабліва падабалася песня «Русская раздольная» (муз. Е. Кулікова, сл. М. Рабініна), — я спявала яе і перад люстэркам танчыла, уяўляючы, што знаходжуся на сцэне.



У 2006 годзе я паехала на конкурс «Рамансіяда» ў Маскву. Старшыня журы Галіна Праабражэнская адзначыла маё знешняе і галасавое падабенства з Ганнай Герман, і мне паведамілі, што я выйшла ў фінал з песняй «Ты мяне пашкадуй». Гэта песня засталася ў маім рэпертуары.

У 2017 годзе на конкурсе я пасябравала з калектывам «Ars longa» (які акампануе большасці ўдзельнікаў конкурсу), выступала разам з выдатнымі салісткамі — Надзеяй Бронскай, Юліяй Скурко, Анастасіяй Рачыцкай, Янай Карнейчык, Палінай Данской.

На конкурсе ў складзе журы прысутнічаў шоўмэн і прадзюсар Іван Ільічоў, які напісаў некалькі кніг пра Ганну Герман. Ён вельмі беражліва ставіцца да любой інфармацыі пра спявачку, збірае яе па крупіцах, каб потым данесці слухачам. На канцэртах, прысвечаных Ганне, якія ён праводзіць сам, ён зачытвае ўрыўкі з кніг паміж выступленнямі артыстаў. Неаднойчы Іван запрашаў мяне ў Маскву прыняць удзел у яго канцэртах. Слёзы наварочваліся ў мяне на вочы ад пачутага пра жыццё Ганны Герман. Асабліва ўразіў урывак пра тое, як Ганна ўпершыню пасля хваробы выйшла на сцэну, і слухачы горача апладзіравалі ёй сорак хвілін.

**— Вы так пранікнёна спяваеце песню «Рэха мілосці», як толькі можа спяваць чалавек, які перажыў глыбокае і моцнае каханне. На вашым жыццёвым шляху сустрэўся ваш самы дарагі чалавек?**

— Я сустрэла такога чалавека, яго завуць Аляксандр, па адукацыі ён псіхолаг. Ён даў імя нашай дачушцы — Віталіне. Яна — мой маленькі слухач. Дачушка танцуе ў ансамблі «Равеснік».

**— Вельмі прыемна, што вы транслюеце творчасць Ганны Герман для новых пакаленняў і захоўваеце яе вобраз у культуры.**

— Зараз я бачу шмат моладзі, якая знаходзіць для сябе ў песнях спявачкі штосьці блізкае, глыбокае і шчырае, і папулярызуе песенную творчасць Ганны Герман у трошкі змененым выглядзе.

Рэпертуар Ганны быў выдатна падабраны, кожная песня гучала ў яе выкананні як шэдэўр. Яна выбірала тэксты, да якіх ляжала яе душа, спявала на розных мовах. Яна вяла свае канцэрты сама, распавядала пра песні, пра сваё жыццё. Такія канцэрты вельмі натхнялі людзей.

**— Спеўная лірыка дапамагае ўсталёўваць сяброўскія кантакты ў замежжы?**

— Марына Таварніцкая кожны год арганізуе паездкі для лаўрэатаў фестывалю «Эўрыдыка» ў Польшчу. Я адправілася ў турнэ па Польш-

чы пасля таго, як атрымала першую прэмію на конкурсе. Мы наведвалі Уроцлаў, Легніцу, Варшаву і іншыя гарады.

Мы з Марынай Таварніцкай выступалі ў касцёлах на службах, спявалі на адарацыі і камуніі. Пасля святой імшы можна было некалькі хвілін распавесці пра сябе і даць невялікі канцэрт. Мы прадстаўлялі беларускую культуру, радавалі слухачоў песнямі Станіслава Манюшкі і Ганны Герман.

У Польшчы больш высокі ўзровень культуры. Слухачы цікавяцца канцэртнымі праграмамі. Яны просяць, каб іх мясцовыя кіраўнікі арганізоўвалі сустрэчы і зноў запрашалі нас. У маленькіх гарадках людзі сустракаюць нас з асаблівай радасцю і гасціннасцю. У мінулым годзе Марына Таварніцкая арганізавала некалькі канцэртаў у Польшчы, прысвечаных 200-годдзю Станіслава Манюшкі, пад назвай «Śpiewnik domowy».

Акрамя мяне ў канцэрце ўдзельнічалі: Марына Таварніцкая, Надзея Бронска, Марта Перхач, Іна Камаран, Алена Лапко. Канцэртмайстрам быў Віталь Аляшкевіч.



• *Падчас наведвання Польшчы*

Гэтую праграму мы правялі таксама ў Мінску, у канцэртнай зале «Верхні горад». У ёй былі задзейнічаны лаўрэаты міжнародных конкурсаў: Юры Гарадзецкі (тэнар), Наталля Акініна (мецца-сапрана), Надзея Бронска (сапрана), Віталь Аляшкевіч (раяль), Юлія Архангельская (раяль), Дзмітрый Цітоў (мандаліна, домра) і я. Вядоўцай была музыказнаўца Святлена Немагай.

**— У вашай сям›і захаваліся каталіцкія традыцыі?**

— Па мамінай лініі ў мяне ўсе каталікі. Пасля смерці мамы маім духоўным выхаваннем сталі займацца яе родныя сёстры, мае цёткі. Мы хадзілі ў мінскую архікатэдру ў той час, калі на



першым і другім паверхах будынка дзейнічала спартовая зала, а на трэцім быў алтар і там праводзіліся службы. У 1993 годзе касцёл вярнулі вернікам, адрамантавалі і ў 1997 асвяцілі храм у гонар Найсвяцейшай Панны Марыі.

Мая першая святая камунія адбылася ў маім дзяцінстве ў Літве (г. Судэрве).

Цяпер мы з дачушкай ходзім у касцёл Святога Роха на Залатой Горцы. Зараз дзеці сур’ёзна рыхтуюцца на працягу двух гадоў да першай святой камуніі, маюць для падрыхтоўкі не толькі дзіцячыя Бібліі, але і шмат дадатковага азнаямляльнага матэрыялу.

**— Ваш рэпертуар вельмі багаты.**

— Так, назбіралася шмат. Духоўная музыка — гэта асобны пласт, які мне падабаецца. Таксама я люблю рускія рамансы і арыі, заходнееўрапейскую музыку. Цікава слухаць канцэрты, калі выканаўцы з іншых краін прадстаўляюць творы сваёй культуры, якія ў нас невядомыя. Можна потым імі папоўніць свой рэпертуар.

У аддзеле «Філармонія для дзяцей і юнацтва», дзе я працую, мы, артысты, ствараем свае праекты і канцэрты ў малой і вялікай залах філармоніі. Наш аддзел разам з рэжысёрам-пастаноўшчыкам Таццянай Мажар і кампазітарам Уладзімірам Саўчыкам рыхтуе розныя спектаклі, у тым ліку і навагоднія, якія з задавальненнем наведваюць дзеці і бацькі.

За гады працы ў філармоніі я выступала ў групах двух мастацтвазнаўцаў — А. І. Агаркавай і А. Д. Парэцкага — як адна з вакалістак. Яны стваралі выдатныя праграмы для дзяцей і моладзі. Зараз яны на заслужаным адпачынку, але мы падтрымліваем з імі сувязь, запрашаем на нашы новыя праекты.



• *Галіна Сакольнік з групай артыстаў ва Уроцлаве*

У чэрвені 2020 года ў рамках акцыі Міністэрства культуры «Майстры ку-

льтуры — дзецям» мы выступілі ў 5-м і 8-м дзіцячых дамах Мінска і ў Асіповіцкай дзяржаўнай спецыяльнай адукацыйнай школе-інтэрнаце для дзяцей з парушэннем функцый апорна-рухальнага апарату. А зараз у ліпені мы ў адпачынку.

**— Шчыра дзякуем вам за спевы! Жадаем новых прыемных сустрэч і выступленняў!**

# З РОДНЫМ СЛОВАМ І ПЕСНЯЙ — ДА СВЯТЫНЯЎ



## АРТЫСТ АБ'ЯДНОЎВАЕ ПУБЛІКУ Ў СУПОЛЬНЫХ СПЕВАХ



• *Артыст у студыі*

*Арганізатар шматлікіх спеўных сходаў, папулярызатар беларускай песні і традыцыйнай народнай культуры Сяржук Доўгушаў паспяхова выступае з канцэртамі на Беларусі і ў замежжы, ствараючы пазітыўную шчырую атмасферу ўзаемнага творчага абмену.*

*Ён нарадзіўся 17 красавіка 1983 года ў вёсцы Новае Тарчылава на Аршаншчыне ў сям'і Наталлі Паўлаўны Рыбаковай і Васіля Радзівонавіча Доўгушава. Юнак пайшоў у школу ў мястэчку Балбасава і закончыў яе ў 2000 годзе. У 2000–2002 гадах Сяржук атрымаў адукацыю кухара ў вучэльні № 18, а потым з 2002 па 2004 год вучыўся ў хіміка-тэхналагічным тэхнікуме.*

*З 15 гадоў ён пачаў спяваць і пісаць песні, авалодаў ігрой на гітары, стварыў у вёсцы Тарчылава гурт «NEMVMA».*

*Адораны юнак прайшоў конкурс на падрыхтоўчае аддзяленне ў Беларускую акадэмію музыкі і паступіў на спецыяльнасць «Оперныя спевы», дзе вучыўся з 2004 па 2010 год.*

*У 2008 годзе Сяржук Доўгушаў разам з Настассяй Паповай, Вольгай Паляковай і Андрэем Еўдакімавым стварыў гурт «Fratrez». Пазней да праекта далучыліся Аляксандр Ясінскі і Ілона Лесь. У 2010 годзе на аснове «Братоў» паўстаў гурт «Vuraj». Акрамя гітары артыст асвоіў таксама флейту, дудкі, акарыну-рыбу, колавую ліру, падвойныя дудкі, сапілкі, жалейкі.*

**— Спадар Сяржук, давайце ўзгадаем, як нарадзілася ў вашай душы цікавасць і любоў да беларускай песні.**

— Шлях мой быў доўгім. Мае бабуля і дзядуля крыху размаўлялі з беларускім акцэнтам. Я чуў, што ў музеі Уладзіміра Караткевіча ў Оршы праводзяць выдатныя канцэрты. Але першая любоў да беларускай песні прыйшла да мяне праз праслухоўванне дыска, на якім нізкім прыгожым мужчынскім голасам спяваў Рыгор Іванавіч Барадулін. Тады толькі пачынаў працу наш калектыў «VURAJ». Мы запісалі першую песню «Ой, лятала шэра перапёлка».

Далей здзейсніліся нашы экспедыцыі. Я пачуў ужывую, як спяваюць бабулі. Мяне кранула моц, сакральнасць і рэзананс вібрацыі, якая дзейнічае, калі выконваюцца народныя песні. Гэта не параўнаць з тым, як мы слухаем праз камп'ютар! Народная песня ўразіла мяне глыбінным узроўнем, сваёй прыродай, блізкасцю да каранёў. Але спачатку быў Рыгор Барадулін, натхненне літаратурай, беларускім словам.

**— Раскажыце, калі ласка, пра вашых бацькоў?**

— На жаль, мой тата памёр, калі мне было восем месяцаў, яго ўдарыла токам. Маці выхоўвала мяне адна, абараняла, берагла, вучыла дабрыні. Потым з'явіўся айчым, але ён так і не стаў мне блізкім чалавекам.



• *Гучыць народная песня*

Ад маці мне дасталіся тэмбр голасу, любоў да песні і музыкі. Маме падабаліся песні з кінафільмаў, «Ёсць толькі міг» і іншыя. Я паступіў вучыцца ў Акадэмію музыкі і стаў прафесійным спеваком. І калі з'явілася любоў да беларускай песні, асновай майго рэпертуару сталі менавіта народныя песні. Маці і сёння спявае ў Доме культуры.

**— Што б вы хацелі згадаць пра вашы родныя мясціны?**

— Там я адчуў прыродную глыбіню, любоў да вёскі, да сапраўднага жывога асяродка. У вёсцы Тарчылава я праводзіў дзіцячыя гады. Ад тых момантаў засталося адчуванне самага прыемнага: як пасвіў каровак, піў свойскае малачко. Да 17 гадоў я жыў у мястэчку Болбасава, там я хадзіў у школу. Там праходзілі нашы першыя канцэрты, калі мы вешалі на слупах аб'яўкі, запрашалі гасцей і пачыналі граць. Запомніліся пікнікі, яскравыя падзеі. Першыя песні пачынаў пісаць менавіта дома. Бо гэта



месца сілы і энергіі, там ёсць сувязь з зямлёй. Калі я бываў стомлены ад горада, прыязджаў на вёску, набіраўся сіл. У 2010 годзе я вярнуўся да напісання аўтарскіх песень, яны лепш атрымоўваюцца на радзіме.

**— Вы любіце граць на розных інструментах. Як вы гэтаму навучыліся?**

— Я браў заняткі ігры на гітары, у Акадэміі музыкі я вучыўся граць на фартэпіяна. Самы блізкі музычны інструмент для мяне — гэта мае дудачкі. Мне часта хацелася зайграць на блокфлейце! Праз пэўны час я даведаўся, што мой прадзед Якаў, які паходзіў з Кармянскага раёна, якраз іх вырабляў. У мяне захоўваюцца дзесяткі дудак не толькі з Беларусі, але і з Амерыкі з Японіі, ёсць акарына ў выглядзе рыбы, ёсць парныя падвойныя дудачкі, пішчалкі, сапілкі, жалейкі. Люблю музыціраваць, граю з калектывамі на прыродзе.



• *Тонкая мелодыя*

**— Як складвалася ваша навучанне ў Беларускай акадэміі музыкі?**

— Спачатку я вучыўся як канцэртна-камерны і оперны спявак. Але, як кажуць, кансерваторыя кансервіруе таленты. Сапраўды, адчуў, што мяне ўвесь час імкнуліся зламаць, дыктавалі спевы па нотах. На трэцім курсе, калі я ўжо збіраўся сыходзіць, мой педагог, заслужаны артыст Беларусі, стваральнік «Беларускай капэлы» Віктар Іванавіч Скорабагатаў адкрыў мне прыгажосць беларускіх спеваў. Ён падзяліўся песнямі з «Полацкага сшытка». У гэты момант я ўжо адчуваў, што песня - гэта не толькі ноты, а цэлы вялікі напоўнены твор з рознымі фарбамі. У адной песні можна знайсці шмат цікавага, па гуку, сімвалах, знаках, вобразным слове. Цікава было навучацца ў Віктара Скорабагатава і шукаць гэтыя фарбы.

Пасля заканчэння Акадэміі музыкі я пайшоў працаваць у Белдзяржфілармонію салістам, пачаў пісаць свае праграмы і адчуў сябе сапраўдным спеваком.

**— Чым для вас найбольш адметны перыяд працы ў Белдзяржфілармоніі? Раскажыце, калі ласка, як былі заснаваны вашы музычныя гурты «FRATREZ» і «VURAJ».**

— Я ствараў вобразы герояў, але з одзернымі спевамі не ішло. І толькі ў першым аўтарскім праекце «FRATREZ», калі мы гралі класічную музыку, я выконваў розныя вакалізы, фанемныя спевы і тэксты на старагрэцкай мове, на лаціне. У гурта быў такі склад: Андрэй Еўдакімаў (гітара), Вольга Палякова (флейта), Наста Папова (скрыпка) і я, спявак. Потым дадаўся Аляксандр Ясінскі (баян і віяланчэль) і яшчэ бубнач. Гэта была музыка, заснаваная на імправізацыі. У 2010 годзе стварыўся гурт «VURAJ» .

Калі з намі працавала ў гурце Кацярына Крывашэйцава, яна параіла паслухаць розныя народныя песні. Мы вырашылі паэксперыментаваць. Эксперымент перайшоў у гурт «VURAJ». Потым «VURAJ» заняў больш значнае месца ў нашым жыцці.



• *На свяце*

У філармоніі я пачаў ствараць аўтарскія праграмы. Спачатку мне давалі савецкія песенькі пра сонейка і пра кацяня Я вырашыў рабіць розныя праграмы для дзяцей. Мы стварылі праграму «Чароўны край» з міфалогіяй і дзіцячымі фальклорнымі песенькамі на інтэрактыве. Мы спявалі, гулялі, я праехаў амаль усе школы Мінска, прэзентуючы свае праграмы. У апошнія гады мяне запрашалі менавіта з беларускімі песнямі. Дзеці ў школах не вельмі любяць слухаць оперных выканаўцаў з акадэмічнымі творамі.

Далей лёс складваўся так, што я выйграў стыпендыю Міністэрства культуры GAUDE POLONIA і паехаў жыць у Варшаву. Мяне папрасілі звольніцца з Белдзяржфілармоніі, і я працягнуў сваю дарогу самастойна.

**— Як складваўся далей ваш творчы шлях? Як вы распачалі вельмі папулярны музычны праект «Спеўны сход», які разгортваўся ў розных гарадах Беларусі?**



— Спеўны сход я пачаў, каб беларусы ведалі свае песні, не баяліся і спявалі разам. Былі буйныя спеўныя сходы на розныя тэмы па 500 і 1000 чалавек. Мы пачыналі з народных песень, потым былі Манюшка і Агінскі.



• *Спеўны сход*

Мы ствараем сайт, там можна знайсці тэмы іншых сходаў, пераходзім у ан-лайн. У 2014 годзе мы распачалі праект, спеўныя сходы адбываліся ў Бабруйску, Вілейцы, Горадні, Маладзечне, Берасці і Віцебску. Спеўны сход добра і актыўна падарожнічае па іншых гарадах, я аб'ездзіў шмат розных мясцін, праводзіў спеўныя сходы на курсах «Мова нанова».

**— Вы гралі для дзядзькі Рыгора на Каляды ў яго хаце. Потым не аднойчы арганізоўвалі канцэрты памяці Рыгора Барадуліна ў сценах Белдзяржфілармоніі. Якое месца ў вашым жыцці займае яго творчасць?**

— Для мяне творчасць Рыгора Барадуліна вельмі дарагая. Спачатку ён з песняй запаў мне ў душу, а ўжо потым адбылося наша знаёмства. Я ведаў, што ёсць такі паэт, што ён жыве побач. Праз асобу чалавека заўсёды становіцца блізкай яго творчасць.

Маю амаль усе ягоныя кнігі, падпісаныя мне. Вершы яго featuring рознабаковыя, пад пэўны настрой я разгортваю кнігу і чытаю іх. Вельмі люблю кнігу «Ксты». Да некаторых вершаў я яшчэ не дарос. Хачу разгадаць верш, які дзядзька Рыгор прысвяціў мне. Для мяне ён застаецца паэтам нумар адзін.

Канцэрт «Песні матчыны з Вушаччыны» мы пачыналі з Белдзяржфілармоніі і зрабілі яго традыцыйным. Мы запісалі альбом, я запрасіў у праект шмат розных калектываў, якія выконваюць акадэмічную і аўтэнтычную музыку, і кожны з іх па-свойму заспяваў ушацкую песню — хор «Салютарыс», гурт «Варган» і гурт «Рэлікт». Вельмі рознабакова была прадстаўлена родная песня ў выкананні розных калектываў.

Так, аднойчы мы зайшлі з калядоўшчыкамі, з гуртом «VURAJ» да Рыгора Барадуліна, уражанні засталіся вельмі моцныя. Асабліва запам-



• *Сяржук і Віялета на вяселлі*

ніліся яго словы: «Каб вы былі багатыя і касматыя!» Дзядзька Рыгор вельмі любіў традыцыйную культуру, ён пляскаў у далоні і танчыў, калі слухаў нас.

**— Спадар Сяржук, у 2011–2013 гадах вы запісвалі на Аршаншчыне песні на вершы Уладзіміра Караткевіча. Распавядзіце, калі ласка, пра гэты дыск і гэты досвед.**

— У час адпачынку ў сябе на радзіме на Аршаншчыне я захапіўся творамі Караткевіча і ў 2012-2013 гадах запісаў песні на яго вершы. Першая песня была «Дарогі», а ўсяго было запісна пяць песень. Я запрасіў да супрацы Аляксандра Ясінскага. Мы праехаліся па Беларусі, выступалі ў Празе. Палова альбома «Дарогі» складзена на вершы Уладзіміра Караткевіча, другая палова — на творы Анатоля Сыса.

Сышоўшы з Белдзяржфілармоніі, я стварыў сваю арганізацыю, часам прадзюсірую некаторыя калектывы. Летась мы арганізавалі фестываль «Раёк», удзельнікамі якога былі спеўны гурт з Полацка «Варган» і капэла «Коліснія», якая выконвае танцавальную музыку.

**— Дзе вы пазнаёміліся з вашай жонкай Віялетай? Ваша вяселле ператварылася ў сапраўдны фэст!**

— Мы з Віялетай пазнаёміліся падчас фестывалю «Лістапад», былі прэм’еры фільмаў, дзе гучала музыка «VURAJ». Віялета была ў камандзе арганізатараў фестывалю. Мы музіцыравалі, я спяваў песню «Сядзіць яшчар». Яна спынілася паслухаць, падышла да нас. Пасля мы вельмі часта сустракаліся.

Нарэшце мы вырашылі стварыць «Вяселле-фэст» і самім пражыць гэтыя абрады. Мы пашылі народныя строі, запрасілі шмат калектываў, сватоў, каб папулярызаваць вясельную традыцыю. Мы перажылі сапраўднае вяселле!

**— Раскажыце, калі ласка, як вы запісвалі бяседныя песні і выдавалі складанку разам з кніжачкай, ілюстраванай фотаздымкамі.**

— Бяседныя песні — ужо другая наша кніга з дыскам, якую мы выдалі. Першая складанка была прысвечана мужчынскай традыцыі спеваў. Ірына Васільева і Яніна Грыневіч былі ўкладальніцамі. Асноўныя запісы былі з архіва Нацыянальнай акадэміі навук. Там прадстаўлена багата розных песень, якія спяваліся на бяседах і на кірмашах, карчомныя, лірычныя і іншыя.

**— Нядаўна вам давялося выступаць з гастролямі ў ЗША.**






• *Родныя мелодыі лечаць*

— Мая жонка Віялета Нікіцік у 2018 годзе выйграла грын-карту. І мы паехалі з ёй разам у ЗША. З канцэртамі на працягу шасці месяцаў я аб’ездзіў шмат беларускіх суполак — выступаў у Нью-Ёрку, Чыкага, у многіх гарадах штатаў Агаё, Каліфорнія, Фларыда. Былі выступленні і ў двух універсітэтах. Беларускую песню трэба папулярызаваць тут! Калі я вярнуўся з ЗША, то арганізаваў адразу тры праекты.

Віялета — маё натхненне, дзякуючы ёй я ажыццявіў шмат праектаў. Але жыць з артыстам не проста, таму што 24 гадзіны я займаюся любімай справай. Спаць кладуся з тэлефонам у руках, абмяркоўваю праекты. Жонка паводле спецыяльнасці — псіхолаг. Яна таксама раней спявала ў народным калектыве. Яна, бывае, ездзіць са мной у экспедыцыі і на канцэрты. У ЗША мы паўсюль ездзілі разам, з яе дасканалай англійскай мовай я адчуваў сябе больш упэўнена.

У суполках ЗША мяне добра прымалі. Я выступаў ва ўніверсітэтах, на фестывалях, ладзіў для беларусаў замежжа Каляды, Масленіцу, выступаў на Вялікдзень, працягваю папулярызаваць нашу культуру. Мы выконвалі «Жаніцьбу Цярэшкі», для дзетак я рабіў заняткі, паўсюль мяне прыязна сустракалі. Шмат дзе дзеці не бачылі ліру. Калі я паказваю інструменты, гэта захапляльна для ўсіх. Мы добра пасябравалі, у мяне яшчэ не раз будуць гастролі з рознымі праграмамі. Граю на ліры, спяваю, аб’ядноўваю беларускія суполкі ў замежжы.

**— Ці ёсць у вас любімыя стравы, якія Вы гатуеце ў сваёй сям’і і для сяброў?**

— Люблю клёцкі з душамі, бабку, гатую для жоначкі сняданак, вячэру пад настрой.

**— Як бы вы хацелі далучаць дзетак рознага ўзросту да музыкі?**

— Праз традыцыйную музычную культуру. Па кніжках дзеці ведаюць, што ёсць такія інструменты: скрыпачка, дудачка, ліра. Калі я распавядаю дзецям і знаёмлю іх з музычнымі інструментамі, яны мне падпяваць, паўтараюць назвы. Часам я раю набываць дзецям драўляныя дудачкі, каб яны прывыкалі граць. Добра, калі бацькі будуць знаёміць

дзяцей з традыцыйнай культурай, з якаснай музыкай. Мы рыхтуем праект з кіраўніцай дзіцячага ўзорнага калектыву «Калыханка» з Міханавічаў, чароўнай казачніцай і найвыдатнейшым этнапедагогам Ларысай Рыжковай пра традыцыйную культуру.

**— Ці адчуваеце вы, як беларускія песні і музыка падбадзёрваюць і падымаюць дух, каб не хварэць?**

— Па-першае, само гучанне нашага голасу — сувязь са сваім целам. Даказана, што спевы лечаць, пра гэта напісана шмат прац. Нашы галасавыя вібрацыі ўплываюць на нас. Калі мы спяваем песні нашай зямлі, нашага краю, яны падсвядома дзейнічаюць на нас. Каля я спяваю, мне робіцца цяплей на душы, у мяне з'яўляецца адчуванне зямлі пад нагамі, што я — частка гэтага свету. Прыходзіць душэўная, духоўная і фізічная моц. Хочацца лятаць пасля спеваў! Я даю практыкі па дыханні, па гучанні, па пошуку свайго тэмбру, заўважаю, як голас дзейнічае. Песнямі можна вылечыцца ад унутранай дысгармоніі, калі ў душы чагосьці не хапае, перарвалася пупавіна роду. Беларусам патрэбна песенная тэрапія. Пасля супольных спеваў настрой змяняецца і на тварах расцвітаюць усмешкі! Песня яднае людзей, дорыць ім хвіліны радасці. Як пісаў Рыгор Барадулін, «песню і агонь людзі перахоўвалі з пакалення ў пакаленне, са стагоддзя ў стагоддзе».

**— Жадаем вам поспехаў і добрых падарожжаў!**

# ГІСТОРЫК І КРАЯЗНАВЕЦ ДЗЕЛІЦЦА ЛЮБОЎЮ ДА РАДЗІМЫ

*Алег Дзьячкоў — шыракаплечы, атлетычны, рухомы, натхнёны старшыня Магілёўскай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Заўважны здалёку экскурсавод у кашулі з нацыянальнай сімволікай і яркімі слоганамі крочыць наперадзе і захапляе сваім аптымізмам. Ён дзеліцца з сябрамі ведамі пра Беларусь і яе слаўную гісторыю.*




• *У прыярытэтах — родная мова і культура*

*Не аднойчы са спадаром Алегам мы адпраўляліся ў аўтобусныя падарожжы па Беларусі, наведвалі Мсціслаў і Багацькаўку, Суботнікі, Белагруду, Вавёрку, Ліду, аглядалі касцёлы і цэрквы, спыняліся на начлег на хутары Вайцюшкі. У дарозе спявалі хіты з «Народнага альбома», беларускія і яўрэйскія песні. Магілёўскае «Кола сяброў» штогод багатае на сустрэчы з выбітнымі асобамі Беларусі — пісьменнікамі, паэтамі, гісторыкамі.*

*Алег Дзьячкоў нарадзіўся ў Магілёве 7 красавіка 1977 года ў працоўнай сям'і, быў ахрышчаны ў маленстве. Бабуля Алега Яўгенія Фёдараўна паходзіла з роду Савіцкіх і Хлусовічаў.*

*Пасля заканчэння школы Алег служыў у войску. Скончыў гістарычны факультэт МДУ імя Куляшова, ён працаваў рабочым у прыватнай фірме і на заводзе і завочна вучыўся, потым — выкладаў гісторыю ў школе. Перайшоў на працу экскурсаводам у турыстычную фірму.*

**— Спадар Алег, што падштурхнула вас абраць менавіта гістарычны факультэт?**

— Як толькі пачалося вывучэнне гісторыі ў 4-м класе ў школе, яна стала маім самым любімым прадметам. Паспрыяла маёй зацікаўленасці выдатная выкладчыца Валянціна Анатольеўна Каранеева. Дагэтуль мы з ёй сябруем, запрашаем на нашы мерапрыемствы, калі да нас прыязджаюць гісторыкі.

**— Які ваш любімы турыстычны маршрут?**

— Расна–Багацькаўка–Мсціслаў–Пустынкі. Радзіма братоў Гарэцкіх. Хадавы і цікавы маршрут, недалёка ад Магілёва.

**— Калі вы да далучыліся да Таварыста беларускай мовы імя Францішка Скарыны?**

— Прыблізна ў 2000 годзе.

**— З чаго пачыналі? Якія былі вашыя першыя дзеянні?**

— Ад пачатку я адказваў за культурніцкі кірунак. У 2005 годзе ачоліў грамадскую арганізацыю ў сваім горадзе. Мы аб'ядноўваем нашых сяброў на глебе павагі да сваёй краіны, яе гісторыі, культуры і мовы. Мы імкнёмся заахвоціць нашых грамадзянаў да ўсведамлення беларускай культуры як уласнай каштоўнасці, бо веданне культуры, гісторыі і мовы сваёй краіны дае чалавеку адметнасць сярод іншых народаў. Наша мэта таксама — пашырэнне сферы ўжытку беларускай мовы і яе папулярызацыя.

Мы пераканаліся, што тым, хто настроены пазітыўна і крэатыўна, ніхто нідзе не замінае і не перашкаджае рабіць беларускія справы.

Мы выступаем у школах, дэманструем выставу «Архітэктура Беларусі». Чытаем лекцыі па нацыянальнай культуры, па архітэктуры, гісторыі Магілёва, бясплатна паказваем беларускамоўныя мультфільмы дзецям у школах, садках і ў дзіцячым прытулку. Сябры дапамагаюць з транспартам, з абсталяваннем. Нацыянальная дыктоўка праходзіць у нас у Магілёўскім Палацы культуры і іншых грамадскіх месцах. Штогод цягам многіх гадоў праходзіць у Магілёве «Беларускае пяціборства» — інтэлектуальнае спаборніцтва па пяці дысцыплінах, якое арганізуюць сябры нашай арганізацыі.

Раз на месяц ладзім вандроўкі. У 2014 годзе мы святкавалі 500 гадоў Аршанскай бітвы, да нас прыязджалі мастакі і барды. Больш за дзесяць гадоў мы бяром удзел у Дні беларускага пісьменства ў верасні, на святце, на якім найбольш адчуваецца адзінства беларускага друкаванага слова з гісторыяй і культурай народа, адлюстраванне гістарычнага шляху пісьменства і друку ў Беларусі. У апошнія гады мы пабывалі ў Смаргоні, Заслаўі, Полацку і Слоніме. Там нашы сябры мелі магчымасць пазнаёміцца з новымі кніжнымі выданнямі, сустрэцца з беларускімі і замежнымі літаратарамі, журналістамі і выдаўцамі, паслухаць выступленні паэтаў і пісьменнікаў, творчых калектываў і выканаўцаў.






• *На сустрэчы з доктарам гістарычных навук Л. Лычом і паэтам Г. Ліхтаровічам*



• *Народныя танцы ў Магілёве*

**— Хто самыя актыўныя сябры вашай суполкі, памочнікі і паплечнікі?**

— Наталля Шамянкова, Марына Храмцова, Святлана Глухава, Сяржук Дымкоў, Таццяна Бушкова, Ірына Белаглазава, Алесь Сабалеўскі, Ала Кускова, Аляксей Карпенка, Таццяна Красоўская, Надзея Лук'янава, Алесь Касцюковіч, Алена Асмакоўская і іншыя.

**— У чым сакрэт поспеху культурніцкіх і асветніцкіх кампаній Магілёўскага ТБМ?**

— У нас усе працуюць на каманду, на агульную карысць. Людзі змаглі аб'яднацца і рабіць справу разам.

Наша Магілёўская арганізацыя ТБМ была зарэгістравана ў снежні 1989 года. Нядаўна мы адзначылі яе 30-годдзе. Дзеля гэтага каля сотні прыхільнікаў беларушчыны сабраліся ў магілёўскай кавярні «Неба», былі запрошаны вядомыя і паважаныя асобы, якія стаялі ля вытокаў стварэння ТБМ. На імпрэзу прыехалі старшыня ТБМ Алена Анісім і



• *На сустрэчы з Алегам Рудаковым*

ганаровы старшыня ТБМ, кандыдат гістарычных навук Алег Трусаў.

Сёння патрэбны яркія, харызматычныя выступоўцы, якія папулярызуць беларушчыну. Такія асобы заўсёды чаканыя як у сталіцы, так і ў рэгіёнах, публіка ахвотна збіраецца на іх выступленні.

Трэба ўмець прэзентаваць творы беларушчыны, якімі мы багатыя. Вельмі шкада, што ў сталіцы выдаюцца тоны літаратуры, яна ляжыць на паліцах, а ў рэгіёнах аўтараў не ведаюць і не чытаюць. Трэба ісці ў народ, ехаць да дзяцей і шкаляроў. Мы пастаянна запрашаем у Магілёў выбітных гісторыкаў і літаратараў. Калі такія асобы прыязджаюць, яны трымаюць увагу цэлай залы!

**— Чым быў адметны 2019 год?**

— Вясной і восенню прыязджалі да нас Эдуард Акулін і Леанід Дранько-Майсюк, Віктар Жыбуль і Андрэй Хадановіч, Юры Жыгамонт. Мы збіралі па школах поўныя залы.

Каб папулярызаваць пісьменніка і яго творчасць для школьнікаў, мы стараемся выбіраць цікавыя і яркія факты. У сакавіку мы правялі разам з гарадскімі ўладамі круглы стол па абмеркаванні праблемы навучання на беларускай мове.

У выніку ў 2019 годзе адкрылася яшчэ адна беларускамоўная група ў садку (24 чалавекі) і беларускамоўны клас на 6 дзяцей у школе №1, пры актыўным удзеле аддзела адукацыі і ідэалогіі.

У 2019 годзе мы ездзілі ў вандроўкі па Піншчыне, наведалі 16 мястэчак за два дні. У некаторых мясцінах мы пабачылі паркі са старажытнымі дубамі. Мы спыніліся ля дуба Боны Сфорцы і абхапілі яго ўсёй грамадой.

На юбілеі Коласа і Купалы мы дамовіліся з мясцовым кінатэатрам «Чырвоная Зорка», і яны паказалі стужкі пра нашых класікаў, а перад гэтым адбыўся канцэрт, на які сабралася 300 чалавек.

Кожны ліпень мы цэлай групай мы ездзім на Купалаў фэст у Радашковічы. Там ёсць магчымасць больш даведацца пра творчасць Янкі Купалы і Ядвігіна Ш., пра дзейнасць Аляксандра Уласава і Язэпа Лёсіка.



Да нас даволі часта прыязджаюць унучкі Якуба Коласа Марыя Міхайлаўна і Вера Данілаўна, наведвала нас Наталля Адамовіч. У лістападзе 2019 года мы прысутнічалі на адкрыцці помніка Алесю Адамовічу ў пасёлку Глуша пад Бабруйскам.

**— Спадар Алег, вы перыядычна арганізоўваеце ў Магілёве курсы экскурсаводаў. Якая ваша мэта?**

— Мая мара — падрыхтаваць беларускамоўных экскурсаводаў. Каб праводзіць экскурсіі на беларускай мове, недастаткова ёю валодаць. Трэба яшчэ ствараць вакол сябе асяроддзе тых, хто цікавіцца гісторыяй і хоча, каб пра яе апавядалі па-беларуску. Я імкнуся ствараць такія групы. Больш як за 10 гадоў працы ў мяне ёсць свае кліенты, якія замаўляюць экскурсіі на беларускай мове. Напрыклад, ёсць група байкераў, якія хочуць чуць аповеды пра гарады на беларускай мове. Аднойчы я правёў ім беларускамоўную экскурсію, і цяпер яны замаўляюць яе рэгулярна. Галоўнае ў працы экскурсавода — гэта любоў да Радзімы і ўменне перадаць яе іншым людзям!



• *Алег Дзьячкоў на Купалавым фэсце*

**— Спадар Алег, у вас у Магілёве ёсць яшчэ такая цікавая форма дзейнасці, як народныя танцы.**

— Народныя танцы — гэта не проста забаўка і актыўнасць, але канцэнтрацыя народнага досведу і культуры для найлепшага трэнінгу: фізічнага, маральнага і разумовага. Праграма танцавальных вечароў складаецца з дзясятка простых танцаў (полечка, кадрыля, крыжачок, лявоніха), якія выконваюцца пад электрапатэфон, а іншым разам завітвае мясцовы гарманіст з дударом. Праект «Беларускія народныя танцы ў Магілёве» распачала Вольга Чапіга з Наталляй Родзькінай, а зараз іх арганізацыяй займаецца Вольга Семчанка. Кіраўнік музея В. К. Бялыніцкага-Бірулі Святлана Строгіна з задавальненнем дае дазвол на пляцоўку і танчыць разам з усімі, патрэбны толькі зручны абутак і добры настрой.

Улетку да нас у госці прыязджалі беларусы з Іркуцка: Алег Рудакоў і Вольга Галаванава з этнаклуба «Крывічы». Удзельнікі гурта вырашылі даць другое жыццё традыцыйным абрадавым і пазаабрадавым спевам, якія выконваюць у старажытнай манеры продкаў-беларусаў. Алег



• *Алег Дзьячкоў у беларускамоўным класе СШ № 34 Магілёва*

Рудакоў цікава распавёў пра гісторыю свайго шляху да беларускасці, пра стварэнне суполкі беларусаў у Іркуцку, пра этнаграфічныя экспедыцыі па ўнікальных вёсках Сібіры, дзе гавораць на добрай беларускай трасянцы і захоўваюць у куфрах нацыянальныя строі.

**— А як складваецца ваша асабістае жыццё?**

— Нашаму з Таццянай сыну Янушу ўжо тры годзікі. Ён нарадзіўся 31 студзеня 2017 года.

### Штогод — крочым у паход!

Даўно заклалі магілёўцы традыцыю краязнаўчых вандровак па Беларусі. З пачатку 2000-х гадоў Алег Дзьячкоў імкнуўся прывезці сваіх сяброў у Мінск, каб паспець у Купалаўскі тэатр на прэм’еру новага спектакля і наведаць Ніла Гілевіча, альбо правесці экскурсію па месцах, звязаных з заснаваннем БНР. Іншым разам спадар Алег прывёз сваю грамаду ў бібліятэку Чырвонага касцёла на сустрэчу з Васілём Зуёнкам. Па дарозе ён спяшаўся набыць кнігі паэта ў Цэнтральнай кнігарні, каб усе маглі пазнаёміцца з вершамі і атрымаць аўтографы аўтара. У 2017 годзе, перад тым як завітаць на Дзень пісьменства ў Заслаўі, грамада наведала лецішча Васіля Быкава ў Ждановічах. Экскурсію правёў для магілёўцаў літаратуразнаўца Алесь Гібок-Гібкоўскі.

•*Алег з сынам Янушам*



У іншы прыезд у Мінск Алег і яго сябры выправіліся на экскурсію на Кальварыйскія могілкі разам з пісьменніцай Людмілай Рублеўскай і паэтам Віктарам Шніпам.



• *Беларуская паэзія сілкуе дух*

Запомнілася апантанай грамадзе двухдзённае падарожжа па месцах, звязаных з дзейнасцю філаматаў і філарэтаў, калі яны наведвалі мясціны, знітаваныя з жыццём і творчасцю Адама Міцкевіча: Завоссе – Карчова – Туганавічы – возера Свіцязь – Валеўку – Наваградак. На радзіме Адама Міцкевіча ў Завоссі незабыўную экскурсію-лекцыю для групы магілёўцаў правёў дырэктар сядзібы-музея А. Міцкевіча Анатоль Еўмянькоў. На Смаленшчыне, на Манастыршчыне яны наведвалі радзіму Адама Кіркора.

«Шостага ліпеня жыхары Магілёва мелі магчымасць пракаціцца па цэнтры горада на святочным тралейбусе імя Янкі Купалы, — паведамляў мясцовы сайт. — У транспарце зусім не бралі грошы за праезд, а з дынамікаў увесь час гучалі вершы славутага класіка.

Такую акцыю з нагоды 125-годдзя вялікага паэта зладзіла магілёўская арганізацыя Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны. Арандаваўшы на паўтары гадзіны звычайны тралейбус, арганізатары каталі на ім усіх жадаючых па маршруце: плошча Арджанікідзе — Чыгуначны вакзал.




• *Магілёўцы на Дне пісьменства ў Рагачове*

Сам тралейбус быў упрыгожаны вялізным каляровым плакатам з вывявай класіка і надпісам: «Да 125-годдзя Янкі Купалы». Салон аздобілі паветранымі шарыкамі. На ўваходзе ўсім пасажырам раздавалі брашуры, прысвечаныя жыццю і творчасці паэта. У салоне ж увесь час гучалі яго вершы.

— Мы чыталі вершы праз мікрафон, а таксама прапаноўвалі зрабіць гэта самім пасажырам, — распавёў Алег Дзьячкоў. — Людзі ахвотна згаджаліся. Увогуле, на гэтую ідэю нашу народ рэагаваў вельмі пазітыўна, дзякаваў за ўсё.

Не абышлося і без кур'ёзаў. Усім, хто ўваходзіў у тралейбус задавалася адно і тое ж пытанне: «Які твор Купалы пра Магілёў вам вядомы?» Толькі адна дзяўчына адразу ж упэўнена заявіла: «Паэма "Магіла Льва". Гэта ж ўсе ведаюць!» Як аказалася, не ўсе.

Падобная ідэя ўшанавання беларускіх класікаў у магілёўскага ТБМ не адзіная. У іх ёсць таксама супольны праект з мясцовым тэлеканалам «Магілёў-2», дзе кожны жадаючы можа ў эфіры прачытаць вершы Купалы і Коласа», — паведамлялася ў друку.

«Першую краязнаўчую экскурсію на роварах па цэнтры Магілёва з беларускамоўным экскурсаводам-краязнаўцам Алегам Дзьячковым зладзіла магілёўская арганізацыя ТБМ і кампанія "Вандруем разам" пры актыўнай падтрымцы ровараправату "Вазьмі пакатацца"», — паведаміла газета «Наша слова» ў ліпені 2015 года. Удзельнікамі вандроўкі сталі каля 100 чалавек. Збор быў прызначаны каля ратушы, затым усе наведалі Замкавую гару, вал ракі Дубровенкі ля Брамнага завулка, гандлёвую плошчу. Пачулі расповед пра першы мост Мікалая Ястрэмбскага, Школішча, касцёл Святога Антонія, Пакроўскую царкву XVII стагоддзя.



• *Магілёўцы на роварнай экскурсіі*

Затым адбыўся невялічкі экскурс у Магілёў магдэбургскі. Далей па вале Каніскага ўдзельнікі рушылі да Спаскага манастыра. Пасля — да Багаяўленскага манастыра, Фар-





• *У касцёле з біскупам Аляксандрам*

нага касцёла Святога Казіміра. На пешаходнай вуліцы Вялікай Садовай вандроўнікі пачулі гісторыю ўзнікнення герба Магілёва 1661 года.

Затым грамада наведала месца Езуіцкага калегіума XVII стагоддзя, касцёла Святога Ксаверыя XVIII стагоддзя, Тэатральную плошчу, вуліцу Віленскую, Барысаглебскую царкву і Крыжаўздзвіжанскую царкву. Наступны прыпынак быў каля габрэйскай вучэльні пачатку XX стагоддзя, месца Быхаўскай брамы, праваслаўныя Успенскія могілкі, дзе пахаваны прадстаўнікі дынастыі Валовічаў і вядомыя магілёўскія дзеячы XIX–XX стагоддзяў. Гартынскія. Потым на Заваллі ўсе дакрануліся і набраліся моцы ў самага старога дрэва ў горадзе — 300-гадовага дуба. І напрыканцы спыніліся на Пелагееўскам гарадзішчы, завяршылася вандроўка на брукаваным Менскім тракце каля гатэля «Магілёў».

Адзін з бліжэйшых сяброў Алега Дзьячкова — Сяржук Дымкоў. Ён прадпрымальнік, скончыў Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт.

«Мы першымі паступілі на спецыяльнасць "Дзяржаўнае і муніцыпальнае кіраванне", — згадвае Сяржук. — У нас быў вельмі харызматычны дэкан Анатоль Сідаравіч Канашэвіч. Ён захапіў нас сваёй прамовай на дзень адчыненых дзвярэй. Беларушчынай я зацікавіўся праз свайго сябра і праз выкладчыка. Гісторык і археолаг Ігар Марзалюк выкладаў у нас на факультэце па-беларуску, лекцыі яго былі яскравымі.

У 2002 годзе я ўпершыню паехаў у вандроўку. Мяне здзівіла тое, што я пабачыў і пачуў. Ніколі не сустракаў такіх прыгожых мясцінаў! Касцяк грамады быў беларускамоўны. З той пары я крочу па жыцці разам

з беларушчынай. Займаюся рэкламай мерапрыемстваў, вырабам паліграфічнай прадукцыі, афіш, буклетаў, фірма распрацоўвае сувенірную прадукцыю.

Калі мы ездзілі ў Смаргонь і Залессе ў 2009 годзе, упершыню я арганізоўваў вандроўку самастойна. Гэта быў адзін з удалых і шчаслівых дзён у маім жыцці! Склад тых, хто вандруе, змяняецца. Першыя вандроўкі былі пераважна моладзевыя. Цяпер падарожнічае больш людзей сталых, заможных, далучаюцца пенсіянеры, у якіх багата часу», — кажа Сяржук Дымкоў.

# САКРАЛЬНАЯ ТВОРЧАСЦЬ



## ПЯШЧОТНЫ ДОТЫК ВЫШЭЙШАЙ ЛАСКІ

*У Чырвоным касцёле ў Мінску ў жніўні 2018 года праходзіла выстаўка ікон і карцін вядомай мастачкі з Маладзечна Ядвігі Сенько. Яе пэндзлю належаць больш за 2000 ікон і карцін з біблейскімі сюжэтамі. Яе велічны абраз Маці Божай Будслаўскай знаходзіцца ў алтары касцёла Святых Сымона і Алены.*




• *Ікона Маці Божай Будслаўскай — у алтары касцёла св. Сымона і Алены*

*Пані Ядвіга мае дабраславенне Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта на духоўную творчасць. У жніўні 2018 года выстаўка яе ікон і карцін экспанавалася ў Валожынскім краязнаўчым музеі.*

*На Беларусі прайшло больш за 200 яе выставак у розных культурных установах і парафіях. Працы Ядвігі Сенько знаходзяцца ва Украіне, Расіі, Арменіі, краінах Балтыі, Францыі, Польшчы, Бельгіі, Італіі, ЗША. У 2012 годзе іконы і карціны Ядвігі Сенько экспанаваліся ў Арменіі ў мастацкай галерэі г. Алаверды, у г. Ванадзоры і ў Ерэване. За асабісты ўклад у развіццё беларуска-армянскіх культурных сувязяў Ядвіга Сенько была ўдастоена падзякі і дыплома. Яна атрымала званне правадзейнага члена Міжнароднай Акадэміі экалогіі, мастацтва і архітэктуры.*

*Мастачка піша спісы з усіх вядомых у праваслаўным свеце ікон. Яна працуе таксама ў жанры нацюрморта і пейзажа. Яе натхнёным пэн-*



• ???

*дзлем створаны больш за 600 кветкавых кампазіцый і букетаў, відаў храмаў. Працы Ядвігі Іванаўны захоўваюцца ў прыватных калекцыях розных краін.*

*Выяву санктуарыя Божай Міласэрнасці ў Лагеўніках, створаную пані Ядвігай для касцёла Святых Сымона і Алены ў Мінску, асвячаў прэфект Кангрэгацыі па справах біскупаў кардынал Марк Уэлле (Канада). У сонечны жнівеньскі дзень мы сустрэліся з пані Ядвігай ля Чырвонага касцёла.*

**— Пані Ядвіга, вы імкняцеся напоўніць свет дасканаласцю і гармоніяй. Светлы жаночы погляд на праваслаўныя і каталіцкія абразы — адкуль ён ідзе? Магчыма, ад пяшчоты матулі, сястры?**

— Сапраўды, так. Маёй матулі Яніне Адамаўне Кадушкевіч хутка споўніцца 88 гадоў. У маладосці яна была вельмі прыгожай. У яе нас трое, тры дачкі. З самага юнацтва яны шыла нам пекныя строі. Закладзены ёй эталон прыгажосці скіроўвае мяне на тое, каб зрабіць усё вакол



прыгожым. Абстаноўка і асяроддзе ў маёй двухпакаёвай кватэры ствараюць камфортныя ўмовы для працы: светлая мэбля, люстэркі. Акружэнне дапамагае займацца жывапісам. Я павінна несці культуру людзям. Упэўнена, што жанчына павінна быць акуратнай і дасканалай. Прыгожы і гарманічны чалавек нясе толькі дабро ў свет.



• *Ядвіга Сенько*

**— Дазвольце даведацца, адкуль вы родам?**

— Я нарадзілася ў Палачанах на Маладзечаншчыне ў сям'і вернікаў-каталікоў. З 1961 года я жыву ў горадзе Маладзечне. У дзяцінстве мы ўсей сям'ёй ездзілі ў касцёл Небаўзяцця Дзевы Марыі ў пасёлку Чырвоным. Наш тата Ян Аляксандравіч быў сталяром, майстрам на ўсе рукі. Ён дапамагаў касцёлу Святога Юзафа ў Маладзечне і іншым касцёлам Беларусі. Яго адпраўлялі ад фабрыкі, і тата аздабляў іканастас у царкве Успення Прасвятой Багародзіцы ў Маладзечне. Ён меў бачанне, як будаваць, у хаце рабіў сваім рукамі ўсю мэблю. Маму цягнула да малявання. Я марыла быць артысткай, хадзіла ў тэатральную студыю. Бабуля першай заўважыла мае схільнасці да малявання.

**— Традыцыі веры вы захавалі ад бацькоў?**

— З дзяцінства нам, дзецям, былі перададзены ўсе традыцыі веры — і першая святая камунія, і захаванне посту, і шанаванне абраза і ўсіх рэлігійных святаў. Безумоўна, мне гэта вельмі дапамагло ў жыццёвых сітуацыях і пры напісанні ікон.

Прыемныя ўспаміны засталіся з дзяцінства: чаканне Божага Нараджэння, куцця, калі вечарам усёй сям'ёй садзіліся за вігілійны стол… Чаканне калядных падарункаў раніцай пад елкай… Свята Уваскрэсення Хрыстовага, якое пачыналася ў касцёле ўсяночнай службай да раніцы. А перад святам Святой Тройцы бацька прыносіў дадому бярозавыя галінкі.

**— Як развівалася ваша захапленне жывапісам?**

— Я займалася ў студыі Юрыя Герасіменкі-Жызнеўскага, потым скончыла факультэт выяўленчага мастацтва (аддзяленне станкавага жывапісу і графікі Маскоўскага інстытута мастацтваў завочна). Да 1997 года я працавала мастаком-афарміцелем на прадпрыемстве, пісала плакаты і наглядную агітацыю. Першая мая ікона — Сэрца Марыі — захавалася. Яна была напісана мной у 20 гадоў.

У момант скарачэння на працы я знайшла аб'яву, якая запрашала да супрацоўніцтва іканапісцаў у першую ў рэспубліцы краму духоўнай



• *Маці Божая Жыровіцкая*

літаратуры «Праваслаўная кніга». Дырэктар арганізацыі «Хрысціянская ініцыятыва», заснавальнік кніжнай крамы Уладзімір Уладзіміравіч Чартовіч пазнаёміўся з маімі працамі і даў мне заданне напісаць ікону Божай Маці Скорапаслушніцы. Я ехала дадому з радасцю. Паступова пачала атрымліваць заказы на стэнды вялікага памеру, на іконы для цэркваў, а таксама для асобаў, якія жадалі мець той ці іншы абраз у сябе дома. Мы супрацоўнічалі з 1997 па 2009 год, у «Праваслаўнай кнізе» праходзіла выстаўка-продаж маіх прац. Вялікія карціны метровага памеру набывалі святары з розных прыходаў. Я працавала па заданні і прыслухоўвалася да патрабаванняў.

**— У той час аднаўляліся і будаваліся храмы ў розных куточках Беларусі.**

— І была вялікая патрэба ў іконах. Аднойчы, каб паглядзець узор, я пайшла ў нашым горадзе ў царкву Успення Прасвятой Багародзіцы. Мужчына ў кіёску ў звычайнай вопратцы распытаў мяне, з якой мэтай я шукаю ікону. Аказалася, што гэта быў настаяцель прыхода.

Я крыху разгубілася. Бацькі выхавалі нас у павазе да святароў. Але ўсе мае родныя былі католікамі, і я не ведала, як сябе паводзіць.

— Давайце будзем пісаць! — сказаў бацюшка. І мы пісалі. Праз увесь горад для мяне людзі неслі вялізныя лісты ДВП. З’явіліся выявы: Хрышчэнне Ісуса, Серафім Сароўскі, Еўфрасіння Полацкая, св. Георгій Пераможца, святыя апосталы Пётр і Павел, святы прарок Ілля, святыя Віленскія пакутнікі, разам больш за 30 ікон. Я пішу таксама алеем на палатне, бо ўпэўнена, што праца можа захавацца на сто гадоў. Пісаць па тынкоўцы менш надзейна. Лічу, што трэба вельмі адказна падыходзіць да сваёй працы.

Шмат ікон створана мной для храма Нараджэння Хрыстовага ў горадзе Маладзечне. Гэта іканастас, святая Ксенія Пецярбургская, Матрона Маскоўская, Сафія, Вера, Надзея і Любоў, Еўфрасіння Полацкая. У новай царкве Георгія Пераможцы ёсць таксама мае працы. Стараюся ахвяраваць храмам хоць адну ікону. Усё, што мы пакідаем на зямлі, застаецца пасля нас. Дзякуючы працы ў «Праваслаўнай кнізе» я зразумела еднасць традыцый праваслаўных і каталікоў. Мой муж Сяргей — праваслаўны. Ён грунтуе для мяне халсты, робіць рамы. Мітрапаліту Паўлу, калі ён наведваў Маладзечна я перадала ў дар ікону святога апостала Паўла.



**— Вы пішаце абразы Маці Божай, Найсвяцейшай Панны Марыі. Шматлікія выявы яе, як каталіцкія, так і праваслаўныя, дэманструюць пашану да Маці Божай, якая захоўваецца ў сэрцах вернікаў.**

— Лічаць, што існуе больш за 200 праваслаўных выяў Маці Божай. Аднойчы ў мяне заказаў іконы мецэнат з Пецярбурга, ён замовіў 50 ікон, бо іх калекцыянаваў. Тады я пісала рэдкія выявы Маці Божай. Розныя працы — добрая практыка. Мастак заўсёды імкнецца пісаць новую працу і больш складаную. Белы холст прыцягвае, і пачуццё страху пераадольваецца. Наношу алоўкам контур, жывапіс ствараю алеем, ідзе штодзённы працэс. Вядомыя іконы — Вастрабрамская і Будслаўская, Гудагайская і Браслаўская — атрымліваюцца строгія, аскетычныя, адпаведна колеру металу. Я супрацоўнічаю з сёстрамі-назарэцянкамі з Гародні. Для іх я напісала ікону заснавальніцы назарэцянскага ордэна Францішкі Седліскай, 11 наваградскіх пакутніц, сёстраў-назарэцянак.

**— Вашы працы падарожнічаюць па краіне і радуюць гледачоў у розных яе кутках.**

— Выстаўкі дазваляюць мне знаёміцца з новымі людзьмі і святарамі. У горадзе Мсціславе Магілёўскай вобласці айцец Цімафей, настаяцель храма Тупічэўскай Маці Божай, сяброўе з дырэктарам гісторыка-краязнаўчага музея. Ён даў заказ напісаць іканастас, які складаецца з 16 ікон, і яшчэ 11 ікон для царквы, у тым ліку рэдкі абраз Божай Маці Тупічэўскай. Такая мая значная праца захоўваецца ў Магілёўскай вобласці. Іконы, напісаныя мной, можна убачыць у касцёлах і цэрквах на Беларусі і не толькі… Я гэтым жыву, пра гэта чытаю, і ўжо не змагу пражыць без маленькага Езуса, без Мадон. Яны ствараюць мой



• *Маці Божая Будслаўская*

унутраны свет і маё асяроддзе. Цяпер я пачала пісаць больш каталіцкіх ікон.

Я суправаджаю выстаўку тэкстам з кароткім апісаннем ікон. Навуковыя супрацоўнікі музея чытаюць лекцыі на духоўныя тэмы для школьнікаў і інтэлігенцыі. Адначасова дзве мае выстаўкі перамяшчаюцца па розных гарадах. Трэцяя выстаўка называецца «Кветкавы рай». Я падрыхтавала яе да аднаго са сваіх юбілеяў, і зараз яна экспануецца ў карціннай галерэі ў горадзе Бярозе Брэсцкай вобласці, у верасні яе пабачаць жыхары Івацэвічаў. Мае выстаўкі іканапісу і кветкавых кампазіцый праходзілі не толькі ў малых гарадах Беларусі, але і ў Віцебску ў музеі М. Ф. Шмырова, у Мінску ў Нацыянальным гістарычным музеі, у музеі Якуба Коласа, у галерэі «Універсітэт культуры» ў Палацы Рэспублікі. У 2016 годзе праходзіла мая выстаўка ў галерэі Гаўрыіла Вашчанкі ў Гомелі.

## Зварот да першавобраза

Прамінуў час, за які карціны і іконы Ядвігі Сенько ўпрыгожылі мастацкія галерэі і музеі па ўсёй краіне. На цэлы год наперад распісаны падарожжы цудоўных выяў, якія, як праменьчыкі святла, даходзяць у самыя розныя куткі нашай краіны.

**— Ядвіга Іванаўна, раскажыце, калі ласка, дзе праходзілі выставы вашых прац за апошнія два гады.**

— За два гады прайшло 38 выстаў ікон і карцін у розных гарадах Беларусі. Гэта былі выстава карцін пад назвай «Кветкавы рай» і новая выстава, якая ўпершыню была прадстаўлена ў музеі Ф. Багушэвіча ў Ашмянах у сакавіку 2020 года пад назвай «Свет душы маёй».

Мае іконы змаглі ўбачыць у Віцебскай вобласці, у такіх гарадах, як Міёры, Шаркаўшчына, Браслаў, Полацк, Шуміліна, Гарадок, Лёзна, Віцебск, Сянно, Талачын. У Магілёўскай вобласці — у музеі горада Круглае, у галерэі Уладзіміра Стальмашонка, у Асіповічах і ў абласным краязнаўчым музеі Магілёва.

У Мінскай вобласці прайшлі выставы іканапісу ў музеі Валожына, у касцёле Святога Язэпа ў Маладзечне, у карціннай галерэі ў Мар’інай Горцы і ў музеі Якуба Коласа ў Мінску.

На Гомельшчыне мая выстава іканапісу пабывала ў Чырвоным Беразе, Светлагорску, Рэчыцы, Калінкавічах, Лельчыцах і Тураве.

Выстава карцін «Кветкавы рай» экспанавалася ў Бярозе, Івацэвічах і Пружанах Брэсцкай вобласці, у Гродзенскай вобласці — у Свіслачы,



Вялікай Бераставіцы, Мастах, Іўі, Ашмянах, у сядзібе М. К. Агінскага ў Залессі і ў Мінскай вобласці ў Вілейцы. За два гады адбылося шмат прыемных сустрэч і новых знаёмстваў.



• *Святая Цэцылія*

Адной з такіх незвычайных сустрэч было знаёмства з архіепіскапам Полацкім Феадосіем і святарамі Шаркаўшчынскага раёна ў Вялікасельскай школе. Калі дырэктар школы Юрый Часлававіч Матуль прапанаваў мне арганізаваць выставу ў яго школе, я разгубілася, але, пагутарыўшы з гэтым дзіўным таленавітым чалавекам я нечакана для сябе пагадзілася і паехала на прэзентацыю сваіх прац у маленькую школу, пра што нікольві не пашкадавала, а наадварот, атрымала масу станоўчых эмоцый.

Упершыню ў маёй практыцы мне не трэба было распавядаць пра абразы, прадстаўленыя на выставе. Кожны вучань пра кожную ікону сказаў сам шчыра, з трапятаннем і хваляваннем!

Вядома, запомніліся сустрэчы з выдатным калектывам музея ў Бярозе і ў Браславе, у Мастах і ў Залессі ў сядзібе М. К. Агінскага. Пакінулі цёплыя ўспаміны сустрэчы ў Полацку і ў Мар’інай Горцы. А ў Асіповічах памятнай была сустрэча з айцом Максімам, цікавым чалавекам і суразмоўцам. А ў пачатку сакавіка 2020 года на прэзентацыі новай выстаўкі «Свет душы маёй» у Ашмянскім краязнаўчым музеі зноў адбылася сустрэча з цікавымі асобамі: айцом Пятром і ксяндзом Янам, з якімі я ўжо была знаёмая па ранейшых выставах.

**— Увесь гэты час працягвалася натхнёная творчая праца?**

— Так. За гэты час напісана вельмі шмат новых прац. Але самы значны — мой новы праект «Свет душы маёй» мая выстава, якая была прадстаўлена ў сакавіку–красавіку 2020 года ў музеі імя Ф. Багушэвіча ў Ашмянах, а цяпер знаходзіцца ў Музеі нацыянальных культур у Іўі. На выставе прадстаўлены 36 работ — 12 абразоў каталіцкіх, 12 праваслаўных і 12 храмаў Беларусі. Далей выстава перамесціцца ў горад Масты, пабывае ў Ваўкавыску, Вялікай Бераставіцы, у горад Свіслач, а Нараджэнне Хрыстова сустрэне ў Пружанскім маёнтку ў Брэсцкай вобласці.



• *Маці Божая — Каралева Азёраў*



• *Летні настрой*

Адна з выстаў іканапісу знаходзіцца ў Тураве, а далей вяртаецца на Міншчыну і ў чэрвені будзе дэманстравацца ў музеі ў Салігорску. Іншая выстава іканапісу «Святло ікон» экспануецца цяпер у гісторыка-краязнаўчым музеі Шклова, а далей пераедзе ў Горкі, Мсціслаў, Крычаў і г. д. А выстава «Кветкавый рай» да канца года будзе падарожнічаць па музеях Віцебскай вобласці. На сённяшні дзень у мяне чатыры выставы.

**— Вы рупіліся, каб аздобіць самыя розныя храмы нашай краіны.**

— Мае іконы знаходзяцца ў касцёле Святой Паны Марыі ў Вярэйцы, у касцёле Святога Архангела Міхаіла ў Міхалішках, у касцёле Святых Анёлаў-ахоўнікаў у Раготне Гродзенскай вобласці, у манастыры сясцёр-назарэцянак у Гродне, у Нацыянальным санктуарыі Маці Божай Будслаўскай, у браслаўскім касцёле Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі, у касцёлах у Даўгінаве, у Іллі, у Мар'інай Горцы, у касцёлах Альковічаў, Сцешыц і Касцяневічаў Вілейскага раёна, у касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Багародзіцы ў пасёлку Чырвонае, у касцёле Святых Сымона і Алены ў Мінску, у Цэнтры сям'і пры касцёле Божай Маці Будслаўскай у Мінску, у капліцы ў Мачулішчах і інш.

Шмат абразоў напісана мною для царквы Унебаўзяцця Найсвяцейшай Багародзіцы, Царквы Раства Хрыстова ў Маладзечне. У маладзечанскай царкве Святога Георгія, а таксама ў шматлікіх цэрквах Маладзечанскага раёна можна ўбачыць абразы ў маім выкананні. Мае іконы знаходзяцца ў цэрквах Клецкага, Вілейскага, Стаўбцоўскага і Баранавіцкага раёнаў, у пасёлку Мір, у царкве Увас-



красення Хрыстова ў Ашмянах, у Валожыне. Шмат абразоў, напісаных мною (у тым ліку і іканастас), знаходзяцца ў царкве Божай Маці Тупічэўскай у Мсціславе і больш за 20 ікон — у храмах Гомельскай вобласці і інш.

**— Вашы іконы адорваюць спакоем і ласкай тых, хто прыходзіць да іх.**

— Лік Багародзіцы напамінае, якой павінна быць сапраўдная любоў: міласэрнай, доўгацярплівай. Нагадвае і пра якасці, якія павінны быць уласцівы жанчыне.

У кожнага, хто прыходзіць да ікон — свае думкі. Але людзі найперш малітоўна звяртаюцца да першавобраза — да Госпада і Маці Божай. Калі ікона асвечана — яна становіцца часткай багаслужэння. Напісаную мной ікону святой Кацярыны асвячаў біскуп Юры Касабуцкі. Калі іерархі касцёла асвячаюць мае іконы, я адчувае сябе пясчынкай у вялікім моры народным і мне здаецца, што не я напісала іх, а мне дапамагалі вышэйшыя сілы.

Я назірала, з якім хваляваннем і трапяткімі пачуццямі падыходзяць людзі да іконы ў храме, цалуюць яе. Аднойчы я стала сведкай кранальнага выпадку. Дзеці з прытулку, чые бацькі былі пазбаўлены правоў, на выстаўцы падышлі да маіх ікон і звярнуліся да Маці Божай з просьбай вярнуць ім маму і тату.

**— Вашы працы ўпрыгожваюць храмы ў іншых краінах. Як яны туды трапляюць?**

— Людзі робяць заказы напісаць ікону ў падарунак да дня хрышчэння ці вянчання, дораць сваім родным і сябрам, якія жывуць у іншых краінах.

Мае іконы і карціны знаходзяцца ў Расіі, краінах Балтыі, ва Украіне, Арменіі, Польшчы, Германіі, Італіі, Францыі, Бельгіі, ЗША, Іспаніі, Сінгапуры і нават у Гандурасе (куды з'ехаў былы Апостальскі нунцый у Беларусі Габар Пінтэр, якому каталіцкае духавенства ў Мінску падаравала абраз Божай Маці Будслаўскай, напісаны мной). А ў Арменіі ў 2013 годзе была



• *На свяце ў Браславе*

пабудавана невялікая капліца ў гонар Святога Рыгора Армянскага, і там ёсць мая ікона.

**— Якія храмы роднага краю вам найбольш дарагія і блізкія?**

— Складана сказаць, бо кожны храм мае сваю гісторыю, свой стыль. Касцёл Святога Міхаіла Архангела ў Міхалішках блізкі мне архітэктурай у стылі барока і пышным унутраным убраннем. Дарагі ён мне, напэўна, і таму, што там ёсць маленькая часцінка маёй душы — два вялікія алтарныя абразы (у левым і ў правым алтарах), напісаныя мною.

Касцёл Небаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў пасёлку Чырвонае, якому больш за сто гадоў, заўсёды быў адчынены для вернікаў. Ён дарагі для мяне як касцёл майго дзяцінства. Калі я была ў Будславе на асвячэнні маёй іконы святой Кацярыны, я адчула, што пра нешта забылася. А мне кажуць: так ты ж пакінула святую Кацярыну! Люблю бываць у касцёле Святых Сымона і Алены — ён крышачку мой.

А калі мае абразы дэманстраваліся ў Браславе, я з задавальненнем паехала туды, каб пабываць у касцёле Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі. Мяне вельмі хвалюе ўрачыстасць у Браславе.

Некалькі гадоў таму я пісала для храма абраз Божай Маці Каралевы Азёр, якую працэсіяй праносяць па горадзе штогод у канцы жніўня. Мне вельмі хацелася на свае вочы ўбачыць арыгінал гэтага абраза, які знаходзіцца ў алтары касцёла…

Дарэчы, прадстаўленыя на маёй новай выстаўцы храмы — гэта і касцёл у Міхалішках, і касцёл у Чырвоным, Браслаўскі касцёл і касцёл Святых Сымона і Алены.

Я бываю і ў праваслаўных цэрквах. На мой погляд, кожны храм — гэта месца яднання з Богам, дзе пануе атмасфера чароўнага спакою і прымірэння. Адзін са святароў сказаў мне: «Пані Ядвіга, вы — міратворац!», бо я лічу, што ўсе хрысціянскія канфесіі павінны жыць у згодзе. Вядома ж, храмы, дзе знаходзяцца напісаныя мною іконы, мне найбольш дарагія.



• *Мітрапаліт Павел — на выставе ікон Ядвігі Сенько*



Як быццам нябачнай нітачкай я звязаная з імі. Як і з тымі гарадамі, дзе праходзяць мае выставы. І з тымі людзьмі, у якіх знаходзяцца ў прыватных калекцыях мае іконы і карціны.

**— Ці адчувалі вы выпадкі дабратворнай Божай дапамогі ў час працы?**

— Божая дапамога прысутнічае практычна ўвесь час. Я навучылася быць удзячнай Богу за ўсё. Вядома, не ўсё гладка і проста ў нашым свеце, ёсць складанасці, імгненні засмучэння і разгубленасці, але веру, што калі імкнуцца жыць паводле запаведзяў Божых, то ўсё атрымаецца. У патрэбны момант прыходзяць патрэбныя людзі, знаходзіцца рашэнне ў, здавалася б, невырашальнай сітуацыі. Часам палохае белае палатно вялікага памеру, падрыхтаванае для новай іконы. А потым адзін штрых, другі. Дзень, два, тыдзень — і вынік…

Дзякуючы Табе, Госпадзе, усё атрымалася! Праходзіць час, і глядзіш на працу, якая выканана быццам бы табой, але… разумееш, што гэта магчыма толькі з Божай дапамогай.

**— Напэўна, вам запомніліся цікавыя сустрэчы з наведвальнікамі вашых выставак?**

— Заўсёды, вядома, прыемныя сустрэчы з супрацоўнікамі музеяў, бо часцей за ўсё ў музеях і галерэях працуюць творчыя натуры, крэатыўныя, неабыякавыя. І гэта вельмі добра, таму што такія сустрэчы — абмен навінамі, ідэямі. У кожным горадзе, куды б я ні прыязджала, заўсёды гасцінна сустракалі і распавядалі гісторыю не толькі свайго горада, музея, але і храмаў свайго раёна. Прыемна, калі на прэзентацыі прысутнічаюць прадстаўнікі адміністрацыі горада і духавенства. Выдатна, калі ёсць магчымасць па запрашэнні святароў наведаць храм у тым ці іншым горадзе. А наведвальнікі выставак — самыя розныя людзі.

…Мае іконы і карціны можна ўбачыць на сайце ў інтэрнеце: http://yadviga.belhost.by/ Заўсёды буду несці людзям святло!

**— Дзякуем, пані Ядвіга, і жадаем вам творчых поспехаў і новых прац!**

# СВЯТАР АРГАНІЗУЕ ФЕСТЫВАЛІ ХРЫСЦІЯНСКАЙ КУЛЬТУРЫ І ПАМЯЦІ ГРАФІНІ ГАБРЫЭЛІ ПУЗЫНІ



• *У касцёле Божага Цела ў Беразінскім*

*У мястэчку Беразінскае Маладзечанскага раёна пры касцёле Божага Цела закладзена традыцыя праводзіць фестываль хрысціянскай культуры «Laudato Si» з 2016 года і салонны творчы вечар памяці графіні Габрыэлі Пузыні з 2019 года.*

*Фестываль «Laudato Si» збірае хрысціянаў розных канфесій, каб правесці свята хрысціянскай культуры, сабраўшы ў кола творчых і таленавітых людзей са свету музыкі, мастацтва, літаратуры, кінамастацтва і традыцыі. На працягу года адбываюцца канцэрты, выставы, майстар-класы, конкурсы і дзяленне сведчаннем веры ў Бога і здаровага ладу жыцця.*

*З 2019 года праводзяцца творчыя вечарыны памяці графіні Габрыэлі Пузыні — «Салон у Габрыэлі». Тут збіраюцца музыкі, мастакі, літаратары, навукоўцы. Адбываюцца канцэрты арганнай музыкі, спеваў, выставы мастакоў, дэкламацыі літаратурных твораў Габрыэлі Пузыні і яе сяброў. Праходзіць святая імша-рэквіем за графіню Габрыэлю і памерлых з творчай інтэлігенцыі. Пры парафіі ствараецца бібліятэка імя Габрыэлі Пузыні, у склад якой уваходзяць творы яе самой, яе сяброў і шанавальнікаў, тагачасных і сучасных. Мастак і музыка Алесь Лось, сябра парафіі, стварае гістарычную экспазіцыю пра парафію і мецэнатку Габрыэлю Пузыню. У касцёле ёсць сучасныя лічбавыя арганы, на якіх грае адзін з лепшых касцельных арганістаў — Андрэй Міхневіч.*

*Арганізатар фестывалю «Laudato Si», пробашч парафій у Баразінскім і Палачанах ксёндз-канонік Сяргей Бараўнёў распавёў пра парафію і сваё служэнне:*



• *Ксёндз-канонік Сяргей Бараўнёў*

— Наша парафія невялікая, але яе гісторыя пачыналася ў 1443 годзе. Тады цэнтр з касцёлам быў у Гарадзілаве. Пасёлак Беразінскае ўзнік у 50-х гадах мінулага стагоддзя, калі пабудавалі торфабрыкетны завод, і палову населенага пункта Гарадзілава назвалі Беразінскае. Некалі тут быў маёнтак графіні Габрыэлі Пузыні. Яна была выдатнай асобай, якая мела вялікае значэнне для культуры ў XIX стагоддзі, — была паэткай і пісьменніцай. Падвісвалася псеўданімам «У Імя Божае» («W Imię Boże» называўся першы зборнік яе вершаў, выдадзены ў Вільні ў 1843 годзе). Яна плённа працавала ў розных жанрах літаратуры: паэзіі, прозе, драматургіі, мемуарыстыцы.

З ёй сябравалі творчыя людзі, яе блізкія сябры: Станіслаў Манюшка, Тамаш Зан, графы Тышкевічы, князі Агінскія, Ян Чачот, Уладзіслаў Сыракомля. У яе маёнтку ладзілі салонныя вечары. Графіня была пахавана пры старым касцёле, але ён пазней быў знішчаны. Другі касцёл быў пабудаваны ў 1920-х гадах і зруйнаваны ў 1950-х. Сучасны касцёл быў пабудаваны ў 2010–2013 гадах на іншым месцы — у Беразінскім.

**— Раскажыце, калі ласка, як ішло ўпрыгожванне касцёла Божага Цела ў Беразінскім.**

— Маладая мастачка Валерыя Сарнаўская намалявала цэнтральныя абразы для касцёла — Міласэрнага Езуса Хрыста і Вастрабрамскую Маці Божую. З іх цячэ ручай веры, надзеі і любові, чысціні і радасці, і людзі акунаюцца ў цеплыню гэтых абразоў.



• *Будынак касцёла*

Перад тым як выбраць мастака, здольнага ўвасобіць Пасхальную Містэрыю і Крыжовы Шлях, я паставіў шэраг крытэрыяў. Па-першае, гэта павінен быць мастак беларускай жывапіснай школы са спалучэннем каталіцкай і праваслаўнай традыцый, па-другое — чалавек з жыццёвым досведам. Гэтым патрабаванням адпавядаў беларускі мастак Алесь Пушкін, па веравызнанні праваслаўны. Ён прайшоў шмат цяжкіх сітуацый у жыцці, быў на афганскай вайне, зведаў пакуты і цярпенні. Пушкін выразна паказаў драматызм Крыжовага Шляху Хрыста, перадаў усю паўнату фізічных пачуццяў і перажыванняў. Я хацеў, каб гэта быў роспіс, які б яднаў каталіцкую і праваслаўную традыцыі, якія існуюць у нашай краіне. Мне імпануе, што Алесь не стацыянарны мастак, ён увесь у творчым руху наперад. Ён здольны не капіяваць майстроў мінулага, а ствараць сваю ўласную кампазіцыю. Роспіс Пасхальнай Містэрыі быў выкананы ў адной колеравай гаме з усім касцёлам.

У траўні 2017 года часткі роспісу былі зманціраваны і замацаваны на сценах касцёла Божага. У святочны дзень пасля літургіі роспіс быў асвечаны Мітрапалітам Мінскім і Магілёўскім арцыбіскупам Тадэвушам Кандрусевічам.

**— Раскажыце, калі ласка, пра ідэю стварэння фестывалю хрысціянскай культуры.**

— Наш фестываль у Беразінскім — працяг мінулага, таго, што адбывалася раней. Хацелася б, каб літаратары, музыкі, мастакі збіраліся тут, каб праслравіць Бога, таму фестываль называецца «Laudato Si» (Будзь праслаўлены, Госпадзе). Габрыэля Пузыня была вельмі пабожнай. Зборнік яе вершаў у перакладзе Ірыны Багдановіч з маёй дапамогай выйшаў у 2018 годзе ў найлепшай якасці і ўдзельнічаў у кніжным кірмашы ў Варшаве. Графіня Габрыэля старалася не толькі захаваць сваю веру, але памножыць і падзяліцца з іншым. Яе спадчына передалася новым пакаленням, і цяпер мы адраджаем даўно забытае.





• *Роспіс «Пасхальная Містэрія»*

Першы фестываль у 2016 годзе быў цалкам музычным. Новы яго фармат аб’ядноўвае не толькі музыкаў, а прадстаўнікоў розных сфер культуры. У 2018 годзе мы запрасілі кінарэжысёраў, якія паказвалі свае стужкі ў Маладзечне. Лявон Грышук разгарнуў выстаўку. У Беразінскім адбыўся вялікі канцэрт.



• *Ксёндз Сяргей Бараўнёў*

Мы абапіраемся на Провід Божы. Усё тое, што робіцца, робіцца нездарма.

Ёсць Божае дабраслаўленне на тое, каб Беларусь была прыгожай і дагледжанай. Гэта залежыць ад усіх нас разам узятых, ад таго, як мы ставімся да сваёй зямлі, да сваёй мовы, культуры, да адносінаў паміж сабой. Усё гэта вельмі шчыльна звязана. Трэба быць даверлівым да канца Богу, і тады ўсё атрымліваецца.

**— Ксёндз Сяргей, раскажыце, калі ласка, пра сябе.**

— Я нарадзіўся і вырас у Маладзечне. Ніколі не думаў, што буду пробашчам парафіі, дзе ў 1942 годзе служыў ксёндз Ян Такарскі, які мяне хрысціў. Ён прайшоў праз сталінскія лагеры.

Вучыўся ў семінарыі ў Гародні. У 1997 годзе мяне высвяцілі на святара, і 25 траўня 1997 года адбылася мая першая святая імша. Даводзілася служыць у Магілёве, Бабруйску, Чавусах, Мсціславе, Крычаве, Мазыры, Мінску, Беразіно, Мар'інай Горцы, Багушэвічах і Раванічах. З 2005-га служу ў Беразінскім. Аўтар папулярнай песні «Малюся за цябе, Беларусь» і яшчэ некалькіх песняў.

Першы музычны фестываль прайшоў на нашай зямлі ў 2016 годзе.

Наш фестываль мае шэраг крытэрыяў. Ён праводзіцца без агітацыі і без палітыкі, у ім удзельнічаюць практыкуючыя вернікі. Яны павінны мець рэкамендацыю мясцовага святара ці пастара. У нас зона свабодная ад алкаголю і тытуню.

**— Дзякуем, ксёндз Сяргей, за вашу дзейнасць!**




• *Ікона Маці Божай Бялыніцкай і партрэт Габріэлы Пузыні пэндзля Алеся Пушкіна*

«26 кастрычніка 2019 года ў касцёле Божага Цела ў Беразінскім (Гарадзілаве) адбылося адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў гонар выбітнай беларускай польскамоўнай пісьменніцы XIX стагоддзя. Габрыэлі Пузыні (1815–1869), прымеркаванае да ўшанавання 150-х угодкаў яе адыходу ў вечнасць.

Мемарыяльная дошка з'явілася тут намаганнямі пробашча мясцовай парафіі ксяндза каноніка Сяргея Бараўнёва, які рупіцца пра ўшанаванне памяці тых слаўных продкаў, якія годна жылі і тварылі на нашай зямлі, захоўвалі жывую хрысціянскую веру, пакінулі нам, нашчадкам, цудоўную культурную спадчыну, вартую таго, каб яна напаўняла таксама нашу сучаснасць, даючы прыклад высокага мастацтва, прасякнутага любоўю да Бога і бліжняга», — паведаміў сайт Catholic.by.

«Да ўрачыстасці адкрыцця мемарыяльнай дошкі была таксама прымеркавана літаратурна-музычная імпрэза "Салон Габрыэлі Пузыні",

падрыхтаваная пра падтрымцы грамадскага аб'яднання "Міжнародная асацыяцыя беларусістаў", у якой удзел узялі прадстаўнікі творчай і навуковай інтэлігенцыі, мовазнаўцы, гісторыкі, архівісты, мастакі, музыкі, журналісты, музейныя супрацоўнікі. Мастак Алесь Пушкін прэзентаваў напісаны ва ўзнёсла-рамантычнай стылістыцы спецыяльна для гэтай імпрэзы партрэт "Старыя ліпы. Габрыэля Пузыня", а таксама копію абраза Маці Божай Бялыніцкай, што было сугучна чытанню верша Габрыэлі Пузыні "Касцёл у Бялынічах"», — напісала пра падзею паэтка і перакладчыца Ірына Багдановіч.

The book reflects the diversity of Christian culture in Belarus. Ales Susha who is a researcher of book culture and a candidate of cultural studies conducted a comprehensive study of the Brest Bible, the first Belarusian School Primer; jointly with his colleagues carried out the graphic arts quality of the Slutsk, Polotsk and Turov Gospels; he participated in the organization and holding of the large-scale international exhibition «Belarus and the Bible». The talented conductor Alexei Frolov organized concerts dedicated to the 500th anniversary of the Belarusian Bible and the 500th anniversary of the Reformation.

Aleksey Shein, a journalist and a writer, created a fantasy novel for teenagers about the faith, truth, freedom, wisdom of the Creator; he produced a film about the fate of Christians in Belarus as part of the USSR. The musician Pavel Suragin created the creative team «Brevis» and together with his students he promoted ancient European music. The actor and director Pavel Harlanchuk implemented a project as protection of life «My Heart Beats» and staged plays «The Bible of Prince Radziwill» and «1517»; he performs at the Theater named after Yanka Kupala.

The opera singer Ilya Silchukov plays the main roles in the performances of the National Academic Bolshoi Theater of Belarus; he promotes the traditions of opera art and serves a mission in the church Light of Truth. He was awarded the Francis Skorina Medal. Galina Sokolnik is a laureate of the 5th national festival-competition Eurydika and a singer who performs spiritual compositions and popularizes the work of Anna German.

The historian and local history expert Oleg Dyachkov conducts excursions to study the history of architectural monuments, castles, Roman Catholic and Orthodox Christian churches, organizes meetings with cultural figures of Belarus namely poets, writers and historians.

Sergey Dolgushev is a singer who conducts «Speynu Shod (signing gathering)» in different cities of the country, he preserves and promotes the folklore traditions of the Belarusian people, introduces children to musical instruments, represents Belarusian culture abroad.

The artist Jadwiga Senko paints splendid icons for Roman Catholic and Orthodox Christian churches, holds traveling exhibitions of paintings and icons in the museums and libraries. The Roman Catholic priest (Ksenyodz) and Canon Sergey Borovnev initiated the construction of two Roman Catholic churches, organizes festivals of Christian culture in the village Berezinsky.

Аўтар-укладальнік **Оліна (Дзвінская) Эла Ігараўна** нарадзілася ў 1965 годзе ў Віцебску. Скончыла факультэт журналістыкі БДУ. Сябра рэдкалегіі газеты «Наша слова» пры Таварыстве беларускай мовы імя Ф. Скарыны, аўтар артыкулаў у часопісе «Наша вера», газетах «Культура», «Народныя воля», «Новы час», «Наша слова», «Вместе!», «Вечерний Минск», «Медицинский вестник» на тэмы грамадскага, культурнага і духоўнага жыцця Беларусі. Аўтар ідэі, канцэпцыі і ўкладання зборнікаў нарысаў і інтэрв'ю: «Беларускае слова ад спеву», «Носьбіты вольнага слова», «Алесь Пушкін», «Добру вечно побеждать!», «Еднасць абаронцаў волі» і іншых. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў з 2016 года.



# ЗМЕСТ

Л59 **Лініі** святла : зборнік артыкулаў / уклад., прадм. Э. Дзвінскай. — Мінск : Кніга-збор, 2020. — 152 с. : [8] с. іл.

ISBN 978-985-7227-66-2.

Кніга прысвечана сучасным дзеячам культуры Беларусі і прадстаўнікам грамадскіх арганізацый, якія захоўваюць гістарычную і духоўную спадчыну беларускага народа, развіваюць хрысціянскія традыцыі ў даследаваннях кніжнай культуры, у літаратуры, музыцы, тэатральным мастацтве, жывапісе.

**УДК [325.2+94](=161.3)(73)**
**ББК 66.3(4Беи)????**

У кнізе выкарыстаны фота Марыі Войцік, Аляксея Фралова, Элы Дзвінскай, з сайтаў www.budzma.org, www.nlb.by і іншых

**16+**

Літаратурна-мастацкае выданне

**ЛІНІІ СВЯТЛА**

*Зборнік артыкулаў*

Укладанне Элы Дзвінскай

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *А. Спрытніч*
Дызайн вокладкі *Л. Красікава*
Вёрстка *Л. Гарадзецкай*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана ў друк 14.08.2020. Фармат 60×84 1/16. Папера афсетная. Друк лічбавы.
Ум. друк. арк. 5,12 + 0,42 укл. Ул.-выд. арк. 9,25. Наклад 80 ас. Заказ. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.